# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

## НА 1970 ГОД

XIV ГОД ВЫДАННЯ

БЕЛАСТОК

ВЫДАВЕЦТВА: ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ

РЭДАКТАР

Мікола Гайдук

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Юры Валкавыцкі
Уладзімір Юзвюк
Міхась Хмялеўскі

КАРЭКТАР

Валянціна Жэшка

ВОКЛАДКА

Аркадзь Нікановіч

*ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!*

*Аддаем у Вашыя рукі беларускі каляндар на 1970 год. Спадзяемся, што кожны з Вас знойдзе ў ім цікавае і карыснае для сябе.*

*Дарослыя пацікавяцца перспектывамі меліярацыі, вырошчваннем лесу і справамі сельскагаспадарчых гурткоў. Нашыя настаўнікі знойдуць у ім вершы сучасных беларускіх савецкіх паэтаў і беларускія песні для скарыстання на занятках з моладдзю. Творчая інтэлігенцыя напэўна зверне ўвагу на навукова-папулярныя артыкулы.*

*Усім жа прапануем артыкулы пра У. І. Леніна, нашых слаўных землякоў, матэрыялы з VI з'езда БГКТ.*

*Прыемнага чытання!*

*РЭДКАЛЕГІЯ*

Wydawca: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Polsce z siedzibą w Białymstoku. Nakład 6 000 egz. Ark. druk. 17,5 razem z wkładką „Calendarium". Ark. wyd. 19,5. Papier kl. V 70 g. Oddano do składania 19 września. Podpisano do druku i druk ukończono w grudniu 1969 r. Drukowano w Białostockich Zakładach Graficznych. Zam. 2870. H-3

## ЛЕНІН РАДЗІЎСЯ ДЛЯ ЎСІХ

Ленін радзіўся, калі крыгалом
Край вызваляў ад зімы.
Днём гэтым будзіць раскованы гром
Кожны закутак нямы.
Ленін радзіўся, калі ў вышыні
Цёплая сцелецца сінь.
Днём гэтым сонца нясе, як з
сяўні,
Зерні святла для краін.
Ленін радзіўся, калі на зямлі
Б'юцца крыніцы з выток.
Днём гэтым бурна,
каб далі цвілі,
Пеніцца радасны сок.
Ленін радзіўся, каб вечна гады
Нас абнаўлялі і час.
Ленін радзіўся, прыйшоў назаўжды
У сэрца —
для кожнага з нас.
Ленін радзіўся для ўсіх — і для тых,
Хто яшчэ прыйдзе ў свой век,
Ён — тая вечнасць, што ў справах
сваіх
Стварае тытан — чалавек.
Пройдуць часы, многа дзён адплыве,
Толькі не сціхне, як гімн:
— Ленін радзіўся, Ленін жыве,
Заўтра нашае з ім!

**Кастусь Кірэенка**

*Мгр ВЯЧАСЛАЎ ГАЎРУЧЭНКАЎ*

## ПРАВАДЫР РЭВАЛЮЦЫІ

22 красавіка 1970 года спаўняецца сотая гадавіна са дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

Хто сёння на свеце не ведае Уладзіміра Леніна — правадыра рэвалюцыйнага рабочага руху, заснавальніка партыі бальшавікоў, кіраўніка Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі, заснавальніка Савецкай Дзяржавы!

Уладзімір Ільіч Ленін (Ульянаў) нарадзіўся ў Сімбірску ў 1870 годзе. Закончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Ужо быўшы студэнтам Казанскага універсітэта арганізаваў першыя марксісцкія гурткі. У 1895 годзе з адасобненых марксісцкіх гурткоў засноўвае ў Пецярбургу Саюз Барацьбы за Вызваленне Рабочага Класа. У. І. Ленін імкнуўся сарганізаваць усерасійскую сацыял-дэмакратычную партыю. Аднак за дзейнасць у Саюзе Барацьбы ён і яго сябры былі арыштаваны. Царскія ўлады ссылаюць Леніна ў 1897 годзе ва Усходнюю Сібір на тры гады пад афіцыйны нагляд паліцыі. Не гледзячы на цяжкія ўмовы жыцця і дзейнасці ў ссылцы, Ленін і там працягвае сваю працу. Ён арганізуе актыўную перапіску са шматлікімі ссыльнымі сацыял-дэмакратамі, якія знаходзіліся ў розных адлеглых кутках Сібіры і Поўначы.

У 1900 годзе ссылка У. І. Леніна закончылася, і ён выязджае за граніцу. Пасяляецца ў Швейцарыі і тут засноўвае марксісцкую газету „Іскра", якая адыграла рашаючую ролю ў аб'яднанні адасобненых марксісцкіх гурткоў у сацыял-дэмакратычную партыю. Пачынаючы з 1903 года, У. І. Ленін кіруе рэвалюцыйным бальшавіцкім крылом расійскай сацыял--дэмакратычнай партыі. У 1912 годзе, дзякуючы яго ініцыятыве, паўстала самастойная бальшавіцкая партыя, якая з'яві-

лася верным і пераможным кіраўніком расійскага пралетарыята ў яго барацьбе за звяржэнне капіталізму і пабудову сацыялістычнага грамадства.

У 1912—1914 г. г. У. І. Ленін жыў у Кракаве і Пароніна. Адтуль ён кіраваў рэвалюцыйным рухам у Расіі.

У часе I сусветнай вайны Ленін жыў у Швейцарыі, і там праводзіў шырокую і актыўную дзейнасць за аб'яднанне левага крыла сацыял-дэмакратычных партый Еўропы.

У красавіку 1917 года У. І. Ленін вяртаецца ў Расію і ўзначальвае падрыхтоўку да сацыялістычнай рэвалюцыі. У славутыя кастрычніцкія дні 1917 года ён непасрэдна кіруе ўзброеным паўстаннем расійскіх працоўных мас. Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі Леніна выбірае II З'езд Саветаў Старшынёй Савета Народных Камісараў. Ён быў творцам праграмы пабудовы сацыялізма ў Краіне Саветаў і ініцыятарам утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян. У 1919 годзе па яго ініцыятыве паўстаў III Камуністычны Інтэрнацыянал — арганізацыя, якая аб'ядноўвала ўсе марксісцкія партыі свету.

Уладзімір Ільіч Ленін памёр 21 студзеня 1924 года ў Горках каля Масквы.

Якім быў гэты чалавек, дзейнасць якога адкрыла ў жыцці ўсяго чалавецтва новую эру?

Англійскі пісьменнік Герберт Уэльс, які сустракаўся з Леніным неўзабаве пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, назваў яго „крамлёўскім летуценнікам". І ці ж можна было інакш назваць чалавека нават такой велічыні, як У. І. Ленін, які ўяўляў сабе пабудову сацыялізма ў Расіі, патанаўшай у тым часе ў паслярэвалюцыйным хаосе, на якую з усіх бакоў наступалі палчышчы ворагаў, а ўнутры пашыраўся страшэнны голад і эпідэміі заразлівых хвароб? Зрэшты, У. І. Ленін неаднаразова ў сваіх выказваннях і спрэчках з дзеячамі, якія хваліліся сваёй „цвярозасцю" і „рэалізмам", гаварыў: „мы павінны марыць". Ленін даказваў: рэвалюцыйныя мары бліжэй у сваім летуценні да рэальнасці і цвярозай ацэнкі рэчаіснасці, чым нібы-рэалізм без узлёту. Ён адклікаўся да вялікага рускага пісьменніка-дэмакрата Д. Пісарава, які сцвярджаў: „Калі б чалавек быў зусім пазбаўлены здольнасці марыць... калі б не мог час ад часу забягаць наперад і ў сваім уяўленні бачыць поўны і закончаны вобраз таго свайго твору, які толькі што начынае фармавацца ў яго руках — я ў такім выпадку абсалютна не магу сабе прадставіць — якое б пабуджэнне прымусіла б чалавека пачынаць і даводзіць да канца вялікія і вычэрпваючыя сілы працы ў галіне мастацтва, навукі і практычнага жыцця".



Ленінская мара-прагноз, мара творчая і працавітая заўсёды спадарожнічала савецкім народам у іх маршы да ўсё новых перамогаў.

У. І. Ленін быў надзвычай прылюдным простым чалавекам. Ён вельмі любіў жыццё ва ўсіх яго праяўленнях. Патрапіў з яго пачэрпваць радасць. Сябры па барацьбе і працы права-



*У. І. Ленін і Я. М. Свярдлоў ля помніка К. Марксу і Ф. Энгельсу 1918 г.*



*У. І. Ленін на Чырвонай Плошчы ў Маскве. 1 мая 1919 г.*

дыра рэвалюцыі расказвалі, што нават кароткая сустрэча з Леніным давала магчымасць заўважыць яго энергію, замілаванне жыццём, пагодны гумар і дасціпнасць.

У. І. Ленін вельмі любіў слухаць музыку. У хвілінах адпачынку, якія здараліся вельмі рэдка, ён з любасцю слухаў ігры



свае сястры Марыі на фартэпіяна. Яна выконвала яго любімыя творы Бетховена, Шапэна, Грыга, Мендэльсона. З замілаваннем слухаў і сам спяваў народныя і рэвалюцыйныя песні: »Дубінушку«, »Назаві мне той прытулак...«, »Варшавянку«, »Смела, таварышы...«, »Чырвоны сцяг«, »Інтэрнацыянал«, »Марсельезу«.

У штодзённым жыцці Уладзімір Ільіх быў простым і скромным. Адзін з дзеячоў французскага рабочага руху Г. Мутму-



*У. І. Ленін і Н. К. Крупская ў Горках пад Масквой. 1922 г.*

зот, які быў на сустрэчы з Леніным у канцы 1922 года, пісаў: „Французскі друк няспынна прадстаўляе правадыроў рускай рэвалюцыі як нашчадкаў буржуазнага камфорту, а нават роскашы. Аб'яўляючы прынцыповую барацьбу супроць усялякага паклёпу, які пашыраецца ў друку, я аднак дапускаў, што людзі, якія аслаблены шматгадовым зняволеннем, катаргай, смяротнай небяспекай, тыя, што аддалі ўсе свае сілы справам рэвалюцыі, маюць права на нейкі мінімальны камфорт, на адпачынак, на некаторыя прывілеі ў галіне тран-

спарту, умоў працы і г.д. Тым больш мяне ўразіла скромнасць памяшкання, у якое нас увялі, а таксама звычайнасць мэблі. Яшчэ большае зрабіў на мяне ўражанне сам Ленін«.

І сапраўды, кватэра Леніна была надта скромная. Яна складалася з такой колькасці пакояў, якая была неабходнай для яго і членаў сям'і, якія, на дадатак, таксама выконвалі адказныя грамадскія абавязкі. Даволі было адчыніць дзверы, каб адразу апынуцца ў кватэры чалавека з невялікімі вымаганнямі, але сапраўды культурнага. Усё тут звычайнае, чыстае, акуратнае; усё — на сваім месцы, без роскашы, без паказной элегантнасці. Няма ніякіх прадметаў пышнасці, ніякіх рэчаў, якія невядома да чаго патрэбны.

Уладзіміра Ільіча не займала тое, з чаго невялікая карысць для сэрца і розуму, а што з'яўляецца вынікам цяжкай працы, слёз, нэндзы і непрадуктыўнай траты сіл іншых людзей. Словам, гэта не быў надуманы аскетызм, але натуральная адсутнасць патрэбы ў тым, без чаго можна абысціся.

Апранаўся Ленін звычайна, не меў запасаў вопраткі і абутку, апрача таго, што насіў. Яму не перашкаджала тое, што яго касцюм і шапка-вушанка служылі значна даўжэй, чым павінны. Лінкольн Арэ, карэспандэнт адной нью-ёркскай газеты, які быў у Савецкай Расіі ў 1922 годзе і бачыўся з Леніным, пісаў: „Няцяжка апісаць яго вопратку: траха накрухмалены белы каўнерык, чорны гальштук і цёмна-карычневы пінжак, нагавіцы, упушчаныя ў доўгія, да кален, валенкі — самы цёплы від абутку...".

Л. Арэ звяртае ўвагу на магутны інтэлект У. І. Леніна: »Ён вылучаўся інтэнсіўнай разумовай працай, аграмадным інтэлектуальным напружаннем, якое, несумненна, з'яўляецца яго адметнай рысай. Гэты чалавек мае ў сабе магутную сілу прыцягвання. У яго чароўная ўсмешка і смех, які перадаецца іншым. Ён ветлівы і сімпатычны«.

Уладзімір Ільіч Ленін быў вельмі скромным у штодзённым жыцці чалавекам. Не шмат вымагаў, калі гэта адносілася да яго ўласнай асобы. Адначасова быў ён непрымірымы ў адносінах да эксплуататараў народных мас.

*Мгр Уладзімір Юзвюк*

## ШАФЁР УЛАДЗІМІРА ІЛЬІЧА ЛЕНІНА

Так некаторыя польскія часопісы (»Panorama Północy«, »Głos Wybrzeża«, »Walka Młodych«), называюць Язэпа Жэлязоўскага з вёскі Германішкі, Лідскага раёна, БССР, які ад 1945 года пражывае разам з сям'ёю ў Гданьску. І сапраўды, Я. Жэлязоўскі быў удзельнікам Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі. Ад 7. XI. 1917 года да часу перанясення сталіцы Савецкай дзяржавы ў Маскву (сакавік 1918 года) быў ён накіраваны Петраградскім рэўкомам вадзіць легкавую машыну і адначасова ахоўваць працаўнікоў Савецкага Урада.

У. І. Ленін у той час асабістага шафёра не меў і карыстаўся аўтамашынамі, якія знаходзіліся ў Смольным інстытуце. На пачатку 1918 года было іх — як успамінае Я. Жэлязоўскі — усяго шэсць, а пад канец яго службы ў Смольным разам з грузавікамі — каля сарака.

Язэп Жэлязоўскі навучыўся вадзіць аўтамашыны ва Уладзівастоку, куды ён трапіў у 1916 годзе на ваенную службу. Хутка аднак быў пераведзены на Заходні фронт, пад Рыгу. Тут пачаў вазіць штабных афіцэраў, быў ранены, атрымаў некалькі георгіеўскіх крыжоў, пасля быў накіраваны ў Петраград вазіць флоцкае начальства. У Петраградзе ўпершыню сустрэўся з бальшавікамі, шчыра пераняўся іх ідэямі і пачаў аказваць ім дапамогу. Возячы царскіх афіцэраў, тайком перавозіў бальшавіцкія лістоўкі. У першыя дні рэвалюцыі пакінуў службу ў афіцэраў і прыйшоў у Петраградскі рэўком. Жэлязоўскі ўжо не прыпамінае прозвішча таго чалавека, які даў ім загад самім знайсці машыны і прывесці іх у рэўком. З увагі на невялікую колькасць аўтамашын у той час, заданне было

даволі складанае. Жэлязоўскаму проста пашанцавала. Нейкі дворнік паказаў яму дом купца, які ў кучы дошак і дроў схаваў новую адкрытую машыну маркі »Бюк«. Знайшліся нават да яе ўсе запасныя часткі, і праз два дні Я. Жэлязоўскі атрымаў першы загад выезду пад Смольны.

— Стаю так насупроць уваходу ў Смольны і чакаю, — расказвае Я. Жэлязоўскі. — Урэшце выходзіць невысокі, крыху пахілы мужчына ў кепцы і цёмным плашчы, з рукамі зало-



*Я. Жэлязоўскі ў гады службы ў арміі.*

*Фота — Архіў*



жанымі назад. Звярнуў я ўвагу на яго твар, быстрыя пранілівыя вочы і характэрную бародку.

— Гэта вы едзеце на Пуцілаўскі завод? — спытаў ён мяне з нейкай шчырай дабратлівай усмешкай.

— Так, гэта я накіраваны, — адказваю.

— Добрая машына?

— Добрая, — адказваю. — »Бюк«.

— Я не пытаю пра марку. Праз дзесяць мінут паедзем, — сказаў.

Гэта быў Ленін.

Такой засталася ў памяці Я. Жэлязоўскага першая сустрэча з Леніным.

»Усю дарогу нешта гаварылі. Правадыр рэвалюцыі запытаўся ў Желязоўскага, калі той далучыўся да бальшавікоў і яшчэ пра некалькі менш істотных спраў. Даехалі даволі хутка. У. І. Ленін падзякаваў мне, і ўсе пайшлі на завод, а я застаўся пры машыне...«

На працягу васьмі месяцаў Я. Жэлязоўскі праехаў па Петраградзе і яго ваколіцах каля шасці тысяч кіламетраў.

Яму нават давялося есці з Леніным з адной вайсковай менажкі. Факт гэты польскія часопісы (»Walka Młodych« і »Panorama Północy« 1965 год) прадстаўляюць наступным чынам:

»... Аднойчы (Ленін) вельмі доўга выступаў на Пуцілаўскім, хіба з чатыры гадзіны. Я ж ведаў, што пасля маем яшчэ ехаць на Выбаргскую старану. Рабочыя завода далі мне і ахове па менажцы добрага супу. Яшчэ я не пачаў есці, як нечакана падышоў Ленін у аўтамашыну і сеў на пярэдняе месца.

— Чаму вы не ясце, Жэлязоўскі? — спытаў.

— А я на вас чакаю, таварыш Ленін, — адказваю.

— А лыжка ў вас ёсць? — пытае далей Ленін.

Былі такія здарэнні, што рускі салдат згубіў карабін, але ніколі не здарылася так, каб згубіў ён... лыжку. Вымаю я з-за халявы лыжку, абціраю яе крысом шынелі і падаю. Меў я таксама і кусок хлеба. (Нам, ахове, выдавалі па поўкілаграма хлеба ўдзень, а гэта на той час было вельмі добра). Ленін падсеў да менажкі, з'еў крыху і падаў мне:

— Вы не елі яшчэ, а будзеце ж доўга сёння са мною працаваць, Іосіф Аляксандравіч...«

Іншым разам Я. Жэлязоўскі вазіў У. І. Леніна і Н. К. Крупскую ў Гатчыну і Царскае сяло на адпачынак. На жаль, нічога не змог нам аб гэтых паездках сказаць — заўсёды заставаўся пры аўтамашыне.

Пасля некалькіх месяцаў лік шафёраў пры Смольным павялічыўся, але не хапала аўтамашын. У сувязі з гэтым на кожнай аўтамашыне працавала двух шафёраў. Жэлязоўскі

таксама адзін дзень ездзіў з 7 гадзін па 22 гадзіну ў якасці шафёра, а на другі дзень назначаўся ў ахову Урада. Таму ён добра памятае постаці не толькі Леніна, але і Троцкага, Зіноўева, Сталіна і іншыя асобы.

Аднак, незалежна ад дасканалага здароўя, яго 74 гады жыцця і адлеглы час аказалі адмоўнае ўздзеянне на захаванне ў памяці многіх фактаў.

»Да таго ж, — успамінае Жэлязоўскі, — не зусім яшчэ ціхаходны васьміцыліндравы «Бюк» заглушаў гутарку пасажыраў. А трэба ж памятаць, што хацелася весці машыну роўна, уважна, каб не раз'ехаць усхваляваных, не прызвычаеных да аўтаруху жыхароў горада, уважна глядзець на бакі — гэта ж рэвалюцыя«.



*У. І. Ленін і Н. К. Крупская ў час чарговай паездкі з Я. Жэлязоўскім.*
*Фота — Архіў*

Незалежна ад усяго з гутаркі з Я. Жэлязоўскім яўна вынікае, што У. І. Ленін любіў ехаць адкрытай машынай, глядзець на горад Петраград, на людзей. Калі ехаў сам, сядаў побач з шафёрам, шмат гутарыў з ім на палітычныя тэмы, выпытваў пра настроі сярод працоўных, ставячы пры гэтым такія пытанні, як: «Што чуваць у народзе? Я ж не ўсё ведаю, а вы як мой прыяцель, кажыце мне шчыра«. Ленін таксама цікавіўся асабістымі справамі шафёра: ці мае дома бацькоў, ці перапісваецца з імі, ці хоча дамоў і г.д.



Калі У. І. Ленін ехаў яшчэ з кім-небудзь, яны сядзелі заўсёды на апошнім месцы ў аўтамашыне, адкуль, відавочна, лепш было вітацца з народам. Ён часта затрымліваў машыну і гутарыў з салдатамі, прахожымі, дзяцьмі. На колькі прыпамінае сабе Жэлязоўскі, Ільіч ніколі нічога ім не абяцаў. На пытанні любіў адказваць: »Трэба змагацца, перамагчы ворагаў, крыху патрываць — рэвалюцыя! Потым будзе добра«.



*Я. Жэлязоўскі ў Белавежы.*
*Фота — У. Юзвюк*

Калі Ленін ехаў у калоне машын, заўсёды сядаў у першую аўтамашыну і ніколі не даўся пераканаць, што больш бяспечна ехаць у сярэдзіне калоны. На жаль, Я. Жэлязоўскі прычын такіх паводзін Ільіча не можа высветліць.

Ленін не любіў ездзіць хутка. Шмат разоў паўтараў Жэлязоўскаму: »Люблю з вамі ездзіць: вядзеце машыну спакойна, надзейна«. Аднойчы, сыходзячы позна вечарам з машыны, Ленін сказаў: »Заўтра зноў разам едзем? — Мабыць, не, — адказваю. — Я прыдзяляюся ў ахову. — Тады прышліце хоць свайго добрага таварыша«.

Ленін не курыў. У кожным выпадку Я. Жэлязоўскі ніколі яго не бачыў з папяросай. Не здарылася ўбачыць Ільіча моцна знерваваным. Заўсёды ён сядаў у машыну і сыходзіў з яе ў добрым настроі. Аднойчы толькі, перад чарговым выездам, пачуў на калідоры Смольнага, як Ленін нешта станоўча сказаў Сталіну, а той махнуў рукою і адказаў: »Ерунда«. Ленін затрымаўся і сказаў: »Я загадваю вам яшчэ сёння ж выканаць гэта«, — і выйшаў.

Я. Жэлязоўскі ніколі не заўважыў, каб У. І. Ленін меў пры сабе зброю. Насілі яе заўсёды Зіноўеў і Сталін.

Урэшце Жэлязоўскі сцвярджае, што, вельмі часта паасобныя вядучыя супрацоўнікі У. І. Леніна ездзілі ў паасобку, па адным з правадыром рэвалюцыі. Пры гэтым Ільіч заўсёды вёў з імі спакойную творчую дыскусію.

Пасля перанясення сталіцы Савецкай дзяржавы ў Маскву, Я. Жэлязоўскі быў накіраваны да аховы чыгункі Петраград — Віцебск. Там ён праслужыў да 1923 года, ажаніўся і вярнуўся дамоў. У міжваенны перыяд ездзіў на прыватных машынах, у тым часта з-пад Ліды ў Варшаву з сельскагаспадарчымі прадуктамі. Пры гэтым некалькі разоў перавозіў патаемна камуністычныя лістоўкі.

У 1945 годзе, па жаданню сваёй жонкі Ядвігі, Жэлязоўскі пераехаў у Гданьск. Пасля 44 год працы, ён пайшоў у 1962 годзе на пенсію. У апошняй характарыстыцы, якую выдала яму Гданьскае будаўніча-транспартнае прадпрыемства, гаворыцца, што ведаў ён і любіў сваю працу, быў здысцыплінаваным, карыстаўся паважаннем сярод сяброў, аказваў дапамогу маладшым...

Выхад у пенсію зусім не перашкодзіў Жэлязоўскаму прымаць актыўны ўдзел у грамадскай працы. Ён увесь час удзельнічае ў сустрэчах з насельніцтвам, вучнёўскай моладдзю. Быў узнагароджан урадам СССР ордэнам »Чырвонай Зоркі«.

На нашае пытанне, ці не адчувае сябе змучаным, Жэлязоўскі сказаў:

— О, не! Я надта люблю грамадскую працу. Будучы членам Саюза Барацьбітоў за Свабоду і Дэмакратыю (ЗВоВіД) і Таварыства Польска-Савецкай Дружбы (ТПП-Р) праводжу многа сустрэч з дзяцьмі і насельніцтвам. Здароўе яшчэ служыць. Зрэшты, мой бацька жыў 94 гады, дзедка — 118 год, дык і я хачу яшчэ год дваццаць папрацаваць.

Сапраўды, у гэтым выказванні няма перабольшання. Я. Жэлязоўскі правёў на працягу аднаго дня (17.III.1969 г.) дзве сустрэчы. Адну з моладдзю Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім, другую — у клубе Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, а ў міжчасе наведаў Белавежу.

Жадаем добрага здароўя і доўгіх год шаноўнаму таварышу Язэпу Жэлязоўскаму.

БАРЫС НІКІЦЮК

# СЛАЎНЫЯ ЛЮДЗІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## ПАЛЫМЯНЫ РЭВАЛЮЦЫЯНЕР

З Беласточчыны паходзіць многа выдатных людзей. Да іх належыў і Вацлаў Багуцкі. Нарадзіўся ён у 1884 годзе ў сям'і рабочага. Закончыў школу ў Беластоку, а потым стаў працаваць слесарам. Калі яму было 20 год, уступіў у рады Сацыялдэмакратычнай партыі Каралеўства Польскага і Літвы. Ужываў псеўдонімы: «Вацэк», «Аляксандр», «Шпак». У 1906 годзе, будучы дэлегатам беластоцкай арганізацыі, прымаў удзел у славутым V з'ездзе СДКПіЛ.

»Памятаю, пасля поўдня, у 1906 годзе, — піша ў сваіх успамінах Вацлаў Багуцкі, — мы якраз пасілкаваліся на панадворку майстра Чаховіча. Раптам надышла царская жандармерыя«.

Багуцкі кінуўся наўцёкі, бо меў пры сабе патаемныя пісьмы. Хутка аднак зразумеў, што ён акружан і не мае ніякіх магчымасцей уцячы. Тады доўга не думаючы праглынуў лісты. Пасля арышту быў так скатаваны, што з носа і вуснаў лілася кроў. Па падазрэнню прасядзеў у турме 10 месяцаў.

У 1908 годзе арганізуе ён мітынг на лугу Фрыткіса ў Беластоку. Прынялі ў ім удзел рабочыя-тэкстыльшчыкі з фабрык Фрыткіса, Комыха і Вячорка. Мітынг акружыла паліцыя, і пад пагрозай расстрэлу загадала сабраўшымся разысціся. Адначасова яна запытала, хто кіраваў мітынгам. Тады Багуцкі сказаў, што гэта ён вёў мітынг. Гэтага хапіла, каб ён адразу трапіў у турму.

Пасля выхаду з турмы Багуцкі выязджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі і там актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі СДКПіЛ. Праз год нелегальна вяртаецца на радзіму. Яго няспынна праследуе паліцыя. Сям'ю Багуцкага амаль штодзённа наведваюць жандары. Урэшце ён не вытрымоўвае нервова і рашае дабравольна аддацца ў рукі паліцыі. Яго здалі ў салдаты. Апынуўся ён у Тыфлісе. Але і тут ён не спыняе свае рэвалюцыйнае працы. Амаль з першых дзён уключаецца ў дзейнасць арганізацый партыі бальшавікоў, якія працавалі ў войску. Адначасова прыкладвае шмат намаганняў, каб сарганізаваць групу СДКПіЛ у Тыфлісе. Калі яна ўзнікае, яго выбіраюць старшынёй групы.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі арганізуе саветы салдацкіх дэпутатаў. Адначасова ён член Тыфліскага Выканаўчага Камітэта Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У 1918 годзе Багуцкі вяртаецца на радзіму і ўзначальвае Камітэт СДКПіЛ у Беластоку. Аднак яго неўзабаве арыштоўваюць немцы. Пры дапамозе сваіх таварышаў ён, пасля тыдня побыту ў турме, уцякае адтуль.

У 1919 годзе ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў Камуністычнай рабочай партыі Польшчы ў Беластоку. Пры Тымчасовым Рэвалюцыйным Камітэце Польшчы быў ён камендантам горада Беластока. У часе адступлення Чырвонай Арміі яго злапалі польскія ўлады і заняволілі ў канцлагеры. Але і на гэты раз, пры дапамозе намесніка каменданта канцлагера, у мундзіры вартаўніка, яму ўдаецца ўцячы. Месяц ён хаваецца ў Беластоку, а потым нелегальна пераходзіць граніцу і трапляе ў Савецкі Саюз.

Пра далейшы лёс і дзейнасць Вацлава Багуцкага мы даведваемся з »Кнігі палякаў, якія прымалі ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі«. Там мы знаходзім наступнае:

»У 1919—1920 г. г. быў ён членам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі, старшынёй спецыяльнага аддзела ў Народным Камісарыяце Унутраных Спраў Літоўска-Беларускай Рэспублікі. Потым быў членам Арганізацыйнага Бюро ЦК КПЛіБ і працаваў у Бюро па справах нелегальнай працы ЦК КПЛіБ. З'яўляўся дзеячом камуністычнай партыі Літвы ў Коўне ў 1920—1921 годзе. Пасля вяртання ў РСФСР ён, член са стажам ад 1904 года, працуе ў Расійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў), ад 1 кастрычніка 1921 года па май 1922 года кіраўніком Арганізацыйнага Аддзела Цэнтральнага Бюро КП(б) Беларусі, ад мая 1922 года па люты 1924 года ён з'яўляецца сакратаром Цэнтральнага Бюро КП(б)Б і адначасова намеснікам старшыні Савета Народных Камісараў БССР (ад снежня 1922 г. па сакавік 1924 г.). Член Беларускага Арганізацыйнага Бюро ЦК РКП(б) ад лютага па май 1924 года. Багуцкі быў выбраны ў сакавіку 1924 года ў члены Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Ка-

мітэта БССР. Удзельнічаў у X (1921), XI (1922), XII (1923), XIV (1925), XV (1927), XVI (1930) з'ездах і XIV (1925) канферэнцыі Усерасійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў). Быў дэлегатам на V (1921), VI (1922), і VII (1923) з'езды Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Прымаў удзел у I (1922) і II (1924) Усесаюзным З'ездзе Саветаў. Член Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР ад 1922 года. Удзельнік II (1923) з'езда Камуністычнай рабочай партыі Польшчы. Прадстаўнік КРПП у Выканаўчым Камітэце Камуністычнага Інтэрнацыянала ў гадах 1924—1926. У 1926 годзе ён член Прэзідыума Камітэта. Удзельнік III (1925) і IV (1927) з'ездаў Камуністычнай партыі Польшчы. Член Цэнтральнага Камітэта КПП у 1925—1930 гадах. Дакладчык па арганізацыйных справах на IV (1925) канферэнцыі КПП. Слухач курсаў марксізма ў Маскве ў гадах 1927—1928. Старшыня Цэнтральнага Камітэта Прафесіянальнага Саюза работнікаў сувязі ў гадах 1929—1933. Намеснік старшыні Рабоча-Сялянскай Інспекцыі ў Маскве ў 1934 годзе. Намеснік старшыні Усесаюзнага аб'яднання хімікаў у гадах 1934—1935. Старшыня Скандынаўскай Секцыі Выканаўчага Бюро Чырвонага Інтэрнацыянала Прафесіянальных Саюзаў у гадах 1934—1937. Член калегіума Краёвага спецыяльнага суда ў Хабараўску ад 1937 года. Восенню 1937 года ён быў арыштаваны на падставе фальшывых абвінавачванняў. Загінуў 19 снежня 1937 года. 31 сакавіка 1956 года пасмертна рэабілітаваны«.

Беластачанін Вацлаў Багуцкі быў палымяным рэвалюцыянерам і інтэрнацыяналістам. Усё сваё жыццё прысвяціў шляхетнай справе рэвалюцыі і сацыялізма.



## ШАБЛЯЙ ВЫРУБАЎ СВАЮ БІЯГРАФІЮ

Постаць Пятра Баровіча наогул мала вядома жыхарам Беласточчыны. А прозвішча гэтага нашага земляка, які паходзіў з Сувальскага павета, упамінаецца ў »Гісторыі Грамадзянскай вайны СССР« побач Чапаева — легендарнага камандзіра дывізіі тых часоў.

Кім быў Пётр Баровіч?

Нарадзіўся ён у 1890 г. у сям'і сярэднезаможнага селяніна на Сувальшчыне. З маленства праяўляў зацікаўленне да кнігі, газеты і ведаў пра войска. Матэрыяльныя ўмовы меў нялёгкія. Бацька аднак рашыў даць яму адукацыю. Пра вышэйшую навучальную ўстанову не было чаго і марыць, таму Баровіч, за парадай бацькі, паступіў у Сувальскую настаўніцкую семінарыю. Праўда, выбарам напрамку свае навукі не быў ён захоплены, бо марыў пра вайсковую кар'еру, але ўсведамляў сабе, што ў запалоненай рускім царом Айчыне сын польскага селяніна не мае ніякіх магчымасцей паступіць у афіцэрскую школу.

Міналі гады. Нарэшце наступіў для сям'і Баровічаў доўгачаканы дзень — Пётр з выдатнымі вынікамі закончыў настаўніцкую семінарыю. Радасць усё ж трывала нядоўга. Пятру не знайшлося на Сувальшчыне працы ў прафесіі настаўніка.

Малады выпускнік, з дыпломам, які даваў яму права да навучання, вандруе ў свет. Затрымоўваецца ў Лодзі. Тут пачынае працу ў адной са школ. Неўзабаве яго мабілізуюць у царскае войска, а потым накіроўваюць у III Маскоўскую школу прапаршчыкаў. Закончыў ён яе 1 мая 1915 г. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года застае яго на фронце. Пётр Баро-

віч з энтузіязмам уключаецца ў барацьбу. Выступае з прамовамі на мітынгах, арганізуе салдацкія камітэты і саветы: яго вайсковае падраздзяленне вызваляе палітычных вязняў у Белгарадзе, арыштоўвае мясцовых саноўнікаў, паліцыянтаў і жандараў, нясе адказную службу па ахове парадку, разам з чыгуначнікамі і рускімі рабочымі прымае ўдзел у дэманстрацыях, ідзе ў паходзе пад чырвонымі сцягамі.

Прынятая рэзалюцыя на мітынгу салдат польскага белгародскага палка асуджае нейтральную пазіцыю ў адносінах да рускай рэвалюцыі, падкрэслівае неабходнасць актыўнага ўдзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе супольна з польскім і рускім пралетарыятам, а пасля вяртання на Айчыну — далучэння да барацьбы польскіх працоўных, каб »не дапусціць да ўлады ў Польшчы ўласніцкіх класаў і рэакцыі«.

Салдаты Белгародскага палка выразна і рашуча акрэслілі свае адносіны да рэвалюцыі і сталі на яе баку. У палкавым камітэце, у склад якога ўваходзіў штабскапітан Пётр Баровіч, у большасці былі староннікі рэвалюцыі. Таму, калі Карнілаў ішоў на Петраград з намерам захапіць уладу, белгародцы наперакор генералу Доўнар-Мусніцкаму сталі ў абароне рэвалюцыі. Вайсковая часць, якая налічвала тысячу салдат, пад камандаваннем капітана Баровіча накіравалася ў Харкаў. Пасля разгрому карнілаўскай контррэвалюцыі Пётр Баровіч на працягу трох месяцаў нясе гарнізонную службу ў гэтым горадзе.

У баях паўставалі »песні перамогі«. Вось урывак адной з іх, якая спадарожнічала польскім рэвалюцыянерам у Расіі:

»Не на службу ў паноў,
Не трон іх узмацняць крывавы —
Свабоду народа бараніць гатоў
Чырвоны полк Варшавы...«

З асяроддзя белгародцаў была сфармавана ў лютым 1918 года польская кавалерыйская часць, якая пад камандаваннем Пятра Баровіча праславілася ў цяжкіх змаганнях на Украіне супроць нямецка-аўстрыйскім інтэрвентам.

Гэтую часць потым называлі »Палком перамогі« або »Палком Баровіча«. Ужо ў першых аперацыях, праведзеных на Украіне, полк адзначыўся высокімі вайсковымі якасцямі. У баях пад Курскам амаль ушчэнт разбіў нямецкую дывізію. Аднак і страты, якія ён пацярпеў, былі вельмі вялікія. Даходзілі яны да 50% асабовага складу часці. У маі і чэрвені часць Баровіча была папоўнена салдатамі Варшаўскага палка і перафармавана ў кавалерыйскі дывізіён (»дывізіён Баро-



віча«), а потым накіравана на Усходні фронт, які пачаў ужо фармавацца.

Летам часць Баровіча была перайменавана ў 4 полк кавалерыі і ўключана ў склад 24 Сімбірскай дывізіі стральцоў. Гэты полк дабіўся слаўных перамог з часцямі Калчака. Уславіўся ён таксама ў часе вызвалення Сімбірска (Ульянаўска), роднага горада У. І. Леніна, а потым Разані, Самары (Куйбышава) і Багуруслана. Летам 1918 года полк Баровіча, які ўваходзіў у склад Паўднёвай групіроўкі, якою камандаваў Міхаіл Фрунзе, змагаўся з войскамі Калчака-Шапронава, а потым з кавалерыяй Капела.

Пётр Баровіч — салдат, непараўнальны камандзір, які камандаваў часцямі 7 Дывізіі кавалерыі, правёў пераможныя бітвы пад Арлом, Варонежам, Харкавам, Царыцыным, на Паўднёвым фронце, дзякуючы якому ўвянчаліся поспехам баявыя аперацыі на Паволжы і баі пад Стаўраполем быў адзначаны Ордэнам Чырвонага Сцяга.

Рэвалюцыйны Ваенны Савет так між іншым пісаў у лісце, накіраваным Пятру Баровічу:

> »Падаецца да ведама 4 палка кавалерыі, тав. Баровічу, што дaвераны яму полк праз увесь час свайго побыту на фронце заўсёды з гонарам выконваў пастаўленыя перад ім баявыя заданні. На працягу ўсяго свайго прабывання на фронце полк служыў узорам унутранай і знешняй дысцыпліны. У яго радах панавала характэрная ўсяму палку свядомая, суровая дысцыпліна і выключна сяброўскія адносіны«.

Сучасная савецкая гісторыяграфія вельмі высока ацэньвае баявыя здольнасці і ахвярнасць Баровіча. Яна характарызуе яго не толькі як здольнага і адважнага чалавека, але і як найлепшага камандзіра палка на Усходнім фронце. Неабходна дабавіць, што Баровіч адыграў таксама важную ролю ў баях на Заходнім фронце будучы там камандзірам 15 Дывізіі кавалерыі.

У жніўні 1920 года Пётр Баровіч апошні раз пабываў на роднай Беласточчыне. Вярнуўся на радзіму перадавым камандзірам першых польскіх рэвалюцыйных узброеных сіл. Аднак не суджана было яму доўга цешыцца здзейсненымі жыццёвымі марамі. 29 жніўня 1921 года загінуў ён у Плоцку ад здрадніцкай кулі агента Савінкава. Трагічна загінуў чалавек незвычайны, які, паводле »Трыбуны Камуністычнай«: »Сам сабе шабляй высек у памяці людской уласную біяграфію«.

## АД РАБОЧАГА-ТЭКСТЫЛЬШЧЫКА ДА ВЫДАТНАГА КАМАНДЗІРА

Рамуальд Муклевіч быў сынам рабочага-тэкстыльчыка з Супраслі. З маленства бачыў, што ў блізкай і дарагой яму роднай хаціне пануе роспач і бяда.

Сын рабочага захацеў уцячы ад голаду і нэндзы ў краіну іншай рэчаіснасці. Таксама ў Беластоку, як і ў Супраслі панавала беспрацоўе, эксплуатацыя, тэрор, правакацыі. Пра тое, каб пакінуць родную хату, не магло быць і мовы. І ён тады зразумеў змест і значэнне паняцця: барацьба. Вялі яе супраць царызму рабочыя Беластока. Сярод іх неўзабаве апынуўся і Рамуальд Муклевіч, становячыся членам Сацыял-дэмакратычнай партыі Каралеўства Польскага і Літвы. Усю Супрасль ахапіў жах: шаснаццацігадовы юнак прымае актыўны ўдзел у гутарках, сходах, мітынгах, выказвае »падрыўныя« думкі, заклікае да аб'яднання ў барацьбе супраць царызму. Многія яго сябры і знаёмыя не маглі зразумець таго, што ён глядзіць на свет інакш. А ён дасканала зразумеў, што толькі ў барацьбе на смерць і жыццё трэба шукаць шляхоў да лепшай будучыні. Хату яго бацькоў часта percentатрасаюць царскія жандары. Урэшце і ён сам вымушан скрывацца, увесь час змяняць месца побыту. Юнак становіцца няўлоўным і адначасова вельмі небяспечным царскім уладам, паліцыі, фабрыкантам. Заўсёды паяўляецца там, дзе яго зусім не спадзяюцца. Яго выступленні вызначаліся ідэйнай палкасцю, рэвалюцыйным тэмпераментам, уменнем пераконваць слухачоў. Шанавалі і даражылі Муклевічам беластоцкія рабочыя. І неаднойчы дзякуючы іх дапамозе ўдавалася яму выйсці цэлым з рук царскай ахранкі.

Надзвычайныя арганізатарскія здольнасці, канспіратарскае ўменне ўзвялі 17-гадовага Рамуальда Муклевіча ў кола самых выдатных дзеячоў беластоцкага камітэта СДКПіЛ. У гадах 1907—1909 ён працуе сакратаром гэтага камітэта. У тым жа часе ён тры месяцы знаходзіўся ў турме. Адтуль удалося яму ўцячы і працягваць палітычную дзейнасць, але ўжо ва ўмовах спаду рэвалюцыйнай хвалі і шалёнага сталыпінскага тэрору. Урэшце кіраўніцтва СДКПіЛ пераводзіць яго ў Лодзь.

У Лодзі Муклевіч паступае на працу ў тэкстыльнай фабрыцы і неўзабаве ўступае ў рады Польскай сацыялістычнай партыі левага крыла. Хутка таварышы даверылі яму абавязкі сакратара Лодзінскага Акружнога рабочага камітэта ППС левага крыла. З няспынным палымяным адданнем гуртаваў ён лодзінскі пралетарыят да барацьбы. Але наступіў 1914 год. Царскія ўлады мабілізавалі яго і накіравалі на службу ў ваенны марскі флот. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года застала яго ў ваенным вучылішчы ў Петраградзе. З надта лаканічнага данясення ад 28 лютага 1917 года каменданта Петраградскай ваеннай акругі генерала Сяргея Хабалава Галоўнаму камандаванню даведваемся, што рабочы-тэкстыльшчык Рамуальд Муклевіч з Супраслі каля Беластока унтэр-афіцэр маторнага аддзялення машыннага вучылішча марскога ваеннага флота ў Кранштадце быў »удзельнікам Лютаўскай рэвалюцыі«.

З іншых крыніц даведваемся, што ён, з'яўляючыся членам ППС левага крыла, у часе лютаўскіх падзей узначаліў узнікшы матроскі камітэт вучылішча і ўвайшоў у склад Петраградскага Савета рабочых і салдат.

Разам з Феліксам Конам, Стэфанам Крулікоўскім і Юльянам Ленскім Рамуальд Муклевіч адыграў выдатную ролю ў барацьбе супраць польскай эміграцыйнай рэакцыі і праваму лагеру, якія імкнуліся схіліць на свой бок ахопленыя рэвалюцыйнымі хваляваннямі польскія вайсковыя часці. Калі быў скліканы вайсковы з'езд палякаў у Петраградзе без дапушчання да яго працы прадстаўнікоў левага крыла, яны разгарнулі шырокую кампанію пратэсту.

»Нам, сацыялістам, такім ці іншым чынам замыкаюць вусны, лемантучы, што тут не мітынг. Шаноўныя васпаны, але цы і неўзабаве ўступае ў рады Польскай сацыялістычнай патаемна«, — іранізаваў Рамуальд Муклевіч на старонках »Праменя«, (№ 7 ад 2/16.VI.1917 г.).

Левае крыло перамагло. Яго прадстаўнікі апынуліся ў зале, дзе працаваў з'езд.

— Васпаны, вы баіцеся рэвалюцыі, кажучы, што гэта »гангрэна«, і ад гэтай гангрэны хочаце аддзяліць польскага рабочага і селяніна, каб і ў далейшым збыткавацца над імі. Пасылаеце нас, васпаны, на вуліцу — там толькі нашае месца. Мы

з вуліцы прышлі і на вуліцу пойдзем, каб паведаміць польскіх рабочых і сялян, што вы прадаеце польскую справу«, — гаварыў з трыбуны з'езду марскіх унтэр-афіцэраў член ППС левага крыла Рамуальд Муклевіч (»З'езд палякаў-вайскоўцаў«, »Прамень«, 3/16.VI.1917, № 7; »Трыбуна«, 10/23.VI 1917, № 3).

Словамі народнай бунтарскай песні »O cześć wam, panowie« закончыў ён сваё выступленне.

Наш зямляк прымаў удзел у штурме Зімовага палаца (25.X./7.XI.1917 г.) і ўдзельнічаў у ліквідацыі паўстання юнкераў у Петраградзе (29.X/11.XI.1917 г.). Гэтая апошняя падзея знайшла маляўнічае, займальнае апісанне ў яго ўспамінах »Кастрычніцкія дні ў Петраградзе« (апублікаваных у »Ваенных паведамленнях«, Масква, 1924, № 42).

Прыводзім абшырныя ўрыўкі з іх.

»Ранкам 29 кастрычніка (11.XI.), на чацвёрты дзень пасля звяржэння Тымчасовага ўраду і ўстанаўлення Савецкай улады разбудзіла нас вінтовачная і кулямётная страляніна, якая чулася недзе блізка. Я знаходзіўся тады ў невялікай ваеннай часці, у вучылішчы карабельных машыністаў на Крастоўскім востраве.

Прадчуваючы, што тут нешта нядобрае, мы хутка апрануліся і пабеглі — са зброяй — у напрамку стральбы. Па дарозе даведаліся, што гэта страляюць юнкеры Уладзімірскага вучылішча на Петраградскай старане. Яны паўсталі ноччу. Напалі на сонных салдат з аркестра, частку іх выразалі, частку разагналі і арганізавалі контррэвалюцыйны цэнтр. Наладзілі сувязь са сваім штабам — Камітэтам Спасення, які без перашкодаў размясціўся ў самым цэнтры горада, у будынку Гарадской думы на Неўскім праспекце.

Вестка пра бунт хутка разнеслася па ваколіцы. Але далейшым поспехам юнкероў перашкодзілі групы ўзброеных салдат і рабочых, якія самі, па ўласнай ініцыятыве, пачалі рэгулярнае акружэнне будынкаў вучылішча, нікога адтуль не выпускаючы.

Мне выпала »ўзяць уладу« перад усім над акружаючымі. Я сам сябе аб'явіў камандзірам і арганізаваў нешта накшталт службы сувязі для сагласавання дзеянняў. Вучылішча займала аграмадны квадрат, і небходны былі значныя сілы, каб яго блакіраваць. Удалося гэта без асаблівых намаганняў. Пасля гадзіннай страляніны з абодвух бакоў, я пераканаўся, што перамогі не здабуду — надта ж тоўстыя былі сцены вучылішча і моцныя пазіцыі юнкероў.

Звярнуўся я за дапамогай у Петрапаўлаўскую крэпасць. Адтуль прыслалі бранявік, які пад'ехаў да брамы і адкрыў агонь. Юнкеры заўзята адбіваліся, засяроджваючы на ім усю сілу.



Пасля пятнаццаці мінут бранявік паспешліва адступіў. З яго цякла кроў. Юнкеры мелі бранябойныя кулі. Забілі наводчыка і пашкодзілі адзін з кулямётаў. Гэта іх падняло на духу. Цераз момант адчынілася брама, і мы пачулі «ура!». Вылазка. Нашыя адступілі. Перанеслі агонь на браму. Юнкеры павярнулі назад, несучы раненых. Але і ў нас настрой пачаў падаць. Побач затаілася Паўлаўскае вучылішча, а ў ім — таксама ўзброеныя юнкеры.

Мы чакалі ўдару ў плечы.

Нагляд не даваў вынікаў. Брама была замкнута, фортка таксама. Нікога не было відаць. Выслалі мы да «паўлаўцаў» парламентарыяў — не ўпусцілі. На кожны выпадак вызначыў я групу ўзброеных рабочых — няхай пільнуюць усе выхады з Паўлаўскага вучылішча і няхай нікога не ўпускаюць.

Страляніна працягвалася да дванаццаці гадзін без відавочных рэзультатаў. Прыехаў таварыш Благанраваў, камендант крэпасці, і абяцаў прыслаць гармату. Цераз паўгадзіны група салдат, рабочых і хлапчукоў прыцягнула яе. У скрыні было шэсць снарадаў. Але і зноў бяда — не было артылерыста. Матрос з «Гангута» не лічыўся — страляў ён з дванаццацідзюймавак з механічным ладаваннем, а да нашай трохдзюймаўкі не ведаў, з якога боку і падысці. Некалькі разоў спрабаваў і махнуў рукой. Роспач.

Раптам радасны кліч. Якіясьці хлапчукі вялі сустрэнутага выпадкова артылерыста. Ён абыякава, моўчкі агледзеў гармату, страшэнна павольна скруціў «козюю ножку», закурыў. Прыступіў да дзеяння. Глядзелі мы з недаверам — былі жа ж сведкамі паражэння матроса. Але гэты аказаўся сапраўдным спецыялістам: праз момант раздаўся выстрал, цераз наступныя трыццаць секунд — наступны і зараз жа — трэці. У сляпой сцяне вучылішча на трэцім паверсе — аграмадны пралом. Юнкеры аглушаны. Яны і не падазравалі, што мы маем гармату. Яна ж была схавана ад іх вока. Спрабавалі яны выкарыстаць пралом на байніцу, але наступны снарад ліквідаў гэтыя спробы.

Перапалоханыя агнём з гарматы юнкеры Паўлаўскага вучылішча склалі зброю.

Падлогі і сцены Паўлаўскага вучылішча былі заліты крывёй. Юнкеры мелі вялікія страты. Мы даведаліся, што яны ўвесь час утрымлівалі сувязь з Камітэтам Спасення, і ім адтуль абяцалі прыслаць дапамогу.

У нас было каля дваццаці забітых і раненых. Гэта многа. Маглі б жыць, калі б у адпаведным часе быў знесены і зліквідаваны Камітэт Спасення. Мы наступілі па-рыцарску, а яны гэта выкарысталі і ўбілі нам нож у плечы.

У гарачыя дні кастрычніка трэба было штодзень бываць у

Смольным. Разагналі мы ўжо даўно юнкераў, спроба нападу Керанскага на рэвалюцыйны Петраград кончылася паражэннем, была выяснена цяжкая сітуацыя ў Маскве. Савецкая ўлада трыумфавала па ўсёй лініі. Аграмадныя масы рабочых і сялян прызналі яе сваёй уладай, уміралі ў яе абароне. Толькі пецярбургскія буржуі не хацелі нас прызнаць, насміхаліся з перамогаў і не лічылі патрэбным скрываць гэта».

Толькі з успамінаў.

Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Р. Муклевіч займаў шмат вядучых ваенных пасадаў. Між іншым быў намеснікам галоўнакамандуючага Паветранага Флота СССР, членам Ваенна-Рэвалюцыйнага Савета СССР. Адначасова прымаў актыўны ўдзел у працы Камуністычнай партыі, удзельнічаў у працах III Кангрэса Камуністычнага Інтэрнацыяла і XI з'ездзе Усерасійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў), дзе меў магчымасць асабіста гутарыць з У. І. Леніным. Раней ён таксама часта сустракаўся з правадыром рэвалюцыі.

Быў арыштаваны і засуджаны 8 лютага 1938 года. Стаўся ахвярай правакацыі. Пасля смерці рэабілітаваны.

Беластоцкі рабочы-тэкстыльшчык Рамуальд Муклевіч, рэвалюцыйны дзеяч з нашай зямлі, натхнёны староннік інтэрнацыянальнай еднасці працоўных, кіраваўся жаданнем стварыць і абараніць першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву, разумеючы, што яна дасць пачатак рэвалюцыі ў маштабе Еўропы, а рэвалюцыя прынясе свабоду і незалежнасць яго каханай Айчыне.



## ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ

Вайна ў Іспаніі ў гадах 1936—1939 была адной з найважнейшых падзей у міжваенны перыяд. Пра яе напісана тысячы кніг і публікацый. Аднак аб удзеле ў ёй беластачан у нашым друку сказана надта ж мала. Зразумела, што ў адным скромным артыкуле немагчыма прадставіць ролю нашых землякоў у абароне Іспанскай Рэспублікі. Таму мова ў ім будзе толькі пра аднаго героя — камуніста лейтэнанта Пятра Сасноўскага — жыхара мястэчка Нарвы Гайнаўскага павета. Ён з'яўляецца адным з пяці тысяч дабравольцаў з Польшчы, якія змагаліся за »нашу і вашу свабоду« на іспанскай зямлі.

Пятро Сасноўскі нарадзіўся ў 1909 годзе ў сям'і малазямельнага селяніна ў мястэчку Нарве. У хаце было дванаццаць сясцёр і братоў. Бацька Пятра, Аляксей Сасноўскі, пачаў сваю гаспадарку ад 2 гектараў бацькаўшчыны. У часе першай сусветнай вайны сям'ю Сасноўскіх вывезлі ў бежанства ў глыб Расіі. На радзіму яна вярнулася толькі вясной 1921 года. У бежанстве памерла ў Сасноўскага шасцёра дзяцей. На бацькаўшчыне было таксама не лепш. У хату безупынна заглядаў прывід голаду. Зруйнаваная і знішчаная мізэрная гаспадарка не магла ўтрымаць сям'ю. Аб дадатковым заработку не магло быць і мовы. У Нарве, бедным сельскім мястэчку, сотні людзей шукала працы.

Аляксей Сасноўскі, падбадзёрваючы хатніх, часам прыгаворваў: »Жывому нельга траціць надзеі, а ну ж і да нас жыццё ўсміхнецца«. Але жыццё было няўмольным. Наступіла вясна 1929 года. Даўно скончыліся харчы, а да новага ўраджаю яшчэ далёка. Тады і паявілася думка выслаць найстаршага сына Пятра ў Аргенціну на заработкі. Бацька пазычыў

у мястэчку крыху грошай і, даючы іх сыну, раіў: »на, едзь у свет і шукай шчасця, бо інакш мы тут пагінем з голаду«.

Цераз паўгода прыйшоў першы грашовы перавод з Аргенціны. Пятро прыслаў цяжка зробленыя грошы пражываючай у беднасці сваёй сям'і.

Ішлі гады. Раптам разышлася вестка пра выбух грамадзянскай вайны ў Іспаніі. Неўзабаве прыйшоў і ліст ад Пятра з Аргенціны. Ён паведамляў сям'ю пра свой выезд у Іспанію. Пісаў, што, як член Камуністычнай партыі, не можа сядзець склаўшы рукі; ён павінен быць там, дзе рашаюцца лёсы народнай рэвалюцыі. У другой палавіне 1936 года Сасноўскі быў ужо ў Мадрыце. У тым часе сталіца рэспублікі была галоўнай мэтай наступлення рэакцыі. На сталіцу Франка кінуў асноўныя свае сілы. Аднак рэспубліканцы гераічна баранілі Мадрыт. У верасні 1936 года польская часць, у якой знаходзіўся Сасноўскі, праславілася асаблівым гераізмам. Узяла яна вышыню Аса, а потым вярнулася на зыходныя пазіцыі. Хутка Сасноўскі апынуўся ў польскім батальёне »Лібертад«. Батальён вёў цяжкія баі ў раёне Альбецэтэ. Менавіта з побыту ў гэтай мясцовасці захаваўся ліст Пятра да яго прыяцеля ў Аргенціне.

Прыводзім яго змест:

»Не ведаю, колькі цяпер часу. Сонца пачало ўзыходзіць. Яго промні заглянулі ў акопы. У апошні час няма значных змен на фронце. Праўда, было крыху страляніны, але гэта нямнога, у параўнанні да папярэдняга перыяду. Сябры, тыя што прыбылі са мной, ужо паспелі ажаніцца. Знаходжуся я то на першай, то на другай лініі фронту. Маю надзею, што хутка нас зменяць і дадуць нам водпуск. Паеду тады да свае дзяўчыны і правяду пару дзён. Вельмі мала атрымоўваю лістаў. Пішы да мяне часцей. Можа яшчэ калі-небудзь убачымся.«

Ліст быў напісаны ў ліпені 1937 года. А ўжо ў канцы месяца лейтэнант Сасноўскі, які быў камандзірам аднаго з падраздзяленняў XIII Міжнароднай брыгады імя Я. Дамброўскага, прымаў удзел у наступленні рэспубліканскіх войск пад Брунетэ.

Франкісцкая армія сілай каля 40 тысяч салдат разгарнула моцны контрудар. Пяхота, узмоцненая артылерыяй, авіяцыяй і танкамі, перайшла ў наступленне. Разгарэлася зацятая бітва. Рэспубліканскія войскі перайшлі ў контрнаступленне. Хутка аднак франкісцкім часцям удалося коштам вялікіх страт у сваіх заняць Брунетэ, якое адчыняла шлях у Мадрыт. І ўсё ж рэспубліканцы затрымалі ворага і прымусілі яго заняць абаронныя пазіцыі амаль на ўсім фронце. Страты ў брыгадзе імя Я. Дамброўскага былі вялікія. Загінула звыш



100 салдат і афіцэраў. Сярод іх паў смерцю героя лейтэнант Пятро Сасноўскі.

Пасля дваццаці васьмі год Краявая камісія ўдзельнікаў брыгады імя Я. Дамброўскага пры Галоўным праўленні Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю па просьбе бацькі героя, Аляксея Сасноўскага, падала дакладныя звесткі пра яго сына.

Пятро Сасноўскі застанецца ў нашай памяці камуністам і палымяным змагаром за нашу і вашу свабоду.



## ПАСОЛ ПАВАЛ ВАЛОШЫН

»Павал Валошын, селянін, народжаны ў 1881 годзе, 28 чэрвеня, у вёсцы Гаркавічы, Сакольскага павета. Закончыў шэсць класаў сельскагаспадарчай школы. У склад Сейма ўвайшоў 31 ліпеня 1925 года на месца пасла Каліноўскага. З'яўляючыся членам Беларускага пасольскага клуба, часткова працаваў у камісіях: сувязі, петыцый і адбудовы дзяржавы. У 1925 годзе стаў членам »Грамады«. 4 лютага 1927 года быў аддадзены пад суд Сеймам за ўдзел у загаворы, сарганізаваным дзеля перавароту ва ўстаноўленым шляхам асноўных правоў дзяжаўным ладзе Польшчы«, — чытаем у кнізе »Парламент Польскай Рэчы Паспалітай. 1919—1927« пад рэдакцыяй прафесараў Генрыка Масціцкага і Владзімежа Дзванкоўскага, Варшава, 1928 г.

З'яўляючыся членам Беларускага пасольскага клуба, Павал Валошын зблізку і глыбока пазнаёміўся з яго палітычнай платформай у асноўных, як нацыянальных так і палітычных, праблемах. Тады выразна ўсвядоміў сабе, што яны не толькі не здавальняюць яго палітычных імкненняў, але супярэчаць ім. Ён пакідае клуб і ўступае ў толькі што ўзнікшы Пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, які з'яўляўся прадстаўніком рэвалюцыйнай плыні, найбольш блізкім да Камуністычнай пасольскай фракцыі. Супольна з Браніслававам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім і Пятром Мятлой удзельнічае ў апрацоўцы праграмы і статута »Грамады«, а потым у заснаванні яе гурткоў у беларускіх вёсках і мястэчках. Быў надзвычай актыўным, здольным і палымяным народным прамоўцам.

Акт абвінавачання Акружнога суда ў Вільні ў 1928 годзе робіць яму закіды, што ён склікаў мітынгі, а »дзейнасць Валошына з'яўляецца зусім адкрытай і нельга яе ацаніць інакш, як выразнае злоўжыванне ім пасольскай недатыкальнасці. Яго выступленні маюць выразны антыдзяржаўны характар, прамовы яго з'яўляюцца падбухторваючымі і па сваіму зместу яшчэ больш радыкальныя, чым выступленні пасла-камуніста — Варскага«.

Амаль усе мітынгі, на якіх выступаў Валошын, атакавала паліцыя. Часта аднак рашучасць сялян зводзіла на нішто яе намеры. Так, на мітынгу 8 ліпеня 1926 года ў мястэчку Крынкі 2000 гарбароў і сялян не дазволіла паліцыі распусціць свой сход. На ім Валошын заклікаў сабраных да ўступання ў члены »Грамады«. Прадстаўляў таксама рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў Савецкім Саюзе.

14 ліпеня 1926 года адбыўся мітынг з удзелам Валошына ў Луніне. Прамоўца заклікаў не плаціць падаткаў, не ісці ў войска, выганяць асаднікаў. Вялікі мітынг адбыўся 10 жніўня 1926 года ў Алекшыцах. У ім прыняло ўдзел каля 1 000 сялян. Мітынг быў арганізаваны Валошыным наперакор забароне старосты. У сваёй прамове ён сцвердзіў: »цяпер б'е нас біч Пілсудскага, але калі ён апыніцца ў нашых руках, а гэта будзе незадоўга, тады пальецца кроў«. У гэтым моманце на сабраных накінулася з гумовымі палкамі паліцыя. Пачалася бойка. Безабаронныя дэманстранты мужна супраціўляліся паліцэйскай часці.

Такія ж мітынгі з удзелам Валошына адбываліся ў Індуры, Саколцы, Бельску, Кляшчэлях, Белавежы, Нарве, Нараўцы, Міхалове, Супраслі, Гарадку і іншых мясцовасцях.

*

Амаль на ўсіх павятовых з'ездах Грамады ў Беластоцкім ваяводстве прысутнічаў П. Валошын. І так, разам з Б. Тарашкевічам 1 лістапада 1926 года ён прымаў удзел у павятовым з'ездзе гэтай арганізацыі ў Саколцы. І тут не абышлося без умяшання паліцыі. Яна ўварвалася ў залу, дзе праходзіў з'езд, і спыніла яго.

24 снежня 1926 года ў прамове на з'ездзе ў Гродне Валошын сказаў: »Польская канстытуцыя з'яўляецца правам на белы тэрор. Польшча — гэта халупа на курачых ножках і разваліцца за першым подыхам ветру«.

Валошын быў таксама ўдзельнікам з'езду Грамады ў Старым Беразове (І снежня 1926 года). Нягледзячы на тое, што ён меў права на пасольскі імунітэт, сход заатакавалі сабраныя сюды часці коннай і пяхотнай паліцыі. Гэты з'езд увай-

шоў у гісторыю пад назвай »крывавай расправы ў Старым Беразове«.

Паліцыя і нанятыя ды споеныя ёю дружыннікі цяжка пабілі паслоў П. Валошына і П. Мятлу. Валошыну нанеслі дзве раны кастэтам, а Мятлу пабілі голаў. Вечарам параненых паслоў сяляне павезлі ў Гайнаўку. Фурманку ахоўваў атрад сялянскіх добравольцаў, узброеных у сякеры і косы. Па дарозе ніхто не адважыўся іх спыніць. У Гайнаўцы паслы затрымаліся на кватэры ў Рыгора Волчыка. У той жа дзень п'яныя дружыннікі, тайныя агенты паліцыі і паліцыя ў мундзірах напалі на дом Волчыка. Страшэнна здзекаваліся над Волчыкам: бутэлькай з тоўстага шкла пакалечылі яму ўвесь твар і выбілі зубы, усё цела яго было ў суцэльных ранах і крыві.

У справе кровапраліцця ў Старым Беразове пасольскія клубы Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, Камуністычнай пасольскай фракцыі, Сельробу, Незалежнай сялянскай партыі ўнеслі на Сейм інтэрпеляцыю.

Павал Валошын быў актыўным сейбітам рэвалюцыйных ідэй на форуме Сейма. Часта, выступаючы з прамовамі на агульных пасяджэннях Сейма і на нарадах яго камісій, выкрываў сапраўднае аблічча буржуазнай улады і яе характар, накіраваны супраць працоўным. І так, выступаючы на сесіі 6 сакавіка 1925 года ў справе бюджэта Міністэрства Справядлівасці, Валошын падкрэсліў, што на гэтак званае вызначанне справядлівасці прадназначана вельмі вялікую колькасць грошай. Гэта сведчыць аб нізкім узроўні культуры ў дзяржаве і аб супярэчнасцях паміж грамадствам і ўрадам. У турмах знаходзяцца дзесяткі тысяч вязняў. Чакаюць яны на так званы суд па некалькі год. У турмах яны падвержаны катаванням і здзекам, уміраюць ад хвароб і голаду. Адміністрацыя турмаў разам з паліцыяй катуе вязняў жалезнымі шворнямі, палкамі, вырывае валасы з галоў, здзірае пазногці з пальцаў, а нават задае страшэнныя болі ў палавыя органы.

Усю дзейнасць судовых устаноў, пракуратуры і паліцыі П. Валошын акрэсліў наступнымі словамі: »Насілле, беспраўе і гвалт над масамі працоўнага сялянства«. Валошын заявіў, што ў сувязі з такім станам клубы Беларускі і Украінскі будуць галасаваць супраць бюджэта Міністэрства Справядлівасці.

У часе спрэчак над парцэляцыяй і асадніцтвам таксама выступіў з прамовай Валошын. Паказаў ён сапраўдную сутнасць буржуазнага закону аб парцэляцыі і асадніцтве, які абараняе інтарэсы асаднікаў. Ён падкрэсліў, што паводле гэтага не будуць мець права купіць зямлю з парцэляцыі асобы, якія былі



караны за праступленні, накіраваныя быццам бы супраць польскай дзяржаве, і тыя, хто самавольна браў чужую зямлю. А як вядома, буржуазны польскі ўрад за праступленні, накіраваныя супраць дзяржаве, уважае засноўванне і вядзенне беларускіх школ, пашырэнне пазашкольнай асветы на няпольскай мове, выдаванне кніг, часопісаў і газет на беларускай мове, засноўванне кааператываў. Значыць, зямлю не будуць магчы купіць тыя, хто яе найбольш патрабуе — беззямельныя і малазямельныя беларускія сяляне.

Валошын выступаў таксама над абмеркаваннем закону аб чужаземцах, выкрываючы нацыяналістычную і дыскрымінацыйную палітыку буржуазнага ўрада ў Польшчы і дамагаючыся раўнапраўя ў адносінах да беларусаў і украінцаў.

З вялікай прамовай выступіў Валошын у справе змены канстытуцыі, асабліва па пытанню надзялення спецыяльнымі правамі Пілсудскага. Выкрываючы сапраўдны сэнс змен у канстытуцыі, ён рашуча заявіў: »Мы скажам шырокім працоўным масам, што цяпер пагражае ім яшчэ большая небяспека, чым раней. Скажам масам, што толькі арганізаваная і салідарная барацьба супраць рэакцыі і згодніцтва можа іх вызваліць з ярма нядолі. Мы будзем галасаваць супраць надзялення спецыяльнымі паўнамоцтвамі прэзідэнта і ўрада«.

І вось у студзені 1927 года Павал Валошын быў арыштаваны.

Арышт паслоў быў гвалтам над рэшткамі якога-колечы правасуддзя. Яны апынуліся ў турме 16 студзеня 1927 года, а толькі 25 студзеня на сесіі Сейма было пастаўлена пытанне аб пазбаўленні іх пасольскіх мандатаў. Неабходнасць гэтага ўчынку маршал Сейма даводзіў такімі словамі:

»Паслы Пятро Мятла і Фелікс Галавач былі затрыманы — першы ў Глыбокім, другі ў Валожыне — на злачынстве, накіраваным супраць бяспекі дзяржавы і рэалізаваным па дырэктыве пэўных элементаў за грошы. Іх арышт меў месца адначасова з арыштам Валошына і Рак-Міхайлоўскага і быў неабходны дзеля забеспячэння акту правасуддзя і абяскоджання вынікаў злачынства«.

Ілжывасць такога тлумачэння настолькі яскравая, што не патрабуе выясненняў.

Вакол абароны арыштаваных паслоў Грамады разгарэлася барацьба ў Сейме. Побач з іншымі ў гэтай справе выступіў з прамовай Ю. Чашэйка-Сахацкі, выдатны дзеяч Камуністычнай партыі Польшчы. Ён заявіў: »Складаю вотум недавер'я ўраду Пілсудскага. Арыштоўваючы паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Валошына, Мятлу і Галавача, ён даказаў,

што праследванне беларускай народнасці праводзіцца ў інтарэсах польскіх абшарнікаў, акраінных зуброў«.

З вострым пратэстам супраць бяспраўнаму арышту. Валошына і іншых паслоў Грамады выступіў пасол Рагаля. Кляймуючы ўчынак санацыі, ён заявіў: »Ці ж прыналежнасць пасла да камуністычнай партыі з'яўляецца тым, за што можна яго арыштоўваць нават без згоды на гэта Сейма? Здаецца, што — не. А калі так, ёсць жа ў Сейме легальная камуністычная партыя«. Папераджаў ён санацыю перад згубнай палітыкай: »Хто сее вецер, той збірае навальніцу«, — гаварыў Рагаля.

»Памыляецеся, паны, калі спадзяецеся, што праследванні могуць загамаваць вызваленчы рух народа«, — сцвердзіў у адным з выступленняў Е. Сахацкі.

Следам за новымі арыштамі наступіў прысуд дэлегалізацыі Грамады. Правадыры яе былі пастаўлены перад судом. Сярод іх з Сакольскага павета быў і Павал Валошын. У выніку судовага працэсу, які цягнуўся ад 23 лютага па 22 мая 1928 года, Акружны суд у Вільні засудзіў Паўла Валошына на 12 год цяжкой турмы.

## СЯРГЕЙ ПІСАРЭВІЧ

Выдатны дзеяч »Грамады« і Камуністычнай партыі заходняй Беларусі ў Белавежы ў гадах 1924—1926. Нарадзіўся ў сям'і малазямельнага селяніна ў Белавежы. У КПЗБ уступіў у 1924 г. Быў старшынёй гуртка »Грамады«.

У студзені 1927 года, калі Сяргею Пісарэвічу было дваццаць адзін год жыцця, ён разам з Антонам Шпаковічам, Паўлам Шпаковічам, Майсеем Валкавыцкім і Паўлам Валкавыцкім былі арыштаваны.

Акт абвінавачання выразна сцвярджаў, што »ў часе допытаў у якасці абвінавачаных... да віны не прызналіся і згодна заявілі, што ў паліцыі прызналіся, бо прымусілі іх даць паказанні пабоямі«. Пабояў жа на паліцэйскім участку было многа. У часе катаванняў Сяргей Пісарэвіч дастаў кровазліцця. Нягледзячы на гэта яго не асвабадзілі з турмы. У 1928 годзе Акружны суд у Беластоку прыгаварыў яго на шэсць год турмы. Стан здароўя Пісарэвіча значна пагоршыўся. Пры дапамозе партыі яго сям'я склала грашовы залог, і Сяргея асвабадзілі на некалькі месяцаў з турмы. Ён вярнуўся ў Белавежу, а праз некалькі дзён Цэнтральны Камітэт КПЗБ патаемна выслаў яго на лячэнне ў СССР на Крым. Савецкія лекары паклалі ўсе намаганні, каб ўратаваць жыццё Пісарэвічу, аднак гэта не ўдалося.

Цераз некалькі месяцаў Сяргей Пісарэвіч памёр.

## ГЕНЕРАЛ АЛЯКСАНДР ВАШКЕВІЧ

Усё сваё жыццё прысвяціў барацьбе »За нашую і вашую свабоду«.

Нарадзіўся 15 жніўня 1901 года ў Белавежы ў сям'і малазямельнага селяніна. Сярод дзевяці дзяцей вылучаўся сваім захаваннем, паводзінамі і адносінамі да акружаючай рэчаіснасці.

Калі яму споўнілася восем год, ён распачаў навуку ў пачатковай школе ў Белавежы. І тут вылучаўся сумленнасцю, уражлівасцю на розныя несправядлівасці, якія сыпаліся на яго з боку царскіх настаўнікаў. Без вагання пакінуў школу, калі не атрымаў падарунку, за тое што не памятаў імені адной з дачок цара. Не гледзячы на слабы склад цела ён дапамагаў бацьку ў працы на гаспадарцы.

Наступіў 1915 год. Аляксандр, разам са сваёй сям'ёй, апынуўся ў бежанстве ў Расіі. Спачатку сям'я Вашкевічаў затрымалася ў Мінску, але неўзабаве пераехала ў Оршу. Тут Алесь бачыў бамбардзіраванне горада нямецкімі самалётамі. І ў Оршы бежанская сям'я не нагрэла пят. У хуткім часе яе вывезлі ў Чалябінск — гарадскі цэнтр у Сібіры.

Калі Алесю споўнілася семнаццаць год, ён дабравольцам уступіў у Чырвоную Гвардыю. Пасля кароткай падрыхтоўкі яго накіравалі ў 237 Мінскі полк стральцоў.

У 1920 годзе разам са сваім палком Вашкевіч удзельнічае ў баях на Заходнім фронце. Тут ён выяўляе вельмі важныя якасці байца: ахвярнасць, адвагу, вытрымку і хуткую арыентацыю. У канцы таго ж года яго накіроўваюць у школу малодшых афіцэраў. Канчае ён яе з выдатнымі вынікамі. Аднак не спыняе працаваць над паглыбленнем сваіх агульных і вайсковых ведаў, асабліва ў галіне механізацыі. Нічога дзіўнага, што ў асяроддзі сваіх сяброў лічыўся добрым знаўцам аўтамабіляў і рухавікоў. Афіцэры, улічыўшы прагу Аляксандра Вашкевіча працягваць вучобу, накіроўваюць яго ў новасарганізаванае Вучылішча Камандзіраў у Смаленску. Трохгадовы побыт у вучылішчы дапамог яму паглыбіць і развіць уменні, якія неабходны для належнага выканання розных адказных заданняў у Чырвонай Арміі. І так ён быў камандзірам роты, намеснікам начальніка штаба 211 стралецкага палка. Потым канчае Ваенную акадэмію імя М. Фрунзе, у якой грунтоўна пазнаёміўся з новай савецкай ваеннай навукай. Затым, з'яўляючыся начальнікам аддзялення па справах вучобы ў гэтай вышэйшай навуковай установе, прывіваў яе правілы сваім падуладным. Навука і ваенная служба была для Аляксандра Вашкевіча перыядам сабірання вопыту і няспыннага ўласнага дасканалення.

Такім чынам з савецкага афіцэра і члена камуністычнай партыі, у рады якой ён уступіў у 1930 годзе, вырастаў загартаваны і здольны камандзір.

У 1940 годзе Аляксандр Вашкевіч наведаў сваю родную мясцовасць — Белавежу. Ужо тады насіў званне маёра Чырвонай Арміі.

Адразу пасля нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз Вашкевіч ідзе на першую лінію фронту. Там спачатку камандуе палком, а потым з'яўляецца намеснікам камандзіра 116 дывізіі стральцоў.

У 1943 годзе Вярхоўны Савет СССР адзначае яго ганаровым званнем Героя Савецкага Саюза.

Калі сфармавалася Народнае Войска Польскае, Аляксандр Вашкевіч уступае ў яго ў званні палкоўніка. Ад верасня 1944 года ўзначальвае ён 5 пяхотную дывізію Другой Арміі Войска Польскага, якою камандаваў генерал Караль Сярчэўскі.

У лістападзе 1944 года Аляксандру Вашкевічу было прысвоена званне генерала брыгады Войска Польскага.

»Аднаго разу, у часе інспекцыі генералам К. Сярчэўскім, — успамінае адзін з былых афіцэраў 5 пяхотнай дывізіі, — цэнтра проціпаветранага нагляду III проціпаветранай дывізіі генерал А. Вашкевіч, жартуючы, сказаў: »хачу далажыць, таварыш генерал, што камандзір проціпаветранай дывізіі мае аблегчанае заданне ў выкрыцці ворага. На зямлі немец не гучыць так, як яго гарматы ўверсе«. Памятаю таксама як на трэці дзень побыту ў Лодзі па загаду камандзіра арміі генерал А. Вашкевіч з болем сэрца высылаў 15 пяхотны полк у распараджэнне штаба І Беларускага фронту, бо такім чынам ён быў пазбаўлен салдат да вучобы.

Але вось наступіў дзень выхаду з Лодзі. Нашую 5 пяхотную дывізію праводзілі Прэзідэнт Краёвай Рады Нарадовай —

Баляслаў Берут, Галоўнакамандуючы Войска Польскага генерал Міхал Роля-Жымерскі, Прэзідэнт Варшавы генерал Мар'ян Спыхальскі, камандзір Другой Арміі Войска Польскага генерал Караль Сярчэўскі і грамадства Лодзі. Наш маршрут вёў цераз Аляксандраў, Турак, Вжэсню, Познань у раён Гажова Велькапольскага. 8 сакавіка 1945 года наша дывізія ішла вуліцамі Познані. З энтузіязмам вітала нас насельніцтва горада. Але вось 13 сакавіка разам з іншымі баявымі часцямі Другой Арміі Войска Польскага мы апынуліся ў ваколіцах Гажова Велькапольскага«.

Пачалася славутая бярлінская аперацыя. 5 пяхотная дывізія была ўведзена ў бой на дзень раней, чым было запланавана. Такое рашэнне стала неабходным з-за таго, што ў выніку выхаду далёка наперад ударных часцей Другой Арміі ВП і Пятай Гвардыйскай арміі 7 і 10 пяхотныя дывізіі засталіся ззаду. Такая сітуацыя стварала гітлераўскім часцям выгадныя ўмовы для акружэння нашых войск, якія знаходзіліся наперадзе. 5 пяхотная дывізія ў часе наступлення сустрэла адступаючыя гітлераўскія часці. Тады генерал А. Вашкевіч загадаў 15 і 17 пяхотным палкам пачаць праследванне непрыяцеля ў напрамку Будзішына. Без вялікіх перашкодаў палкі пасоўваліся наперад і апынуліся ў 20 кіламетрах ад рэшты часцей 5 пяхотнай дывізіі. У такіх умовах генерал А. Вашкевіч не мог адпаведна пакіраваць гэтымі палкамі. Спрабаваў ён перанесці свой штаб бліжэй да гэтых часцей, але ўжо не паспеў. 21 красавіка 1945 года штаб 5 пяхотнай дывізіі разам з некаторымі яе самастойнымі падраздзяленнямі апынуўся ў акружэнні пераважаючых сіл І грэнадзёрскага палка, бранятанкавай дывізіі »Брандэнбург«, 500 батальёна сапёраў »Гросдойчланд« і баявой групы Капела. Генерал А. Вашкевіч у пагадненні з камандзірам 16 бранятанкавай брыгады рашыў выйсці з акружэння, але гэтая спроба не дала выніку. Разам з групай салдат ён змагаўся да апошняй хвіліны. Канец барацьбы быў трагічны. Ён апынуўся ў руках гітлераўцаў. Пасля нялюдскіх катаванняў, 4 мая гітлераўцы забілі яго. Цераз дзень пасля гэтага салдаты Другой Арміі ВП знайшлі яго пакрываўленыя астанкі. Па загаду генерала К. Сярчэўскага пачалося расследаванне. Спецыяльная камісія пазнала забітага. У сваім заключэнні яна пісала: »на падставе лекарскага агляду знешняга і ўнутранага астанкаў генерала А. Вашкевіча, сцверджана, што яго пры жыцці мучылі і білі тупой прыладай і нагайкай. Аб гэтым сведчаць крывавыя падцёкі на целе і сечаная рана на левай шчацы. Яшчэ за жыцця яму выразалі левае вока і павеку, а правае выкалалі. Потым яго ўдарылі вялікай, цяжкой і тупой прыладай у ваколіцу ілба. Гэты ўдар цалкам знішчыў мозг і зламаў падставу чэрапа. Наступіла смерць«.



Так загінуў герой, таленавіты камандзір Народнага Польскага Войска, палымяны патрыёт і інтэрнацыяналіст, адданы камуніст — генерал Аляксандр Вашкевіч.

У часе пахавання апошняе ўшанаванне генералу Аляксандру Вашкевічу склалі Прэзідэнт ПНР — Баляслаў Берут, Маршал Войска Польскага — маршал Роля-Жымерскі, генерал »Вальтар« — генерал Караль Сярчэўскі, над грабам выступіў з прамовай Прэзідэнт горада Варшавы — генерал Мар'ян Спыхальскі.

У загадзе Міністра Нацыянальнай Абароны ПНР ад 8 жніўня 1955 года гаворыцца: »У знак прызнання заслуг Афіцэрскага аўтамабільнага вучылішча ў Піле і для адзначэння дзесяцігоддзя яго існавання прызнаю вучылішчу назву: »Афіцэрскае аўтамабільнае вучылішча імя генерала Аляксандра Вашкевіча«. Імя генерала Аляксандра Вашкевіча, Героя Савецкага Саюза, камандзіра 5 Пяхотнай Дывізіі Другой Арміі Войска Польскага, загінуўшага з рук гітлераўцаў пад Будзішынам у раёне Тауэр, з'яўляецца сімвалам самых шляхетных якасцей салдата — палкага патрыятызма і гераізма ў барацьбе з ворагам Айчыны. Постаць генерала Аляксандра Вашкевіча павінна стацца незабыўным узорам і прыкладам для ўсяго персанала вучылішча«.

Наведваючы музей Войска Польскага ў Варшаве можна ўбачыць бюст Аляксандра Вашкевіча, які знаходзіцца побач з бюстам Сярчэўскага, і таксама шматлікія яго асабістыя рэчы, сярод іх кабуру і пісталет, залаты крыж »Virtuti Militari«, прызнаны яму пасмертна.



# БЕЛАСТОЧЧЫНА СЁННЯ І ЗАЎТРА

Мгр інж. УЛАДЗІМІР МІХАЛЮК
Намеснік Старшыні
*Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай*
у Беластоку

## ЗНАЧЭННЕ МЕЛІЯРАЦЫІ Ў XXV-ГОДДЗІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У Беластоцкім ваяводстве — апрача вастрэйшага клімату і карацейшага перыяду вегетацыі ў параўнанні з іншымі раёнамі краіны — слабыя глебы, якія ў значнай колькасці знаходзяцца ў знясільваючых паласках-шахаўніцы. У выніку нядаўна закончанай глебазнаўчай класіфікацыі акрэслена, што ворыўных зямель I класа зусім няма ў ваяводстве, класа II ёсць усяго толькі 15 га. Затое землі V і VI класаў складаюць аж 42,5% агульнай паверхні ворыўных угоддзяў. Таму сярэдні ацэначны паказчык ворыўных зямель выносіць 0,88. Гэта значыць, што ў сярэднім яны з пункту гледжання прыгоднасці для сельскай гаспадаркі ёсць трохі лепшыя ад V класа, але горшыя ад класа IVб. Лепшыя землі, апрача таго, вельмі зманлівыя ў гаспадарцы з прычыны неўрэгуляваных да гэтага часу водных адносін на паверхні звыш 274 000 га (27,1%). Дадатковай перашкодай з'яўляюцца камені, якія выступаюць на 26% агульнай паверхні сельскагаспадарчых угоддзяў. Яны не даюць магчымасці прымяняць агратэхніку. Асаблівасцю таксама з'яўляецца і тое, што зялёныя ўгоддзі складаюць аж 31,1% у структуры сельскагаспадарчых угоддзяў.

Ацэначны паказчык зялёных угоддзяў у сучасным стане з'яўляецца яшчэ ніжэйшы, чым ворыўных зямель, і выносіць усяго толькі 0,40. Гэта ў пераважнай большасці багны мала прыгодныя для сельскай гаспадаркі. Урэгулявання водных адносін вымагала 6 430 000 га, г. зн. 92% агульнай паверхні зялёных угоддзяў. Спрошчваючы, умовы сельскай гаспадаркі ў ваяводстве можна прадставіць у наступны спосаб:

— вялікія комплексы багнаў, акружаныя ворыўнымі землямі слабой і вельмі слабой якасці.

Каб дапоўніць вобраз гэтых аб'ектыўных цяжкасцей, трэба было б падкрэсліць цэлы шэраг іншых прычын, якія абмяжоўваюць развіццё сельскай гаспадаркі, між іншым: адсталасць і нізкі ўзровень сельскагаспадарчай культуры і ім падобная спадчына мінуўшчыны. Зразумела, што ў такіх умовах узровень сельскагаспадарчай прадукцыі мусіў быць нізкі.

У 1938 годзе на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў у сучасных граніцах ваяводства было 34,5 шт. рагатай жывёлы, 36,1 шт. свінней і 17 шт. авечак. Пры такой нізкай колькасці жывёлы, недахопе і дарагавізне ў міжваенны перыяд на штучныя ўгнаенні, не магло быць здавальняючага ўгнойвання гэтых, слабой якасці, ворыўных зямель. Таму ўраджай асноўных сельскагаспадарчых культур у сярэднім за пяцігоддзе 1934—1938 выносіў: жыта — 10,5 цэнтнера з 1 га, пшаніцы — 9,2 ц/га, ячменю — 9,7 ц/га, аўса — 9,5 ц/га, бульбы — 120,0 ц/га. Гэты ўзровень быў яшчэ зніжаны ў выніку II сусветнай вайны і гітлераўскай акупацыі. З гэтай прычыны ўраджай асноўных сельскагаспадарчых культур у 1946 годзе выносіў: жыта — 7,7 ц/га, пшаніцы — 7 ц/га, ячменю — 6,9 ц/га, аўса — 6,3 ц/га і бульбы — 105 ц/га, а хатняй жывёлы на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў склалася на ўзроўні: рагатай жывёлы — 15 шт., свінней — 17 шт., авечак — 10 шт. У выніку, пачаткі беластоцкай сельскай гаспадаркі ў Народнай Польшчы былі нялёгкія. Аднак патрэбы народнай гаспадаркі дыктавалі неабходнасць хуткага развіцця сельскай гаспадаркі, а асабліва ў нашым ваяводстве.

Немагчыма тут прадставіць усе нашыя арганізацыйныя і тэхнічныя праекты, якія забяспечвалі развіццё беластоцкай сельскай гаспадаркі. Асноўная наша ідэя зводзіцца да такой схемы: **меліярацыя і загаспадараванне непрыгодных багнаў стварае добрую натуральную базу пашы для развіцця жывёлагадоўлі. Дзякуючы гэтаму, апрача павелічэння вытворчасці мяса і малака, наступае павелічэнне колькасці гною, прымяненне якога на слабых ворыўных землях узбагачае іх і садзейнічае росту ўраджаяў раслінная вытворчасці.** Значыць, у суме меліярацыя ў нашых умовах з'яўляецца фактарам, які пераўтварае ўсю сельскую гаспадарку. Аднак здзяйсненне гэтай ідэі не было б магчымым без матэрыяльнай і тэхнічнай дапамогі дзяржавы.

У сваю чаргу ў першыя гады пасля вайны наша дзяржава, са зразумелых прычын, не магла нам гэтай дапамогі забяспечыць. Тым больш, што меліярацыйныя патрэбы Беластоцкага ваяводства былі аграмадныя. Таму больш інтэнсіўнае здзяй-

сненне гэтай ідэі пачалося толькі з 1960 года. Да канца 1968 года за кошт 2 692 мільёнаў злотых у ваяводстве меліяравана 154 700 га зялёных угоддзяў і 55 600 га ворыўных зямель, здавальняючы патрэбы ваяводства адпаведна ў 37% і 17%.

Ужо сёння з поўным пераканаиием можна сцвердзіць, што прынятая намі і падтрыманая дзяржавай ідэя інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі ў Беластоцкім ваяводстве з'яўляецца правільнай. Доказ гэтаму — атрыманыя вынікі — у адносна кавай меры ў жывёлагадоўчай, як і ў расліннай вытворчасці. Гэтае пытанне было прадметам ацэнкі супольнага пасяджэння Ваяводскага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Ваяводскага Камітэта Аб'яднанай народнай партыі 15 лютага 1968 года.

Прыводзім некалькі прыкладаў, узятых з аб'ектаў, якія абследаваліся ў часе падрыхтоўкі матэрыялаў на пасяджэнне ваяводскіх партыйных інстанцый (табліца № I).

Паказчыкі, прыведзеныя ў табліцы, настолькі пераканаўчыя, што не патрабуюць паясненняў. Неабходна падкрэсліць, што паказаныя аб'екты маюць сярэднія паказчыкі сярод меліяраваных дагэтуль на тэрыторыі ваяводства. Таксама карысна складваецца вытворча-таварная сітуацыя ва ўсім ваяводстве. Прадстаўляю гэта ў табліцы № 2 на фоне забеспячэння меліярацыйных патрэбаў на залёных угоддзях.

Апрача гэтага на працягу апошніх трох год мы атрымалі ў ваяводстве сярэднія ўраджаі бульбы — 173,3 ц/га, цукровых буракоў 316 ц/га. Колькасць свінней на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў у гадах 1966—1968 была на ўзроўні 73,4 штук, а авечак — 20,1 штук. Адпаведна ўзрасло скупоўванне жывых таварных свінней і воўны. Праўда, гэта яшчэ не надта высокія вынікі, аднак трэба іх ацэньваць станоўча, асабліва параўноўваючы з зыходнымі пазіцыямі. Апрача ўздзеяння на гэтыя вынікі прагрэсу ў сельскагаспадарчай культуры, агульнага агратэхнічнага прагрэсу і паляпшэння забеспячэння сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасці — гэта ўсё ж такі несумненныя эфекты капіталаўлажэнняў у меліярацыю. Гэтыя эфекты ў многіх выпадках маглі б быць яшчэ большымі, аднак у практыцы мы сустракаемся з шэрагам цяжкасцей і загамаванняў.

Прыводзім некаторыя з іх:
— слабая агульная падрыхтоўка сялян да рацыянальнага выкарыстання створаных магчымасцей;
— недахопы ў эксплуатацыі і захоўванні меліярацыйных абсталяванняў;
— балючы недахоп будаўнічых матэрыялаў, які абмяжоўвае хуткае павелічэнне будынкаў для жывёлы;
— нястачы выканаўчых магчымасцей будаўнічых прадпрыемстваў у параўнанні з патрэбамі, асабліва калектыўнай сельскай гаспадаркі;
— слабая ўжытковая якасць рагатай жывёлы;
— нездавальняючая база скупоўвання і перапрацоўкі сельскагаспадарча-спажывецкай прамысловасці.

Гэтыя цяжкасці мы ацэньваем як цяжкасці хуткага росту. Перамаганне іх — асноўнае заданне ў дзеянні ваяводскіх палітычных і дзяржаўных уладаў. Таму, між іншым, выконваючы пастанову вышэй успомненага пленарнага пасяджэння ваяводскіх партыйных інстанцый, пачалі мы ў 1968 годзе сістэматычны аналіз атрыманых паказчыкаў на меліяраваных аб'ектах. Вынікі гэтага аналізу дапамогуць уладам апаратыўна ўздзейнічаць на развіццё гаспадаркі ў сваёй мясцовасці.

Здзяйсняючы нашую меліярацыйную задуму, дагэтуль мы меліяравалі ў ваяводстве ў асноўным аб'екты невялікія і лягчэйшыя. Гэта не абазначае, што мы не маем аб'ектаў вялікіх і займальных. Адным з іх з'яўляецца »Багна-Візна« ў павеце Замбраў, якога агульная паверхня выносіць 11 400 га. З гэтага дагэтуль меліяравана зялёных угоддзяў 6 923 га за кошт



*Меліярацыя Кувасаў у 1958 г.*

177 466 000 зл. На гэтым аб'екце заснаван дзяржаўны камбінат сенажаці. У яго ўладанне перададзена 6 136 га ўгоддзяў, у тым ліку 4 883 га зялёных угоддзяў і толькі 174 га ворыўнай зямлі (болей там мінеральных зямель не было). Ужо сама структура сельскагаспадарчых угоддзяў камбіната сведчыць пра яго гаспадарчую асаблівасць. Гэта прадпрыемства ўнікальнае і ў поўным значэнні слова — вопытнае. У 1968 годзе яно вырабіла 14 400 тон сушу з травы, 1 800 тысяч літраў малака, гадавала 520 штук кароў, вырошчвала 600 ялавіц на развод і 1 300 штук маладой рагатай жывёлы на ўбой. І так, гэта сапраўдны камбінат.

Пабудаваныя да гэтага часу аб'екты, апрача эканамічных вынікаў, для беластоцкай сельскай гаспадаркі выконваюць ролю добрай школы практычнага выхавання меліярацыйных кадраў. Яны таксама далі шмат вопыту неабходнага да здзяйснення перспектыўных планаў. У агульных абрысах заданні ў галіне меліярацыі ў ваяводстве зводзяцца да:

1. урэгулявання ракі Нарвы і меліярацыі яе даліны (ад вусця ракі Бобры) Бебжы (да дзяржаўнай граніцы). У меліярацыйных планах гэтага абшару прадбачваецца між іншым пабудову водасховішча ў ваколіцы вёскі Семяноўка аб'ёмам у 60 мільёнаў м³ вады да ўжытку. Меліярацыйныя мерапрыемствы на гэтым абшары палепшаць водныя адносіны на каля 40 000 га сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку на 26 000 га зялёных угоддзяў. Гэта дазволіць інтэсіфікаваць сельскагаспадарчую вытворчасць у 7 паветах нашага ваяводства.
2. Урэгуляванні ракі Бобры (Бебжы) разам з меліярацыяй усёй яе даліны разам з прытокамі (Элк, Егжня і іншых). Гэтая тэрыторыя зойме 70 600 га багнаў, распалажаных у шырокай, дасягаючай месцам 15 км, даліне. Гэты абшар вельмі слаба заселены і будзе патрабаваць вялікіх капіталаўлажэнняў на дапаможныя пабудовы. У выніку меліярацыі і ўпарадкавання спраў уласнасці з'явіцца тут магчымасць выдзялення некалькіх комплексаў дзяржаўнай зямлі па свайму характару і памерах падобных да камбінату »Візна«. Таму вопыт »Візны« будзе надзвычай каштоўны.
3. Урэгуляванні водных адносін у далінах рэк Пісы і Шквы, так званых »Кольненскіх багнаў«. Гэта дазволіць актывізаваць сельскагаспадарчую вытворчасць на абшары каля 90 000 га, у гэтым ліку зялёных угоддзяў — 27 000 га. Гэтае заданне будзе вымагаць вырашэння спраў таксама асушкі з арашэннем, як і самога арашэння. Таму ўзнік план выкарыстання да гэтай мэты водаў з Мазурскіх азёр, якія распаложаны ўжо на тэрыторыі Ольштынскага ваяводства. Увесь план з'яўляецца міжваяводскай задумай і адносіцца да Варшаўскага ваяводства ў 55%, Беластоцкага — у 30% і Ольштынскага — у 15%.
4. Урэгуляванні водных адносін на ворыўных землях на паверхні 275 000 га.



*Сяляне вёскі Крывяцічы на грамадскім меліярацыйным чыне.*
*Фота — П. Зінкевіч*

Здзяйсняючы гэтую праграму, у тэмпе найбольш рэальным і ўладкаваным, меліярацыйных патрэбаў Беласточчыны на зялёных угоддзях праўдападобна не будзем магчы забяспечыць яшчэ да 1985 года. З гэтых намераў і прыведзеных лікаў відаць, якой праблемай з'яўляецца меліярацыя ў Беластоцкім ваяводстве і якую ролю яна спаўняе ў яго пераўтварэнні.

Ваяводскія ўлады ў форме ўзгадненняў на месцах гэтай праблеме падпарадкоўваюць цэлы шэраг іншых. Між іншымі, з меліярацыяй цесна гарманізуем справы ліквідацыі цераспалосіцы і рэгулявання спраў уласнасці. Да меліярацыі дапасоўваем іншыя сумежныя мерапрыемствы. З гэтай мэтай здзяйсняем правіла апрацоўкі для вялікіх меліярацыйных аб'ектаў планаў комплекснага загаспадаравання.

Мы ўпэўнены, што комплекснае здзяйсненне праграмы меліярацыйных і сумежных пабудоваў можа забяспечыць хуткія эфекты капіталаўлажэнняў.

ТАБЛІЦА № 1

| Аб'ект (павет) | Час выканання пабудовы | Меліяраваная плошча | Кошт меліярацыі зл/га | Сярэдні гадавы збор сена ц/га | | Колькасць штук рагатай жывёлы*) | | Скупоўванне малака ад адной каровы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1957—1959 | 1964—1966 | 1957 | 1966 | 1957 | 1966 |
| Бярэзіна (Беласток) | 1959—1963 | 1.050 | 11.310 | 24,7 | 48,7 | 591 | 809 | 699 | 1.326 |
| Нэрэсль II (Монькі) | 1958—1962 | 1.743 | 10.013 | 14,0 | 32,1 | 1460 | 2317 | 276 | 963 |
| Лаха (Кольна) | 1957—1960 | 2.433 | 10.416 | 14,5 | 37,4 | 846 | 1882 | 476 | 901 |
| Ласосьна Пшэрва (Саколка) | 1958—1961 | 338 | 8.654 | 30,3 | 53,2 | 276 | 429 | 140 | 965 |
| СГР Пісаніца (Элк) | 1956—1959 | 302 | 10.800 | 17,2 | 50,9 | 147 | 732 | 1.329 | 2.651 |

*) У уладальнікаў зялёных угоддзяў на меліяраваных аб'ектах.



ТАБЛІЦА № 2

| Пералік | Адзінка меры | гады | | | 1966—1968 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1960—1962 | 1963—1965 | 1966—1968 | 1960—1962 |
| Ступень заспакаення меліярацыйных патрэбаў на зялёных угоддзях (стан у канцы перыяду) | % | 19,2 | 30,8 | 37,0 | 192,7 |
| Сярэднегадавы збор сена з агульнай плошчы зялёных угоддзяў | ц/га | 29,8 | 31,0 | 40,5 | 135,9 |
| у тым з зялёных меліяраваных угоддзяў | ц/га | 44,6 | 51,0 | 57,0 | 128,0 |
| Сярэднегадавая колькасць рагатай жывёлы на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў | штук | 34,9 | 41,1 | 44,7 | 128,1 |
| Сярэднегадавы ўраджай чатырох збожжаў | ц/га | 13,3 | 13,8 | 16,4 | 123,3 |
| Сярэднегадавое скупоўванне ўбойнай ялавічыны (разам з цялятамі) | тысячы тон | 28,8 | 38,6 | 43,0 | 149,3 |
| Сярэднегадавое скупоўванне малака | мільёны літраў | 201,9 | 225,2 | 299,6 | 148,4 |

ЗАЎВАГА: За 1968 год да вылікаў прынята ацэначныя дадзеныя (яшчэ не пацверджаныя Галоўным Статыстычным упраўленнем).

Інж. ТАДЭУШ МІХАЛОЎСКІ
Кіраўнік Аддзела лясніцтва
Прэзідыума Ваяводскай рады
нарадовай
у Беластоку

## СЯЛЯНСКІЯ ЛЯСЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА

Агульная паверхня лясоў на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства выносіць 620 тысяч га, у тым ліку недзяржаўныя (сялянскія) лясы складаюць асобную пазіцыю, бо займаюць звыш 217 тысяч га, г. зн. каля 35% агульнай плошчы лясоў. Гэта ставіць Беластоцкае ваяводства на другім месцы ў краіне.

Гэтыя лясы належаць да 118 тысяч гаспадароў, а сярэдняя плошча лесу, якая выпадае на адну гаспадарку, складае 1,86

Размяшчэнне недзяржаўных лясоў вельмі нераўнамернае, а іх плошча вагаецца ад 900 га ў Галдапскім павеце да звыш 28 тысяч га ў Беластоцкім. Найбольш сялянскіх лясоў маюць паветы: Беласток — 28 тысяч га, Сямяцічы — 27 тысяч га, Бельск Падляшскі — 20 тысяч га; а за імі, у межах ад 10 тысяч га да 20 тысяч га, ідуць паветы: Граева, Гайнаўка, Кольна, Ломжа, Монькі, Саколка, Высокае-Мазавецкае і Замбраў. Рэшта паветаў, г. зн.: Аўгустаў, Беластоцкая Дуброва, Элк, Голдап, Лапы, Алецка, Сейны і Сувалкі маюць недзяржаўных лясоў меней, чым па 10 тысяч га.

Паводле ўзроставай класіфікацыі з агульнай плошчы недзяржаўных лясоў выпадае на:

| | |
|---|---|
| — выгалкі і пустэчы — плошчы без дрэў | — 7,7% |
| — лясы ва ўзросце ад 1 да 20 год | — 43,1% |
| — „ „ ад 21 да 40 год | — 29,0% |
| — „ „ ад 41 да 60 год | — 14,9% |
| — „ „ ад 61 да 80 год | — 4,0% |
| — „ „ ад 81 года ўзвыш | — 1,3% |

Адмоўнай з'явай гэтых лясоў ёсць непажаданая наяўнасць выгалкаў і пустэчаў, якія складаюць 7,7%, г. зн. звыш 15 тысяч га і недахоп лясоў у старэйшым узросце.

Характэрнай уласцівасцю сялянскіх лясоў з'яўляецца іх празмерная прарэджанасць. Ацэньваецца, што такіх лясоў вельмі дрэннай якасці ёсць каля 30% агульнай плошчы недзяржаўных лясоў. Іменна гэтая найгоршая частка лясоў, у сувязі са значнай яе паверхняй, з'яўляецца прычынай знішчанага выгляду сялянскіх лясоў. Зусім іншую частку недзяржаўных лясоў складаюць поўнаякасныя маладнякі і пасадкі, закладзеныя ў апошніх 10—12 гадах. Яны займаюць каля 50 тысяч га.

Прарэджванне большасці лясоў давяло да змяншэння колькасці дрэў, а ў выніку гэтага — да паніжэння прыросту драўніны. А гэта ўжо адчувальная страта для народнай гаспадаркі. Вытворчасць драўніны ў недзяржаўных лясах такая нізкая, што яе прырост з 1 га выносіць усяго толькі 0,7 м³ тоўстай драўніны, значыць у 3,5 разы ніжэйшы, чым у дзяржаўных лясах.

Прычыны такога стану недзяржаўных лясоў розныя і складаныя. Тут важную ролю адыгрывае раздрабненне лясных дзялянак і выплываючая з гэтага індывідуальная гаспадарка імі, якая зводзіцца да вырубак дрэва, а гэта вядзе да прарэджвання лесу. Нядбайнае або няўмелае насаджванне маладых дрэўцаў і адсутнасць догляду пагаршае гэты стан. Некарысны ўплыў на стан недзяржаўных лясоў мелі вялікія зні-



шчэнні ў часе акупацыі і празмерныя вырубкі пасля вайны.

Наша эканоміка ставіць перад лясной гаспадаркай неабходнасць забеспячэння ўсё ўзрастаючага запатрабавання на драўніну. Гэтае запатрабаванне павялічыцца з 20 мільёнаў м³ у сучасны момант да каля 30 мільёнаў м³ у 2 000 годзе. Падобна ў сельскай гаспадарцы ўзрасце неабходнасць павелічэння ўраджаю. Калі сучаснаму стану сялянскіх лясоў будзем прыглядацца з пункту гледжання патрэб, тады нас усіх павінен занепакоіць факт, што цяперашняя гаспадарка ў недзяржаўных лясах амаль зусім не адпавядае пастаўленым запатрабаванням на драўніну. Яна таксама яшчэ слаба садзейнічае сваім уплывам на павышэнне сельскагаспадарчай прадукцыі.

Можна акрэсліць, абапіраючыся на падліках, што ў сялянскіх лясах, з прычыны 3,5 разоў меншага ў іх прыросту драўніны, чым у дзяржаўных лясах, трацім штогод каля 3 мільёнаў 500 тысяч м³ тоўстай драўніны вартасцю ў 175 мільёнаў злотых.

У пошуках найбольш адпаведных шляхоў развіцця лясной гаспадаркі, асабліва той, якая не з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы, трэба спачатку прыгледзецца да таго, што ў гэтай гаспадарцы зроблена да нашага часу і падвесці агульную ацэнку дагэтуляшніх намаганняў.

Як было ўжо сказана, у выніку вялікага знішчэння лясоў у часе акупацыі і празмерных вырубак у пачатковым перыядзе пасля вайны, значная частка лясных абшараў была абабрана з дрэў і таму катастрафічна зменшылася плошча лясоў, якія ўжо даспелі або ў хуткім часе даспеюць да вырубкі. Узніклі вялікія выгалкі і пустэчы, многа лясоў было прарэджаных, пакалечаных, карлікавых. Яны былі прыгодны толькі на ссячэнне і новае залясенне.

Таксама ў спадчыне ад капіталістычнай гаспадаркі атрымалі мы вялікія абшары няўдобіц, што паўсталі ў выніку вырубвання і выкарчоўвання лясоў на неўраджайных глебах. Гэтыя землі не маглі быць прыгодныя да доўгага карыстання імі ў сельскай гаспадарцы.

Плошча ўсіх гэтых выгалкаў і пустэчаў адразу пасля вайны складала кала 140 тысяч га, з гэтага — палова належала да недзяржаўных лясоў. У такой сітуацыі першапланавым заданнем для мясцовых улад было залясенне няўдобіц і абнаўленне абабраных з дрэў плошчаў. А гэта было падыктавана неабходнасцю:

— не дапусціць да знішчэння адкрытых лесішчаў;
— не дазволіць на ўзнікненне лятучых пясчаных выдмаў і пераўтварэння ветравой эрозіяй нашага ваяводства у стэп;



— уключыць у вытворчасць драўніны вялікія плошчы, якія не былі прыгодны для іншай гаспадаркі.

За перыяд часу ад 1945 года па 1968 год на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства былі залесены такія плошчы:

— у дзяржаўных лясах: месцы даўніх вырубак, выгалкі і далучаныя няўдобіцы — каля 76 тысяч га;
— у недзяржаўных лясах: няўдобіц — каля 40 тысяч га, выгалкаў і пустэчаў — каля 14 тысяч га.

Гэтыя лесанасаджэнні прычыніліся да павелічэння плошчы лясоў і агульнай лясістасці ваяводства, якая ў 1967 годзе дайшла да 26,7%.

Найбольш лесанасаджэнняў у недзяржаўных лясах праводзіцца ў апошнія гады, г. зн. у 1961—1965 гадах — каля 4 тысяч га ў год, а ў 1966—1968 гадах — больш чым па 5 тысяч га ў год.

Наогул размах лесанасаджэнняў можна ацаніць станоўча. Аднак не ўсе паветы ў роўнай ступені ўдзельнічалі ў намаганнях і здабытках залясення. Паветамі, якія патрапілі змабілізаваць найбольш насельніцтва і найлепш разгарнуць пасадку лесу, з'яўляюцца: Беласток, Сямяцічы, Гайнаўка, Ломжа, Саколка, Граева, Монькі, Бельск, Кольна і Замбраў. Вынікі лесанасаджэнняў у гэтых паветах відаць усюды ў выглядзе большых або меншых плошчаў пасадак і маладняку.

Здзейсніць такія вялікія лесанасаджэнні нельга было без актыўнага ўдзелу сялян. Ацэньваецца, што ў маштабе ваяводства ўдзел сялян выносіў каля 75%, г. зн. — 38 тысяч га было залесеных самімі сялянамі, а гэта сведчыць пра іх вельмі вялікую стараннасць і ахвярнасць.

Вялікая колькасць вёсак дала довады высокага ўзроўню грамадзянскай свядомасці. Яны разам са сваёй моладдзю абавязаліся да значных грамадскіх пачынаў, і таму праца пры пасадках сталася не толькі добрай гаспадарлівасцю, але і належным выхаваннем маладога пакалення. Прыкладам тут можа паслужыць залясенне няўдобіц каля Кляшчэляў насельніцтвам Гайнаўскага павета.

Тое, што зроблена ў лесанасаджэннях, не было б магчымым без усебаковай дапамогі з боку дзяржавы. Дзяржаўная дапамога знайшла выраз у часе ад 1957 г. па 1967 г. сумай каля 34 мільёнаў 500 тысяч злотых, якая трапіла ў паасобныя вёскі і грамады. Яна дазволіла на бясплатную дастаўку сялянам саджанцаў або залясенне вельмі цяжкіх паверхняў за кошт дзяржавы. Заданнем дзяржаўнай дапамогі было і ёсць папоўніць у першую чаргу і ўзмоцніць старанні самога ўладальніка лесу, заахвоціць сялян да пачынаў і дапамагчы ім.

У выніку залясення ў недзяржаўных лясах плошчы 54 тысяч га, можна сцвердзіць, што лесанасаджэнні на 40 тысячах га няўдобіц сталі высокай якасці пасадкамі і маладнякамі. Аднак залесеныя нанава 14 тысяч га выгалкаў і пустэчаў толькі ў невялікай і нездавальняючай ступені паправілі стан недзяржаўных лясоў.

Атрыманыя да гэтага часу вынікі залясення ствараюць спрыяльныя ўмовы для падняцця такіх жа заданняў у бліжэйшай будучыні.

Узяўшы пад увагу тое, што ў недзяржаўных лясах яшчэ засталося залесіць:

— 14 тысяч га даўніх вырубаў, выгалкаў і пустэчаў,
— 16 тысяч га лясоў дрэнных, якія прыгодны толькі да ссячэння і залясення нанава,
— 8 тысяч га няўдобіц пасля сельскай гаспадаркі,

усяго 38 тысяч га, можна сказаць, што мы цяпер знаходзімся ў палове дарогі да ўпарадкавання гаспадарак у недзяржаўных лясах. Чакае нас перыяд далейшых вялікіх намаганняў, бо апрача новых лесанасаджэнняў трэба неадкладна ўпарадкаваць каля 30 тысяч га прарэджаных лясоў, якія вымагаюць увядзення падлеску, і заняцца доглядам за пасадкамі і маладнякамі на плошчы каля 50 тысяч га.

З ацэначных дадзеных вынікае, што найбольшыя заданні будуць мець паветы: Беласток, Бельск, Граева, Гайнаўка, Кольна, Ломжа, Монькі, Сямяцічы, Саколка, Высокае Мазавецкае і Замбраў.

Варта аднак паставіць пытанне, ці пры цяперашняй структуры ўласнасці можна радыкальна паправіць стан недзяржаўных лясоў і выканаць пастаўленыя заданні, а затым правільна гаспадараваць у гэтых лясах?

Неабходна з абсалютнай упэўненасцю сцвердзіць, што такая паправа магчыма, калі ў часе выконвання гэтых заданняў будзе поўнае зразуменне і садзейнічанне з боку гаспадароў гэтых лясоў.

Вядома ж, значная большасць прац па вырошчванню як: пасадку, догляд і вырубку выконваюць самі гаспадары і ад іх адносін і ўмення будзе залежаць, якімі стануць гэтыя лясы.

Ужо пры засноўванні пасадкі можна ў значнай ступені садзейнічаць павышэнню якасці будучага лесу. Дрэнна праведзеная пасадка не дасць ніколі ў будучым добрага лесу. Значыць, трэба ў адпаведным часе плошчу, назначаную на залясенне, ачысціць і належна падрыхтаваць глебу пад будучае лесанасаджэнне. У сувязі з тым, што звычайна пасадкі засноўваюцца на найгоршых ворыўных землях, няўдобіцах або на знішчаных даўнейшых лесішчах, якасць саджанцаў павінна быць найлепшай. Саджанцы мусяць быць дужыя, ро-





*Пасадка лесу ў вёсцы Трасцянцы Гайнаўскага павета. 1969 г.*
*Фота — У. Юзвюк*

слыя, з моцнымі карэннямі, не засушаныя. Падбор гатункаў дрэў павінен адпавядаць умовам месца пасадкі. Часта здараецца, што залясенне няўдобіц або абнаўленне лясных зямель пасля вырубак праводзіцца адным гатункам, а іменна — сасной. Такія аднародныя пасадкі, як правіла, вельмі падатлівыя на хваробы, што выклікаюцца грыбамі і мікробамі. Таксама насякомыя-шкоднікі знаходзяць у іх дасканалыя ўмовы да жыцця. Навуковыя доследы паказалі, што лесанасаджэнні павінны складацца з самых разнастайных гатункаў дрэў. Тады яны здаровыя, а шкоднікі не знаходзяць у іх спрыяльных умоў жыцця. У такіх лесанасаджэннях размнажаюцца карысныя насякомыя — саюзнікі сялян у барацьбе са шкоднікамі лесу. Мы павінны ўсюды імкнуцца да разнастайнасці гатункаў дрэў у лясах шляхам увядзення такіх прымешак як: бяроза, ліпа, дуб, чырвоны дуб, клён, явар, елка, лістоўніца і розныя кусты.

Кожная пасадка, як правіла, з бегам часу выяўляе меншыя або большыя страты. У такіх пасадках ужо ў наступным годзе трэба правесці насаджванне дрэўцаў, г. зн. зрабіць папаўненні ва ўсіх вольных месцах. Праца гэтая неабходна — інакш пасадка з прарэхамі ніколі не вырасце ў добры лес. Старэйшыя пасадкі папаўняць такімі гатункамі дрэў, якія не баяцца цяню сваіх суседзяў-дрэў. Да іх належаць перад усім елка і некаторыя гатункі ліставых дрэў. Папаўненне лесанасаджэнняў

заўсёды аплочваецца, бо мае карысны ўплыў на рост і развіццё будучага лесу.

Пасаджаныя маладыя дрэўцы патрабуюць догляду, гаспадарлівай апекі і гэта не толькі ў першыя гады пасля пасадкі, але і ў пазнейшым часе. Догляд лесу — гэта праца пры вырошчванні лесу найцяжэйшая і вымагае значнага вопыту. Гэта аднак не абазначае, што селянін не можа даглядаць свайго лесу. Якраз наадварот, калі ён хоча мець добры лес — павінен гэтаму навучыцца. У даным выпадку інструктарам і спецыялістам-дарадчыкам можа быць мясцовы ляснік.

Тое, што можна ўвачавідкі паправіць стан недзяржаўных лясоў, — гэта не выграбаць з іх кастрыцы. Там, дзе грабуць кастрыцу, глеба становіцца вельмі беднай. З кастрыцы ўтвараецца перагной, які дастаўляе корм лясным дрэвам. Нявыграбены лес хутчэй расце, менш паддаецца хваробам і прадстаўляе большую вартасць.

Побач з выграбаннем кастрыцы вельмі распаўсюджана пасвінне быдла ў лесе. Хацеўшы паправіць стан лесу, трэба пасвінне ў ім жывёлы цалкам зліквідаваць.

Найбольшы аднак уплыў на паправу стану недзяржаўных лясоў мае адпаведны спасаб іх выкарыстання або інакш — вырубкі. Амаль усюды выкарыстанне лесу з'яўляецца звычайным знішчэннем, зводзіцца яно да вырубкі паасобных найлепшых дрэў паводле надзённых патрэб гаспадара, а не з думкай пра дабро лесу. Лес няспынна прарэджваецца і, урэшце, становіцца рэдкалессем. Дрэвы, што ў ім засталіся, дрэнна ачышчаюцца і празмерна разгаліноўваюцца, а глеба нішчэе. Рэдкалессі, званыя пустэчамі, калі яны зусім рэдкія, лепш за ўсё цалкам ссячы і засадзіць нанава, бо ў іх прырост драўніны невялікі, а па гэтай прычыне — страты аграмадныя, глеба ж збядняецца. Хуткая ліквідацыя пустэчаў і залясенне паўстаўшай з-пад іх плошчы павінна быць першым крокам гаспадара, каб паправіць вартасць свайго лесу.

Вырубка дрэў у лесе ў часе, калі ён яшчэ расце, г. зн. працярэбліванне, мусіць быць падпарадкавана патрэбам самога лесу. Трэба высякаць толькі тры дрэвы, што перашкаджаюць расці найлепшым дрэвам, дрэвы хворыя і сухастой. Калі лес даспее да вырубкі, тады яго трэба ссячы цалкам. Такія вырубкі павінны быць настолькі вялікімі, каб маглі стварыць адпаведныя ўмовы развіцця для новай пасадкі.

Уладальнікі лясоў у часе асенне-зімовага абучэння павінны пазнаёміцца з новымі метадамі догляду лесу. Для прыкладу, вельмі цікавымі з'яўляюцца новыя спосабы падрыхтоўкі глебы пад пасадку. Аказваецца, найбольш адпаведным ёсць поўнае ворыва, а не як дагэтуль было прынята — ворыва ў паясы.



Таксама як і ў сельскай гаспадарцы, хацеўшы каб лесанасаджэнне мела хутчэйшы рост і лепшае развіццё, трэба яго ўгнойваць. Можна гэта рабіць пры дапамозе сеяння лубіну, угнойваць торфам, прымяняць кастрыцу, вапнаваць і высяваць штучныя ўгнаенні. Выдатнае значэнне маюць штучныя ўгнаенні ў ліквідацыі хларозы (г. зн. — жаўцення іголак сасны на неўраджайных глебах).

Зразумела, што вядзенне лясной гаспадаркі ва ўмовах раздробненых дзялянак, як гэта мае месца асабліва ў Гайнаўскім, Бельскім, Сямяціцкім, Беластоцкім і Сакольскім паветах, цяжкае, а калі няма свядомасці і супольных намаганняў гаспадароў гэтых дзялянак — яно зусім немагчымае. Карысныя ўмовы належнаму гаспадараванню можа стварыць толькі заснаванне розных форм калектыўнай гаспадаркі, напрыклад: лясных аб'яднанняў (zrzeszeń leśnych) або лясных аддзелаў у сельскагаспадарчых гуртках. Калектыўная гаспадарка з адначасовым захаваннем права ўласнасці гаспадароў да сваіх дзялянак, спаўняе асноўнае патрабаванне правільнай лясной гаспадаркі. Яно дае магчымасць гаспадараваць большым, аб'яднаным комплексам. Адначасова стварае гаспадарам магчымасць атрымаць самыя вялікія карысці са свайго лесу.

Наколькі важнае значэнне мае супрацоўніцтва ў доглядзе лесу, сведчаць такія прыклады. Калі гаспадар вузкай дзялянкі, якая знаходзіцца на ўбогай пясчанай глебе ў акружэнні іншых сасновых дзялянак, ссячэ свой лес, а яго суседзі не зробяць тое самае, дык абнаўленне такой вузкай палоскі стане немагчымым. Сасновая пасадка ў такім вузкім »тунелі«, што ўтвараюць сцены акружаючага лесу, неўзабаве загіне. Кроны дрэў, што растуць на дзялянках суседзяў, не дапусцяць святла і дажджу да малых саджанцаў, а моцна развітыя карэнні вялікіх дрэў сцягнуць з глебы рэшткі вільгаці ды корму, і лесанасаджэнне загіне. У выпадку, калі пры залясенні няўдобіц, для прыкладу, сыпучай пясчанай выдмы, адзін гаспадар на сваёй дзялянцы затрымае пяскі і пасадзіць лес, а іншыя яго суседзі гэтага не зробяць, тады пасадка загіне, бо яе засыпле пясок, нанесены ветрам з суседніх незагаспадараваных выдмаў.

Таксама будзе і пры іншых працах, звязаных з доглядам лесу. Напрыклад, калі некалькі гаспадароў зробяць на сваіх дзялянках вынішчэнне шкодных насякомых або грыбоў, а іншыя гэтага не зробяць, тады ўсе намаганні будуць без вынікаў, бо зараза вернецца зноў на гэтыя дзялянкі.

Толькі супольная праца дае вялікую ашчаднасць часу і грошай, і адначасова прыносіць добрыя вынікі.

ЮЗЭФ РОДЗІК
Старшыня Ваяводскага Саюза
сельскагаспадарчых гурткоў
у Беластоку

## З ДЗЕЙНАСЦІ СЯЛЯНСКАГА САМАЎПРАЎЛЕННЯ

У канцы 1968 года ў Беластоцкім ваяводстве працавала 2523 сельскагаспадарчыя гурткі. Ахоплівалі яны сваёй арганізацыйнай дзейнасцю 2867 вёсак і гуртавалі 111 500 членаў, у гэтым ліку 43 500 жанчын, сарганізаваных у 2331 гуртку сялянскіх гаспадыняў. Найбольш інтэнсіўнае развіццё сельскагаспадарчых гурткоў у мінулых гадах было ў наступных паветах: Аўгустоўскім, дзе яны ахапілі сваёй арганізацыйнай дзейнасцю 90,8% вёсак, Беластоцкім — 92,8% вёсак, Бельскім — 92,4% вёсак, Сямяціцкім — 91,4% вёсак і Замбраўскім — 91,1% вёсак.

Сельскагаспадарчыя гурткі ў штораз большых памерах вызваляюць грамадска-гаспадарчую актыўнасць жыхароў вёсак. Праца іх адбываецца з шырокім удзелам сялян, жанчын і моладзі.

У самакіраванні сельгасгурткоў у 1968 г. было звыш 27 000 асоб, у гэтым ліку каля 7500 жанчын. На праведзеных у 1968 годзе павятовых з'ездах і на ваяводскім з'ездзе дэлегаты сельгасгурткоў і гурткоў сялянскіх гаспадыняў шырока прадстаўлялі іх здабыткі і намеры на будучыню, здзяйсненні сельскагаспадарчай палітыкі нашай партыі.

У 1968 годзе сельгасгурткі засяроджвалі сваю ўвагу на двух асноўных напрамках дзейнасці:

— на рэалізацыі Пастаноў IX Пленума ЦК ПАРП у справе інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці,
— паляпшэнні механізатарскага абслугоўвання сельскай гаспадаркі.

У рэалізацыі Пастаноў IX Пленума ЦК ПАРП з вялікай дапамогай сельгасгурткам прыйшлі калектывы сельскагаспадарчых спецыялістаў. Яны ў кожнай вёсцы акрэслілі асноўныя агратэхнічныя і заатэхнічныя заданні, што былі прадметам абмеркавання сялян на сходах гурткоў, і акрэслілі спосабы іх выканання ў практычнай дзейнасці. Галоўнае заданне заключалася ў тым, каб пусціць у рух свае ўласныя вытворчыя рэзервы, па-гаспадарску выкарыстаць дапамогу дзяржавы і такім чынам дабіцца павышэння ўраджаю збожжа і кармоў, а таксама павялічваць колькасць хатняй жывёлы.

Беластоцкая сельская гаспадарка, не гледзячы на вялікія дасягненні, адставала і працягвае адставаць ад сярэдніх паказчыкаў у краіне.

Складзены ў 1968 годзе калектывамі сельскагаспадарчых спецыялістаў падлік вытворчых рэзерваў, а дакладней кажучы — агратэхнічнай апушчанасці ў 1967 годзе, быў вельмі багаты. Прыводзім тут некалькі важнейшых занядбанняў, якія ў рашаючай ступені ўздзейнічалі на выйікі вытворчасці сельскай гаспадаркі.

Амаль 21% сялян не абнаўляла, згодна з планам, пасяўнога зерня, 10% сялян не выменьвала высадачнай бульбы, звыш 64% сялян не апрацавала пасяўнога зерня хімікатамі, каля 70% сялян не праводзіла хімічнага знішчэння пустазелля, амаль 80% сялян не вапнавала глебы і каля 20% сялян не прымяняла або прымяняла ў нязначнай колькасці штучныя ўгнаенні. Усяго толькі 36 500 сельскіх гаспадарак мела трывалыя сіласы, з гэтага ліку ўсяго 26 800 гаспадарак нарыхтавала сілас.

Вышэй успомненыя і шэраг іншых агратэхнічных занядбанняў былі і ёсць асноўнай прычынай нізкіх ураджаяў збожжа і нізкага ўзроўню вытворчасці ў жывёлагадоўлі. Выяўленне гэтых рэзерваў, крытычная ацэнка занядбанняў, праведзеныя на сходах сельгасгурткоў, станоўча ўздзейнічала на павышэнне гаспадарчай актыўнасці сялян і сельгасгурткоў.

І так, у 1968 годзе сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы дадаткова купілі 4973 сеялкі да збожжа, павялічваючы такім чынам іх колькасць да 10 928 штук. Купля такой колькасці сеялак сельгасгурткамі і перадача іх групам сялян пад аптовы разлік дазволіла атрымаць у сярэднім па ваяводстве па 15 га пасеву азімага збожжа і столькі ж яравага збожжа на адну сеялку. У большасці вёсак, дзе працуюць сельгасгурткі, ліквідавана сеянне збожжа з каробкі. Улічыўшы, што кожнай сельгасгуртковай сеялкай засеяна 30 га збожжа, дык разам засеяна звыш 300 000 га. Ашчаднасць у зерні па 20 кг на гектар (у выніку сеяння радочкамі) у маштабе ваяводства вынесла звыш 6000 тон. Вартасць захаванага пасяўнога зерня складае ў год каля 18 мільёнаў злотых. Столькі беластоцкія сяляне зарабілі на працягу года дзякуючы прымяненню сеялак.

Аднак асноўным фактарам, які ўздзейнічае на павышэнне ўраджаю збожжа і іншых раслін, з'яўляецца больш інтэнсіўнае прымяненне штучных угнаенняў. Дзяржава пастаўляе штораз больш штучных угнаенняў нашай сельскай гаспадарцы. Ужо створаны ўмовы поўнага заспакаення патрэбаў сялян на ўгнаенні. Сельгасгурткі, маючы на ўвазе поўнае выкарыстанне пастаўленых угнаенняў, у 1968 годзе арганізавалі калектыўную дастаўку іх сялянам. З гэтай жа мэтай яны арганізавалі камісіённую, агенцыйную і вагонную дастаўку ўгнаенняў у вёску, непасрэдна на сялянскія панадворкі. У выніку яны распаўсюдзілі ў 1968 г. звыш 79 945 тон угнаенняў. Вартасць дадзенай сялянам абслугі ў гэтай справе павысілася з 3 285 000 злотых у 1967 годзе да 21 200 000 злотых у 1968 годзе. Пры тым сяляне ўносілі невялікую плату за перавоз і не былі вымушаны траціць час на паездкі да далейшых магазінаў гмінных спулдзельняў. Сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы штораз болей рассяваюць штучных угнаенняў і вапны. У нашым ваяводстве яны мелі ў 1968 годзе звыш 1000 сеялак да ўгнаенняў і 235 сеялак да вапны высокай якасці. Яны ў 1968 г. рассеялі 24 800 тон вапны, г. зн. 44% яго агульнага высеву.

Не менш важную ролю ў павелічэнні сельскагаспадарчай вытворчасці адыгрывае паўсямеснае і пасляховае хімічнае знішчэнне пустазелля, шкоднікаў і хвароб раслін. У гэтай галіне сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы адыгрываюць важную ролю. У 1968 г. яны купілі 1500 саматужных машын да хімічнай абробкі зерня і перадалі іх для выкарыстоўвання калектывам сялян. Расход хімікатаў да абробкі зерня ўзрос з 38,3 тоны ў 1967 г. да 105,1 тоны ў 1968 г. Апрача гэтага ў 1968 годзе ўпершыню праводзілася комплексная ахова раслін у вызначаных грамадах і вёсках. Хімічная абробка ў 1968 г. была праведзена на плошчы ў 172 300 га, з гэтай колькасці на 134 300 га правялі яе сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы. Комплекснае знішчэнне пустазелля дазволіла лепш выкарыстаць апаратуру да аховы раслін. У сярэднім кожны трактарны апырсквальнік, які знаходзіўся ва ўладанні сельгасгурткоў і міжгуртковых машынных базаў, працаваў на працягу 1968 года каля 147 гадзін. Расходавана 2683,3 тоны хімікатаў да аховы раслін, г. зн. на 489 тон болей, чым у 1967 годзе.

У 1968 годзе сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы пашырылі і палепшылі сваю гаспадарку на землях Дзяржаўнага зямельнага фонду. Плошча сельскагаспадарчых угоддзяў павялічылася на 8,3%, а ворыўных зямель — на 25% у параўнанні з 1967 годам. Гурткі і базы з кожных 100 га



V і VI класаў сельскагаспадарчых угоддзяў ДЗФ атрымалі звыш 570 000 злотых даходу. Па кантрактацыйных пагадненнях яны прадалі дзяржаве 988,7 тоны збожжа, 407 цэнтнераў насення струковых, 616,1 тоны бульбы і 106,7 тоны ільняной саломы.

У выніку гаспадарчай актыўнасці большасці сялян і сельгасгурткоў, а таксама вялікай дапамогі дзяржавы і аграналічнай службы беластоцкая сельская гаспадарка атрымала ў 1968 годзе ўпершыню сярэдні ўраджай збожжа па 18 ц/га. Значна павысілася таварнасць нашай сельскай гаспадаркі. У параўнанні з 1967 годам скупоўванне збожжа са збору 1968 года было вышэйшым на 36,8%, убойнай жывёлы — на 5,9% і малака — на 4,8%. Нягледзячы на некарысныя атмасферныя ўмовы быў сабраны добры ўраджай бульбы — 167 ц/га і цукровых буракоў — 308 ц/га. Павялічылася колькасць рагатай жывёлы на 9000 штук і авечак — на 5500 штук. Аднак зменшылася на 5,5% колькасць свіней.

Другім асноўным напрамкам дзейнасці сельгасгурткоў і міжгуртковых машынных базаў было механізатарскае абслугоўванне сельскай гаспадаркі. У гэтай галіне наступілі важныя перамены. Яны датычылі паглыблення працэсу канцэнтрацыі машына-трактарнага абсталявання, павелічэння даходнасці трактараў і машын і павышэння эканамічнай рэнтабельнасці. У 1968 годзе расшыраную гаспадарчую дзейнасць вялі 1 448 сельгасгурткоў, 77 міжгуртковых машынных баз, 9 кааператываў па абслугоўванню і вытворчасці і адзін кааператыўны сельскагаспадарчы цэнтр сельгасгурткоў.

На пакупку машына-трактарных камплектаў і на пабудову гаспадарчых будынкаў у 1968 г. сельгасгурткі і базы нашага ваяводства расходавалі 227,9 мільёна злотых з Фонда развіцця сельскай гаспадаркі, г. зн. на 64 мільёны больш, чым у 1967 г. За гэтую суму яны купілі: 654 трактары, 887 прычэпаў, 267 малатарань, 3 камбайны да збожжа, 515 снапавязалак, 253 апырсквальнікі, 91 рассявальню вапны і шмат іншага абсталюнку. Яны закончылі пабудову 59 гаражоў паверхняй у 23,4 тысячы м² і 57 магазінаў паліва.

Ад часу паклікання Фонду развіцця сельскай гаспадаркі да канца 1968 года сельгасгурткі і Павятовыя саюзы сельскагаспадарчых гурткоў расходавалі на пакупку машын, пабудову гаспадарча-рамонтных базаў і іншых патрэбных сельскай гаспадарцы аб'ектаў 1 288,3 мільёна злотых. Вартасць трывалай маёмасці ў пералічэнні на адзін сельгасгурток з пашыранай гаспадарчай дзейнасцю ўзрасла з 306,5 тысяч злотых у 1967 г. да 415,3 тысяч злотых у 1968 г. У сярэднім адна машынная міжгуртковая база мела трывалую маёмасць

у 2 213 тысяч злотых, а машынная база пры Дзяржаўнай машына-трактарнай станцыі — 2 414 тысяч злотых. Працэс павелічэння маёмасці сельгасгурткоў і машынных баз з'яўляецца вынікам канцэнтрацыі абсталявання.

Колькасць сельгасгурткоў і міжгуртковых машынных баз, якія маюць трактары, прадстаўляе наступная табліца:

| На 31.XII | Агульна гурткі і базы | У тым ліку мелі трактараў па: | | | | | ад 6 да 24 штук трактараў мелі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 і болей | міжгуртковыя базы | базы пры машына-трактарных станцыях |
| 1967 | 920 | 88 | 384 | 192 | 99 | 157 | 15 | 8 |
| 1968 | 723 | 32 | 189 | 159 | 90 | 253 | 57 | 20 |

Сельгасгурткі і міжгуртковыя машынныя базы Беластоцкага ваяводства мелі на дзень 31 снежня 1968 г. наступную колькасць важнейшых сельскагаспадарчых машын:

| Машыны | Сельгасгурткі і міжгуртковыя базы ўсяго штук | У тым ліку ў шт. | | |
|---|---|---|---|---|
| | | сельгасгурткі | базы пры сельгасгуртках | базы пры машына-трактарных станцыях |
| трактары | 3300 | 2400 | 630 | 270 |
| прычэпы | 3272 | 2359 | 640 | 273 |
| трактарныя снопавязалкі | 1933 | 1476 | 313 | 144 |
| бульбакапалкі | 1614 | 1278 | 227 | 108 |
| трактарныя бульбакапалкі | 937 | 729 | 130 | 58 |
| конныя апырсквальнікі | 1409 | 1252 | 113 | 44 |
| трактарныя апырсквальнікі | 915 | 600 | 213 | 102 |
| калонны кормазапарнікаў | 30 | 19 | 6 | 5 |
| грузчыкі гною | 24 | 4 | 12 | 8 |
| раскідвальнікі гною | 122 | 76 | 36 | 10 |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| рассявальнікі вапны | 235 | 118 | 72 | 45 |
| машыны да пасадкі бульбы | 131 | 88 | 30 | 13 |
| камбайны да збожжа | 5 | 2 | 3 | — |
| камбайны да буракоў | 6 | 2 | 3 | 1 |
| электрычныя рухавікі | 631 | 528 | 74 | 29 |
| рухавікі ўнутранага згарання | 2110 | 1718 | 279 | 113 |



Апрача гэтага мелі яны здавальняючую колькасць плугоў да ворыва і культыватараў. Аднак, як вынікае з табліцы, за мала ў іх было некаторых машын.

З кожным годам павялічваецца запатрабаванне сялян на машыннае абслугоўванне. Расце таксама паказчык выкарыстання трактараў і машын. Калі ў 1965 г. у сярэднім адзін трактар працаваў 763 гадзіны, дык у 1968 г. працаваў ужо 938 гадзін у год. Агульная вартасць машыннага абслугоўвання ў тым жа часе павялічылася з 109,9 мільёна злотых на 217,5 мільёна злотых.

Агульна даходы з гаспадарчай дзейнасці сельгасгурткоў і міжгуртковых машынных базаў павялічыліся з 202,9 мільёна злотых у 1967 г. да 294,1 мільёна злотых у 1968 г. Палепшыліся і вынікі дзейнасці. У параўнанні з вынікамі 1967 г. павялічыўся лік гурткоў з выпрацаванай лішкай на 220 і зменшылася колькасць гурткоў са стратамі на 134. Сума выпрацаваных лішак павялічылася на 4 838 тысяч злотых, а сума стратаў зменшылася на 1 708 тысяч злотых.

Найбольш паказальныя вынікі атрымалі сельгасгурткі ў паветах: Кольненскім, Алецкім, Гайнаўскім, Беластоцкім, Бельскім, Ломжынскім і Сувальскім. У дзесяці паветах кожны трактар працаваў у год звыш 1 000 гадзін. Міжгуртковыя машынныя базы, лікам у 77, атрымалі ў сярэднім звыш 1 000 гадзін працы ў год на адзін трактар, г. зн. на 80 гадзін больш, чым сельгасгурткі.

Даючы агульную ацэнку дзейнасці сельгасгурткоў, міжгуртковых машынных базаў і гурткоў сялянскіх гаспадыняў, неабходна сцвердзіць, што ўнеслі яны вялікі ўклад

у справу развіцця сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. Аднак і ў далейшым павінны яны яшчэ ў большых памерах уздзейнічаць на павышэнне культуры і павелічэнне сельскагаспадарчай вытворчасці. На VI Ваяводскім з'ездзе дэлегатаў Саюза сельскагаспадарчых гурткоў у лістападзе 1968 г. была прынята абшырная праграма дзейнасці сельгасгурткоў на 1969—1970 гады, рэалізаванне якой будзе садзейнічаць яшчэ лепшым вынікам беластоцкай гаспадаркі.



# VI З'ЕЗД БГКТ

## СПРАВАЗДАЧА З VI З'ЕЗДА БГКТ

11 мая ў будынку ГП БГКТ на Варшаўскай 11 шырока расчыніліся дзверы знаёмага асабняка, напоўніліся гоманам пасланцаў беларускай арганізацыі. Тут, у гэты майскі дзень, адбываўся VI з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Адбываўся ён у асаблівы час. Уся наша краіна, увесь народ, усе яго жыватворчыя сілы жылі павышаным тэмпам перадвыбарчай кампаніі ў сейм і рады народовыя, працоўнымі поспехамі імкнуліся дастойна сустрэць дваццаціпяцігоддзе народнай улады, той улады, якая першы раз у гісторыі польскай дзяржавы стала сапраўдным прадстаўніком працоўнага народа і гарантыяй яго лепшай будучыні.

Дабрадзейства сацыялістычнага ладу адчулі і нацыянальныя меншасці — раней прыгнечаныя, цяпер — зраўнаныя ў правах са сваімі братамі-палякамі, будуюць супольную багатую і справядлівую айчыну.

Наша арганізацыя, неадлучнае звяно Фронту адзінства народа, уносіць таксама ў гэту стваральную працу свой уклад. Мы гэтым ганарымся і будзем намагацца, каб наш уклад у агульнае будаўніцтва з кожным годам павялічваўся, даваў штораз лепшыя вынікі. Гэта не толькі наш гонар, але і абавязак. Перад нашым грамадствам, перад нашай краінай.

*

З усіх канцоў Беласточчыны, а таксама з Варшавы і Гданьска, з'ехаліся ў Беласток дэлегаты Беларускага таварыства на свой VI з'езд, каб падсумаваць трохгадовую дзейнасць нашай арганізацыі і каб накрэсліць далейшыя напрамкі працы.

За гэтыя 13 год у БГКТ вырaслі новыя дзеячы, якія разам з пачынальнікамі дзейнасці нашага таварыства сёння сабраліся на вялікую размову, каб сказаць, што ў нашай арганізацыі, яе практычнай дзейнасці здае экзамен, а што не дае добрых вынікаў.



*Прэзідыум VI з'езда БГКТ.*

*Фота — Р. Сянько*

Перапоўненая зала ГП, у якой сабралася каля 200 асоб, з апладысментамі прымае адкрыццё з'езда аб'яўленае старшынёю ГП Вінцуком Склубоўскім. Ён звяртаецца да прысутных з прапановаю, каб выбраць на старшыню з'езда дырэктара беларускага ліцэя Мікалая Гайдука. Сябар Гайдук цёплымі словамі вітае ўсіх дэлегатаў і прадстаўнікоў партыйных і адміністрацыйных улад. А пасля ён жа выступае з прапановамі пакліканне прэзідыума з'езда ў наступным складзе: Вітальд Мікульскі — сакратар ВК ПАРП, Уладзіслаў Скрыпчак — сакратар нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, Веслаў Тамаля — інспектар Міністэрства ўнутраных спраў, Уладзіслаў Канстанчук — кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК партыі, Антон Рошка — кіраўнік праўлення ўнутраных спраў ПВРН, Юзэф Кая — кіраўнік аддзела культуры ПВРН, Збігнеў Дамброўскі — старшыня нацыянальнай камісіі пры ВК ПАРП, Уладзімір Юзвюк — сакратар ГП БГКТ, Мікалай Самоцік — намеснік старшыні ГП, Юры Валкавыцкі — галоўны рэдактар »Нівы«, Міхась Хмялеўскі — член прэзідыума ГП, Лідзія Бялецкая — намеснік Рэвізійнай камісіі БГКТ, Янка Зенюк — актывіст нашага таварыства, Кастусь Масальскі — старшыня аддзела БГКТ у Беластоку, Аляксандр Іванюк — старшыня Гайнаўскага аддзела, Анатоль Мартыновіч — старшыня Сямяціцкага аддзела, Ніна Мушынская — дзеяч культуры з Гарадка, Аляксандр Панасюк — арганізатар аматарскага руху ў вёсцы Пасынкі, Мікола Карольчка — старшыня Галоўнага праўлення Украінскага таварыства і Ольгерд Скрыпко — старшыня Галоўнага праўлення Літоўскага таварыства.

Пасля старшыня з'езда інфармуе прысутных, што на працягу мінулай кадэнцыі адышлі назаўсёды з нашых радоў такія дзеячы БГКТ, як Пятро Ластаўка, Янка Грэсь, і Якуб Базылюк, памяць аб якіх ушанавалася прысутнымі хвілінай цішыні.


*Удзельнікі VI з'езда БГКТ у зале.*

*Фота — Р. Сянько*

Каб спраўна праходзіў з'езд, па прапанове старшыні з'езда дэлегаты прымаюць правілы з'езда (рэгулямін). Потым на трыбуну да прэзідыума ўваходзяць навучэнцы бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў і складаюць удзельнікам з'езда свае пажаданні плённай працы на карысць развіцця беларускай асветы і культуры і ўручаюць кветкі.

Наступным пунктам працы з'езда было ўступнае слова да дыскусіі старшыні Галоўнага праўлення В. Склубоўскага, у якім ён між іншым гаворыць, як выконваліся пастановы V-га з'езда БГКТ (справаздачны даклад ГП быў раней разасланы ўсім дэлегатам і запрошаным гасцям). Далей Лідзія Бялецкая — намеснік старшыні Рэвізійнай камісіі складае справаздачу. Яна інфармуе, як выконвалася статутовая дзейнасць БГКТ, як выдаткаваўся бюджэт БГКТ прызнаны Таварыству ад нашых улад. У заканчэнні справаздачнага аналізу — яна прапануе ўдзяліць абсалютарыум уступаючаму Галоўнаму праўленню, якое прымаецца дэлегатамі галасаваннем.

Пасля Мікалай Гайдук чытае два лісты з пажаданнямі для ўдзельнікаў з'езда. Адзін ад міністра Унутраных спраў Казіміра Світалы, другі ад Міністра Асветы Генрыка Яблонскага.

Па прапанове старшыні з'езда дэлегаты паклікалі 4 камісіі: мандатную, выбарчую, скрутацыйную і прапаноў.

Наступным пунктам працы з'езда была дыскусія аб працы БГКТ і аб далейшых напрамках дзейнасці. У ёй удзел узяло 17 асоб, у тым ліку сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі і старшыні Галоўных праўленняў Украінскага і Літоўскага таварystваў.

Удзельнікі з'езда пастанавілі выслаць ліст з пажаданнямі Уладзіславу Гамулку, у якім запэўніваюць першага сакратара ПАРП, што БГКТ рэалізавала і далей актыўна будзе рэалізаваць пастановы партыі.

Прыняццём пастаноў і выбарам новага ГП БГКТ закончыўся з'езд. Зараз жа адбылося пленарнае пасяджэнне новага Галоўнага праўлення, якое паклікала Прэзідыум і Рэвізійную камісію ГП.

Пасля адбылася мастацкая частка, з якой выступілі: эстрада ГП »Лявоніха«, гарадоцкі хор, удзельнікі курсу акардэаністаў пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку, а таксама нашы літаратары Алесь Барскі, Віктар Швед і Юрка Геніюш.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ

## СА СПРАВАЗДАЧНАГА ДАКЛАДА ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

Уступаючае Галоўнае праўленне на працягу 3-гадовага перыяду сваёй працы адбыло 7 пленарных пасяджэнняў. Праблематыка гэтых пленумаў кранала асноўныя галіны працы таварыства, як: рэалізацыя нашых пастаноў, ацэнка »Нівы«, вязалася з гістарычнымі гадавінамі, улічвала ўнутрыдзяржаўныя падзеі, а таксама прадугледжвала заданні для актыву на кожны асенне-зімовы перыяд працы.

На працу нашага таварыства аграмаднае ўздзеянне аказвалі ўнутрыдзяржаўныя і міжнародныя палітычныя падзеі. Хопіць толькі ўспомніць, што ў 1966 годзе Беларускае таварыства шырока адзначыла 1000-годдзе Польскай дзяржавы. У час гэтых святкаванняў мы правялі 83 гутаркі і даклады, арганізавалі 15 выставак, 5 фестываў. У тым жа годзе адзначылі мы таксама 40-годдзе Грамады, праводзячы 80 дакладаў. У 1967 годзе шырока адзначылі мы 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі: правялі 112 вечарын — сустрэч з былымі ўдзельнікамі рэвалюцыі, на якіх прысутнічала каля 14 тысяч асоб.

1968 год быў асабліва багаты грамадска-палітычнымі падзеямі. У І квартале БГКТ адзначала 50-годдзе Савецкай Арміі (26 акадэмій, 46 дакладаў і 34 гутаркі), потым 25-годдзе Войска Польскага (30 вечарын і 49 дакладаў і гутарак). У другім паўгоддзі шырока ўдзельнічалі мы ў перадз'ездаўскай кампаніі Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у сувязі з чым правялі 76 сустрэч, 46 дакладаў і 67 гутарак. У першым квартале гэтага года мы даволі шырока адзначылі 50-годдзе БССР — 15 акадэмій, у тым 4 павятовыя і 1 ваяводская, падрыхтавалі сотні выставак з жыцця БССР, якія экспанаваліся ў школах, клубах і прадпрыемствах.



*Момант уручэння дыпломаў для актывістаў БГКТ.*
*Фота — Р. Сянько*



*Момант адкрыцця беларускага фестына ў Семяноўцы Гайнаўскага*



*Удзельнікі фестына БГКТ у Семяноўцы Гайнаўскага павета. (1969 г.).*
*Фота — Р. Сянько*

скія гурткі, »Лявоніха« і кінаўстаноўка — у абслугоўванне мастацкімі часткамі сустрэч з кандыдатамі да новых улад.

Гэты кароткі пералік асноўных момантаў нашай прапагандысцкай працы ў апошняй кадэнцыі сведчыць аб глыбокім заангажаванні БГКТ у агульнадзяржаўныя справы, аб яе станоўчых спробах ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння насельніцтва — і — у сваю чаргу — аб падтрымцы такога напрамку працы нашымі членамі і ўсім насельніцтвам.

## ГУРТКІ

Дзякуючы ахвярнай працы актывістаў сістэматычна ўзрастаў аўтарытэт нашай арганізацыі, паляпшалася праца гурткоў. Пакажам дасягненні некаторых з іх. Гурток БГКТ у Вілінаве, Сямяціцкага павета, заініцыяваў пабудову вясковага дома культуры і супольна з партыйнай і маладзёжнай

арганізацыямі і пры падтрымцы ўсяго насельніцтва ў гэтым годзе выканае свой пачын. Грамадскі ўклад працы насельніцтва складзе каля 800 тысяч злотых. Члены гуртка бралі актыўны ўдзел у пабудове 1,5 км бруку ў сваёй вёсцы. Заўсёды дзейнічаюць тут аматарскія калектывы. На працягу апошніх 3-х год далі яны каля 60 выступленняў.

Гурток БГКТ у Маліnніках, Бельскага павета, ладзіць вечарыны, сустрэчы, акадэміі, развівае аматарскі рух.

Гурток БГКТ у Слоі, Сакольскага павета, вядзе культурна-асветную дзейнасць: ладзіць акадэміі, вечарыны, пашырае



*Выстаўка народных вырабаў.*

*Фота — Р. Сянько*

працу драматычнага гуртка, прымае ўдзел у грамадскіх чынах вёскі. Апошнім часам гурток абавязаўся ў гонар 25-годдзя ПНР дадаткова выканаць грамадскіх прац на 30 тысяч злотых.

Гэтыя гурткі дзейнічаюць у асяроддзі таму, што ёсць у іх актыўныя людзі, якія на штодзень кіруюць працай. Іх часцей наведвае актыў і штатныя працаўнікі. Нароўні з гэтымі добрымі гурткамі, існуе многа гурткоў, якія чакаюць на сталую дапамогу з вонку, а калі яе не атрымліваюць, перастаюць існаваць. У час апошняй справаздачна-выбарчай кампаніі яны крыху актывізаваліся, але надалей патрабуюць дапамогі. Падцягванне іх да ўзроўню сярэдніх гурткоў павінна складаць адно з асноўных заданняў аддзела.



*Заняткі з матэматыкі ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску.*

## АСВЕТА

Справы асветы ў роднай мове вырашаліся супольна з куратарыяй і грамадскімі бібліятэкамі. Эфектам іх ёсць значнае пашырэнне беларускай літаратурнай мовы і знаёмства сваёй літаратуры і гісторыі. Разам са школьнымі ўладамі вырашылі мы кадравыя праблемы, справы абеспячэння ўсіх 180 пачатковых школ, у якіх навучаецца беларуская мова, падручнікамі і іншымі дапаможнікамі. Супольна з інспектарамі асветы ў Гайнаўцы, Бельску і Беластоку праводзілі мы

конкурсы на найлепшыя дэкламацыі, апавяданні, удзельнічалі ў раённых метадычных нарадах, прымалі ўдзел у школьных святах, бацькоўскіх сходах і гд.

## ЧЫТАЛЬНІЦТВА

Чытальніцтва беларускай кніжкі развівалася ў асноўным вакол грамадскіх бібліятэк. 54 з іх маюць кнігазбор (18 000 кніжак) на беларускай мове.

Колькасць кніжак узрастае даволі памалу (600—1200 штук у год) з увагі на цяжкасці набыцця іх. Дагэтуль найбольшую колькасць кніжак атрымалі мы ў рамах абмену з Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску, Беларускага таварыства дружбы, Саюза беларускіх пісьменнікаў, прыватных асоб і часткова з »Дому кніжкі« ў Беластоку.

Найбольшай пачытнасцю сярод насельніцтва карысталася «Ніва», тыраж якой складае 7000 экземпляраў, у гэтым падпіска — 4870 экз., і рознічная продаж — 2130 экз. »Ніва« сталася папулярнай газетай у асяроддзі. Не ўсе аднак члены БГКТ яе выпісваюць і слаба далей папулярызуюць сярод насельніцтва. Абавязкам кожнага члена таварыства павінна быць цесная сувязь з рэдакцыяй »Нівы«.

Чарговае месца ў пачытнасці беларускай літаратуры займалі выданні ГП БГКТ. Карысталіся яны вялікай папулярнасцю і адначасова выклікалі дыскусіі і засцярогі. Спецыфічныя ўмовы дзейнасці, а яшчэ больш, надта скромныя сродкі на падрыхтоўку выданняў, прымушалі да сталых пошукаў, эксперыментаў, з якіх у адных выпадках выходзілі мы добра, у іншых зноў цярпелі няўдачы. На працягу апошніх 3 год ГП БГКТ падрыхтавала 6 кніжных публікацый.

## АМАТАРСКІ РУХ

У галіне аматарскага руху вялікіх змен на працягу апошняй кадэнцыі не адбылося. Лік вясковых аматарскіх калектываў астаўся нязменным. Амаль такі ж самы (у 1966—62 калектывы, у тым 48 драматычных, у 1967—67 калектываў; у тым 62 драматычныя, у 1968—69 калектываў, у тым 62 драматычныя). БГКТ надалей не мае кадры падрыхтаванай да аказвання дапамогі гэтым калектывам, не маюць яе таксама ПДК і ВДК. Кіраўнікамі гэтых гурткоў найчасцей з'яўляюцца настаўнікі, бібліятэкары, сяляне. Рэпертуар атрымліваюць у асноўным з ГП.

Аб ролі мастацкай самадзейнасці сведчыць хай такі прыклад. На 17 гурткоў БГКТ у Мілейчыцкім аддзеле існуе 11 мастацкіх калектываў. Ад 1966 года яны выступілі 186 разоў.






*Харавы калектыў Гарадоцкага аддзела БГКТ.*
*Фота — Р. Сянько*

Пры ўсіх аддзелах БГКТ існуюць пазычальні беларускіх народных убораў. Было іх у канцы 1968 г. звыш 300 камплектаў. У 1969 г. падрыхтавана 60 новых камплектаў. Атрымалі іх найлепшыя ў гэтым годзе харавыя калектывы ў Гарадку і Бельску. Праз увесь перыяд кадэнцыі дзейнічала пры ГП БГКТ эстрадная група »Лявоніха«. У гэтым перыядзе дала яна каля 600 канцэртаў.

## МУЗЕЙ

12.III.1966 г. афіцыйна быў адкрыты Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. У 1967 і 1968 гадах сярэдняя колькасць наведвальнікаў — 6000, у тым каля 400 заграннічных. Пакінутыя наведвальнікамі запісы сведчаць аб вялікім зацікаўленні экспанатамі. Іх цяпер 960, палова з іх, з увагі на цяжкія памяшкальныя ўмовы, не экспануецца.



*Жаночы хор аддзела БГКТ у Гайнаўцы ў час павятовых элімінацый. (9. III. 1969 г.).*

## ПРЫВІТАННЕ АД МІНІСТРА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ

З аказіі VI з'езда Беларускага грамадска- культурнага таварыства ў Польшчы шлю дэлегатам і актыву Таварыства сардэчныя прывітанні і пажаданні плённай працы.

Перыяд, які прайшоў ад апошняга Вашага з'езда, характарызаваўся актыўнай грамадскай і культурна-асветнай дзейнасцю ўсіх арганізацыйных звенняў Таварыства.

Я перакананы, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства і далей будзе паспяхова развіваць культурна-асветную дзейнасць, паглыбляць сярод сваіх членаў і ў сваім асяроддзі вядомыя прагрэсіўныя і рэвалюцыйныя традыцыі і грамадскую актыўнасць для далейшага развіцця нашай сацыялістычнай Айчыны — Народнай Польшчы.

МІНІСТР УНУТРАНЫХ СПРАЎ

## ПРЫВІТАННЕ АД МІНІСТРА АСВЕТЫ І ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ

Сардэчна дзякую за прысланае запрашэнне прыняць удзел у VI з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мушу, на жаль, паведаміць, што пільныя службовыя справы не дазваляюць мне выкарыстаць гэта запрашэнне.

Дазвольце мне пераслаць Галоўнаму праўленню, а таксама ўдзельнікам з'езда сардэчныя прывітанні і пажаданні паспяховай працы.

ГЕНРЫК ЯБЛОНСКІ



*Канцэрт эстрады «Лявоніха» на фестыне БГКТ у Новым Востраве Сакольскага павета.*

*Фота — Р. Сянько*

**ДАРАГІ ТАВАРЫШ САКРАТАР!**

Мы, удзельнікі VI з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, шлем Вам сардэчныя прывітанні.

Запэўніваем Вас, што з'яўляемся вернымі традыцыі польска-беларускага рэвалюцыйнага і культурнага супрацоўніцтва, якое яднала ў мінулым перадавых прадстаўнікоў нашых народаў у марах і барацьбе за нацыянальнае і грамадскае вызваленне. Барацьба гэта давяла да вызвалення нашай краіны і адкрыла цудоўную перспектыву мірнай працы для яе развіцця.

Мы ганарымся тым, што дзякуючы нашым супольным намаганням, пад Вашым, Таварыш Сакратар, кіраўніцтвам мы стварылі новы выгляд краіны, у якой рабочы без цяжкасцей знаходзіць сваё месца пры станку, селянін — трактар, паэт — ружу.

Запэўніваем Вас, што ў набліжаючыхся выбарах беларускае насельніцтва ў Польшчы масава аддасць свае галасы за кандыдатаў Фронту адзінства народа, бо нашыя мэты могуць быць дасягнуты толькі ў Народнай Польшчы, якая стала нашай супольнай і справядлівай Айчынай.

Беласток, 11. V. 1969 г.




*Сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі.*

## З ВЫСТУПЛЕННЯ САКРАТАРА ВК ПАРП ВІТАЛЬДА МІКУЛЬСКАГА

Таварышы! Я ўпаўнаважаны кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта партыі, каб з нагоды вашага з'езда прывітаць вас сардэчна, падзякаваць вам, а за вашым пасрэдніцтвам усім дзеячам і членам Беларускага грамадска-культурнага таварыства за вашу працу, укладзеную не толькі ў развіццё Беларускага таварыства, але ў развіццё нашай зямлі наогул.

Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта партыі станоўча ацэньнае працу вашага таварыства. Маеце ў гэтай працы шмат дасягненняў ва ўсіх галінах. Маеце гэтыя дасягненні, бо нацыянальныя меншасці ў Польшчы, у тым таксама беларусы, не проста жывуць у Польшчы, але яе будуюць, з'яўляюцца яе супольнымі гаспадарамі.

Беларусы супольна з палякамі будавалі Народную Польшчу, будуюць яе сённяшні дзень, будуюць яе будучыню, лічаць Польшчу супольнай айчынай. Таму эканамічнае, грамадскае, культурнае развіццё рэгіёна, у якім жывуць беларусы, ці таксама іншыя меншасці, якія якраз у гэтым рэгіёне сканцэнтраваны, узровень жыцця гэтых меншасцей залежыць ад развіцця ўсяго ваяводства, залежыць ад развіцця ўсёй краіны. Працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, не могуць быць, і не будуць, іншыя ў гэтым рэгіёне таксама.

Таму галоўным заданнем БГКТ — зліваць гэты рэгіён у цэласць дзяржаўнага арганізма, у агульны працэс, які ахоплівае ўвесь польскі народ. Вядома, у гэтым агульным працэсе нацыянальныя меншасці, значыць і беларуская меншасць, захаваюць пэўныя асаблівасці, перш за ўсё шырока разуметыя культурныя асаблівасці. Іншыя ж асаблівасці, перш за ўсё асаблівасці палітычныя, якія ставілі сцяну паміж польскім і беларускім народамі, былі ліквідаваны ад моманту ўваходу нашай краіны на шлях сацыялістычнага будаўніцтва.

Цэнім Беларускае грамадска-культурнае таварыства за развіванне і распаўсюджванне беларускай культуры, за культываванне беларускага фальклору. І напэўна ваша таварыства, між іншым у апошніх гадах, мае тут шмат дасягненняў. Аднак, здаецца мне, так прынамсі я ацэньваю, што дагэтуляшнія дасягненні таварыства ў галіне культурнай дзейнасці, развіцця беларускага фальклору скромныя. Да такога сцверджання ўпаўнаважвае мяне апошні агляд калектываў мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей, на якім беларускія калектывы выпалі найслабей з усіх меншасцей, якія там былі прадстаўлены. Не ведаю, чаму таварышы не падні-маюць востра, а я хацеў бы асабліва востра падняць тое, што ў дадзены момант на вёсцы гіне прыгожая традыцыя народнай беларускай песні.

Ведаю з уласнага вопыту, што беларуская моладзь любіць песню і з лёгкасцю яе выконвае. Тым часам беларуская песня гіне. Чаму так дзеецца? Што тут таварыства павінна рабіць, каб супрацьдзейнічаць гэтай адмоўнай з'яве. Не думаю, каб быў гэта вынік развіцця масавых сродкаў пераказу — тэлевізіі, радыё. Раней я меркаваў таксама, што ў гэтым прычына. Аднак яно не так. Быў такі перыяд у Беластоцкім ваяводстве, калі аматарскія калектывы мастацкай самадзейнасці хутка падалі колькасна. Цяпер маем адваротны працэс. Аказваецца, што пасля пэўнага пераходнага перыяду тэлевізія не толькі не перашкаджае развіццю мастацкіх калектываў, але наадварот — узбуджае. З адной засцярогай: тэлевізія застаўляе рух мастацкай самадзейнасці прымаць больш сучасны выгляд, новыя формы дзеяння.

Думаю, што наогул варта б у вашым таварыстве больш гаварыць аб сучаснасці і больш яе ўлічваць у змесце вашага дзеяння. Гэтай справы не збыць спрошчаным поглядам аб сучаснай моладзі, які тут прадставіў тав. Каленік. Гэта вялікае спрашчэнне справы. Вы любіце бярозу, я люблю wierzbę płaczącą. Але мы павінны ўяўляць, што сярод гэтых бяроз і ніцых вербаў з'явіўся трактар, элекраматор, што з'явілася шмат іншых рэчаў. І калі мы гэтага не ўлічым, дык праўдападобна будзем мець клопат з утрыманнем і культываваннем гэтага фальклору, з прыцягненнем моладзі.

Наогул праблему сучаснасці ў працы я б асабліва экспанаваў. Гэта добра, што таварышы гавораць, напрыклад, вельмі многа аб Грамадзе, аб Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Правільна, што гаворым аб КПЗБ, што гаворым аб Грамадзе. Таму проста правільна гаворым, што хочам пера-

няць усе тыя рэвалюцыйныя, прагрэсіўныя традыцыі і культываваць гэтыя традыцыі. Але КПЗБ і Грамада гэта ўжо гісторыя. Сёння, у сучасны дзень рэвалюцыйныя традыцыі КПЗБ увасабляе ПАРП, дастасоўваюць іх да новых умоў. Павінна, значыць, быць прапорцыя паміж тым, што было, і тым, што ёсць, што будзе. Асабліва адносіцца гэта да моладзі. Гісторыя з'ўляецца, як гаворым папулярна, маці жыцця. Але толькі на гісторыі вялікіх парываў мы не створым. Вялікія парывы родзяцца на фоне праграмаў будучыні, перш за ўсё — будучыні. На гэтай хвалі вырастаюць гэтыя вялікія і ўзнёслыя парывы. І здаецца мне, што частка дзеячоў вашага таварыства не разумее гэтага. Ведаю, што гэта складаныя справы, але трэба гэта бачыць.

Не магу, на жаль, таксама згадзіцца з імкненнем да штатнай культуры, што мела месца ў справаздачы і выступленнях. Няма мастацкіх калектываў, бо няма працаўніка ад спраў культуры, няма штатаў, не развіваецца, значыць, дзейнасць Беларускага таварыства.

Што патрэба для развіцця культуры?

Каб развівалася культурнае жыццё, патрэбны рэпертуар, патрэбна матэрыяльная база і патрэбны аўтэнтычныя дзеячы. Патрэбны таксама штаты, але штаты для спецыялістаў, парадні, дзе аматарскі калектыў атрымае і рэпертуар і фаховую параду. На гэта будзем, па меры магчымасці, ісці. Але толькі на гэта. Штатаў для адміністрацыі не дамо, бо нам патрэбны спецыялісты, а не адміністратары.

Так справу ставім не толькі ў адносінах да вас, але наогул генеральна ў адносінах да нашай культуры. І ад гэтага становішча не адступім.

## ПАСТАНОВЫ VI З'ЕЗДА БГКТ

1. VI з'езд БГКТ заклікае ўсіх членаў таварыства прыняць актыўны ўдзел ў выбарчай кампаніі ў рады нарадовыя і сейм ПНР, а ў дзень выбараў аддаць свае галасы на прадстаўнікоў Фронту адзінства народа.

2. Шырока ўключыцца ў святкаванні 25-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі. У сувязі з тым праводзіць народныя фестыны, арганізаваць канцэрты аматарскіх гурткоў, даклады, дэманстраваць фільмы, праводзіць сустрэчы.

3. Далей у сваёй дзейнасці адзначаць выдатныя гадавіны ПНР і БССР. Праз іх выхоўваць пачуцці патрыятызма і інтэрнацыяналізма, паглыбляць веды аб сваім народзе і гісторыі Польшчы.



4. Утрымоўваць і развіваць сувязі і супрацоўніцтва з усімі ўстановамі, арганізацыямі, якія дзейнічаюць сярод беларускай нацыянальнай меншасці.

5. Актыўна працаваць над далейшым ростам арганізацыі і сістэматычным аплачваннем складчын.

6. Аказваць большую дапамогу гурткам БГКТ часцей іх абслугоўваючы. Мабілізаваць членаў арганізацыі, а праз іх усё насельніцтва да шырокага ўдзелу ў грамадска-культурнай працы ў сваім асяроддзі.

7. ГП БГКТ і яго Прэзідыум павінны аказваць большую дапамогу аддзелам у іх працы, асабліва слабейшым.

8. Закончыць рэалізацыю пастаноў папярэдняга V з'езда БГКТ, а менавіта:

а) стварыць у ГП БГКТ выдавецкі аддзел з мэтай пашырэння выдавецкай дзейнасці таварыства,
б) зрабіць захады адносна павелічэння перадач БГКТ у радыёвузлах з 15 да 30 мінут штотыднёва,
в) імкнуцца да пабудовы новага школьнага будынка і інтэрната для агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.



*Выбары Галоўнага праўлення БГКТ.*
*Фота — Р. Сянько*

9. Павялічыць лік экспанатаў беларускай матэрыяльнай культуры музея ў Белавежы. Да моманту пабудовы новага будынка распачаць старанні, каб экспанаты перанесці ў адпаведнае памяшканне і — галоўнае — іх адпаведна забяспечыць. Для гэтага стварыць асобны бюджэт для музея.

10. Забавязаць ГП БГКТ, каб у суботы і нядзелі дэманстраваліся фільмы ў вясковым асяроддзі, а не, як дагэтуль, у Беластоку.

11. Наладзіць пастаянны абмен вопытам у працы паміж аддзеламі БГКТ.

12. Разважыць магчымасці адносна прыдзялення Гданьскаму і Гайнаўскаму аддзелам штатных інструктараў да асветна-культурных спраў.

13. Задбаць пра арганізацыю аддзела беларускай філалогіі пры ВСН Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

14. З'езд абавязвае аддзелы БГКТ, каб у далейшым праводзілі збор экспанатаў для Белавежскага музея.

15. Імкнуцца да поўнага выкарыстання бюджэту.

16. Зрабіць захады, каб радыёперадачы на беларускай мове беларускага радыё былі больш актуальныя.

17. Зрабіць захады ў справе наведвання Беласточчыны беларускімі пісьменнікамі.

18. Прапанаваць збор грамадскіх складчын на пабудову музея.

19. Варшаўскаму аддзелу прызнаць большую суму грашовых сродкаў на культурную дзейнасць.

20. Задбаць пра стварэнне магчымасці абмену вопытам паміж настаўнікамі БССР і нашымі, асабліва ў рамах прыгранічнага абмену.

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

1. АМБРОЖЭЙ АННА
2. БАРШЧЭЎСКІ АЛЯКСАНДР
3. БАРШЧЭЎСКІ ВАСІЛЬ
4. БУСЛОВІЧ ЮРКА
5. ВАЛКАВЫЦКІ ГЕОРГІ
6. ВАШЧУК ТЭКЛЯ
7. ВІШАНКА ЯНКА
8. ВРУБЛЕЎСКІ МІКАЛАЙ
9. ГАЙДУК МІКАЛАЙ
10. ДАНІЛОВІЧ НАДЗЕЯ
11. ЗЕНЮК ІВАН
12. ІВАНЮК АЛЯКСАНДР
13. КАЛЕНІК АЛЯКСАНДР
14. КІНДЗЮК ЯНКА
15. КІСЛЫ ЮРКА
16. КРАЎЧУК МІКАЛАЙ
17. КРЭЙЗА СЯРГЕЙ
18. МАЗАЛЕЎСКІ РАСЦІСЛАЎ
19. МАТЭЙЧЫК МІКАЛАЙ
20. МАРТЫНОВІЧ АНАТОЛЬ
21. МАСАЛЬСКІ КАСТУСЬ
22. ПАНАСЮК АЛЯКСАНДРА
23. ПАЎЛОЎСКІ УЛАДЗІМІР
24. ПАЎЛЮЧУК ОЛЬГА



25. РАЕЎСКІ УЛАДЗІМІР
26. РАФАЛОВІЧ АЛЯКСАНДР
27. САКОВІЧ АНТОН
28. САКОЎСКІ ВАСІЛЬ
29. САМОЦІК МІКАЛАЙ
30. СЕРАДЗІНСКІ МІКАЛАЙ
31. СКЛУБОЎСКІ ВІНЦУК
32. СУЛІМА ІВАН
33. СУЛІМА МІКАЛАЙ
34. ФІЛІПЮК СЯРГЕЙ
35. ХАРКЕВІЧ АЛЯКСАНДР
36. ХМЯЛЕЎСКІ МІХАСЬ
37. ХЖАНОЎСКІ АЛЯКСАНДР
38. ШВЕД ВІКТАР
39. ШЫМАНЮК ШЫМОН
40. ЮЗВЮК УЛАДЗІМІР




*Старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі.*

## ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

1. Хмялеўскі Міхась — старшыня
2. Самоцік Мікалай — намеснік
3. Зенюк Іван — сакратар
4. Баршэўскі Аляксандр — член
5. Гайдук Мікалай — член
6. Мазалеўскі Расціслаў — член
7. Матэйчык Мікалай — член
8. Шыманюк Шымон — член
9. Юзвюк Уладзімір — член



*Сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк.*



## РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ БГКТ

1. Альшэўскі Язэп — старшыня
2. Бялецкая Лідзія — намеснік старшыні
3. Кізевіч Піліп — член
4. Кунах Аляксандр — член
5. Навіцкі Уладзімір — член



# ВЫСОКІЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

З нагоды 25 гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі Рада Дзяржавы прызнала 54 дзеячам нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Урачыстасць уручэння іх адбылася напярэдадні Свята Адраджэння 21 ліпеня 1969 г. у памяшканні Агульнапольскага Камітэта Фронту адзінства народа ў Варшаве.

У ліку ўзнагароджаных знайшліся пятнаццаць вядомых дзеячаў БГКТ. Старшыня ГП БГКТ мгр Міхась Хмялеўскі ўзнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Галоўны рэдактар »Нівы« мгр Георгі Валкавыцкі і дзеяч праўлення аддзела БГКТ у Гарадку Ніна Мушынская атрымалі Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы. Залатыя Крыжы Заслугі прызнаны сакратару ГП БГКТ мгр Івану Зенюку, старшыні Гайнаўскага аддзела мгр Аляксандру Іванюку, сакратару Бельскага аддзела Уладзіміру Раеўскаму, актывісту Бельскага аддзела Васілю Антыпюку, актывісту Гарадоцкага аддзела Ніне Цыванюк, актывісту Гайнаўскага аддзела мгр Ніне Вішнеўскай, працаўніку ГП БГКТ Кастусю Хлябічу і старшыні Сямяціцкага аддзела Анатолю Мартыновічу.

Сярэбраныя Крыжы Заслугі ўручаны старшыні Варшаўскага аддзела мгр інж. Юрыю Бусловічу і члену ГП БГКТ з вёскі Рыбалы Сяргею Філіпюку. Бронзавы Крыж Заслугі атрымаў сакратар Міхалоўскага аддзела Аляксандр Хлябіч.



*Памятны здымак узнагароджаных дзеячаў БГКТ з нагоды 25-годдзя ПНР.*

*Фота — Р. Єянько*

Др АЛЬЖБЕТА СМУЛКОВА
Інстытут рускай, украінскай і беларускай філалогіі
Варшаўскага універсітэта

## НАВУКОВА-ДЫДАКТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Пры Варшаўскім універсітэце існуе і дзейнічае адзіная за межамі БССР Кафедра беларускай філалогіі. Была яна сарганізавана ў 1956 годзе Міністэрствам вышэйшай адукацыі і навукі ў выніку глыбокага навуковага зацікаўлення культурай і мовай беларускага народа, у рэзультаце зразумення патрэбы беларускай нацыянальнай меншасці мець магчымасць, сярод многіх іншых дысцыплін вышэйшай адукацыі, выбіраць і сваю родную філалогію.

Заснавальнікам Кафедры, яе кіраўнікам і душою па сённяшні дзень з'яўляецца вядомы славіст — праф. др Антаніна Абрэмбская-Яблонская. У сувязі з адсутнасцю ўласнай, дастаткова падрыхтаванай, славістычнай кадры ў галіне беларусазнаўства, у першыя гады Кафедра працавала з дапамогаю спецыялістаў з Беларусі. Першапачаткова лекцыі ў нас чыталі дац. М. В. Бірыла і А. І. Жураўскі з Беларускай Акадэміі навук і дац. В. Тарасаў і М. А. Лазарук з Педагагічнага інстытута ў Мінску. Практычныя заняткі па мове вяла мгр Л. Базылюк — выпускніца Педагагічнага інстытута ў Мінску. Пры іх дапамозераслі і папаўнялі свае веды сённяшнія выкладчыкі др А. Баршчэўскі, др А. Смулкова і тагачасныя студэнты мгр А. Багроўская і мгр М. Врублеўскі, якія цяпер складаюць сталы калектыў працаўнікоў Кафедры.

Кафедра беларускай філалогіі, як кожная універсітэцкая пляцоўка такога тыпу, працуе ў двух напрамках: 1) дыдактычным, які ахоплівае ўсе абавязкі, звязаныя з працэсам навучання і выхавання студэнтаў; 2) навуковым, да якога адносіцца рэалізацыя калектыўных і індывідуальных навуковых планаў. У далейшым пазнаёмім чытачоў Беларускага кален-



*Загадчык Кафедры беларускай філалогіі — праф. др А. Абрэмбская-Яблонская.*

*Фота — А. Смулкова*



*Будынак Інстытута рускай, беларускай і украінскай філалогіі пры Смычковай вуліцы ў Варшаве.*

*Фота — А. Смулкова*



дара з абодвума кірункамі дзейнасці, падкрэсліваючы, што яны цесна звязаны з сабою, і што цяжка быць добрым педагогам без навуковых дасягненняў, і з другога боку, часта ў сувязі з працэсам навучання ўзнікаюць новыя канцэпцыі, новыя тэмы, якія патрабуюць навуковай апрацоўкі.

## НАВУКОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ КАФЕДРЫ

За звыш дзесяцігадовую дзейнасць, не лічачы першых арганізацыйных гадоў, і пры малым калектыве Кафедра мае ўжо свае бясспрэчныя навуковыя дасягненні. Працуем у дзвюх спецыялізацыях: у галіне беларускага і славянскага мовазнаўства і ў галіне гісторыі беларускай літаратуры. Так склалася, што жаночы калектыў займаецца ў нас моваю, а мужчыны яе мастацкім выразам — літаратурай. Пачнем ад характарыстыкі калектыўных прац, пераходзячы потым да агульных аглядаў індывідуальных даследванняў.

1. У 1962 годзе выйшаў з друку »Падручны польска-беларускі слоўнік« пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы, які ахоплівае каля 40 тысяч перакладных слоў.



*Навуковы калектыў кафедры: А. Баршчэўскі, З. Скібінская, А. Яблонская, М. Врублеўскі, А. Багроўская. Не хапае А. Смулковай, якая выконвае фота.*

*Фота — А. Смулкова*

Цяпер апрацоўваецца А. Багроўскай і А. Смулковай пад рэдакцыяй праф. А. Яблонскай большы па аб'ёму »Беларуска-польскі слоўнік«, які з'явіцца вельмі патрэбным дапаможнікам не толькі для студэнтаў і спецыялістаў філолагаў, але і для ўсіх тых хто цікавіцца беларускай і польскай мовамі ў Польшчы і па-за яе межамі.

2. Другой калектыўнай працай з'яўляецца збор і апрацоўка анамастычнага матэрыялу (назвы мясцовасцей, урочышчаў, угоддзяў і г. д.) з Беластоцкага ваяводства. У гэтай працы прымаюць удзел і нячлены Кафедры, напрыклад, др Т. Здансэвіч з Познані і мгр М. Кандрацюк з Працоўні беларускай філалогіі ПАН, які працуе над доктарскай дысертацыяй па мяс-



*I дыялекталагічная экспедыцыя студэнтаў і працаўнікоў у ліпені 1957 г. у вёсцы Старое Ляўкова. Сядзяць: А. Смулкова, Л. Базылюк, М. Бірыла, А. Яблонская, супругі Галубоўскія.*

*Фота — Архіў*

цовых назвах Бельскага і Гайнаўскага паветаў і надрукаваў ужо па гэтай тэме некалькі артыкулаў. Ад імя Кафедры зборам матэрыялу займаецца мгр М. Врублеўскі, які спісаў патрэбныя назвы з паветаў Гайнаўскага, Беластоцкага, Сакольскага і Высокамазавецкага. Складзена ўжо абшырная картатэка. У далейшым плануецца яе навуковае апрацаванне.

3. Калегі-літаратары намераны падрыхтаваць да друку анталогію беларускай літаратуры, што будзе мела вялікае



значэнне для папулярызацыі беларускай літаратуры ў польскім асяроддзі.

Індывідуальныя навуковыя працы ў галіне мовазнаўства групуюцца вакол наступных праблем:

а) дыялекталогіі, б) іншамоўнага субстрата ў беларускай



*Праф. А. Яблонская з III курсам на лекцыі па гістарычнай граматыцы беларускай мовы.*

*Фота — А. Смулкова*

мове, в) словаўтварэння і нарматыўнасці, г) анамастыкі і д) сінтаксіса.

На першы план нашых мовазнаўчых зацікаўленняў высоўваецца праца над вывучэннем беларускіх гаворак на тэрыторыі Польшчы, а перад усім усходняй часткі Беластоцкага ваяводства, заселенай, як вядома, у пераважнасці беларускім насельніцтвам. У гэтай галіне назіраецца цеснае супрацоўніцтва з Працоўняй беларускай філалогіі Польскай Акадэміі навук. Асноўнай тэмай працоўні з'яўляецца апрацоўка атласа беларускай народнай мовы. Працай гэтай кіруе праф. А. Яблонская і ад самага пачатку з ёй цесна звязана др А. Смулкова; супрацоўнічае тут таксама мгр А. Багроўская. Гэтая праца мае значэнне не толькі для беларусазнаўства. Усходняя Беласточчына прадстаўляе вялікую навуковую цікавасць для

славістаў наогул. Тут, на невялікім абшары, сутыкаюцца ўплывы трох розных дыялектных сістэм: мазавецкай, беларускай і ўкраінскай, не лічачы нівеліруючага гаворкі ўплыву літаратурнай мовы, якая ў сувязі з развіццём розных сродкаў масавага пераказу (радыё, тэлебачанне, клубы з рознага тыпу дакладамі і дыскусіямі), аказвае ўсё большы ўплыў на мясцовыя народныя гаворкі. Не без значэння з'яўляецца і ўплыў беларускай літаратурнай мовы, у пераважнасці там, дзе лепш развіта беларускае школьніцтва, дзе рэгулярна чытаюць беларускі друк і мастацкую літаратуру. Усе гэтыя фактары ўплываюць на тое, што ўсходняя Беласточчына прадстаўляе сабою вялікую разнастайнасць дыялектных сістэм, што большасць яго насельніцтва з'яўляецца білінгвістычнай, гэта значыць валодае і карыстаецца ў штодзённым жыцці дзвюма мовамі, выкарыстоўваючы адны з іх у залежнасці ад знешняй сітуацыі. Усё гэта вымагае праніклівых доследаў і вялікай навуковай сумленнасці ў інтэрпрэтацыі фактаў. Цікавую моўную сітуацыю на ўсходняй Беласточчыне схарактарызавала А. Яблонская ў артыкуле »Problematyka badań slawistycznych na Białostocczyźnie« (»Acta Baltico-Slavica«, I). Дакладней аб працы над вывучэннем беларускіх народных гаворак глядзі артыкул А. Смулковай у »Беларускім навуковым



*Студэнты першага курса ў час сяброўскай размовы ў інтэрнаце Інстытута.*

*Фота — А. Смулкова*



зборніку« (у друку). З іншых апублікаваных прац па дыялекталогіі адзначым выдадзеную ў 1968 годзе манаграфію па сельскагаспадарчай лексіцы др А. Смулковай, у якой апрацавана земляробчая лексіка ўсходняй Беласточчыны на шырокім параўнаўчым матэрыяле польскім, беларускім, рускім і украінскім і зроблены цікавыя вывады, між іншым на тэму лексічнага і словаўтваральнага родства і дыферэнцыяцыі ўсходнеславянскіх моў (рускай, беларускай і украінскай) і моўнага падзелу ўсходняй Беласточчыны. Разглядаюцца адносіны лексічнай дыферэнцыяцыі да гісторыі засялення гэтых зямель. Беларуская лексіка апрацавана аўтарам яшчэ ў некалькіх іншых артыкулах, змешчаных у такіх перыядычных выданнях, як »Studia z filologii polskiej i słowiańskiej«, »Slavia Orientalis«, »Z polskich studiów slawistycznych«. Лексікай займаецца таксама мгр А. Багроўская ў артыкуле »Параўнальны слоўнік дзвюх гаворак з Гайнаўшчыны« (»Беларускі навуковы зборнік«). Аднак дыялекталагічныя доследы не датычаць толькі лексікі. Адначасова збіраўся і апрацоўваўся граматычны матэрыял, напр., др А. Смулковай »Szkic systemów fonologicznych gwar Białostocczyzny Wschodniej« (»Slavia Orientalis«, 3/68) і »Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar Białostocczyzny Wschodniej« (»Sprawozdania z prac Wydziału I PAN«, 5/1960) мгр А. Багроўскай »O zwrotach typu пайсці ў грыбы«, дзе апрача прыкладаў з літаратурнай мовы багата выкарыстоўваецца дыялектны матэрыял.

Даследваючы гаворкі ўсходняй Беласточчыны, сустракаемся з праблемай балтыйскага ўплыву на іх сувязі з тэрытарыяльнай і гістарычна абумоўленай блізкасцю беларусаў і літоўцаў, а ў даўнейшым мінулым з засяленнем сучасных беларускіх зямель, вымершымі і засіміляванымі ў славянскім асяроддзі, балтыйскімі плямёнамі. Гэтай праблеме прысвечаны працы: праф. А. Яблонскай »Elementy litewskie w mikrotoponimii Wschodniej Białostocczyzny« (»Studia z filologii polskiej i słowiańskiej«, t. VIII) і др А. Смулковай »O białoruskim g'ega krzemień« (»Z polskich studiów slawistycznych«, PWN, 1963), »Lituanizmy w białoruskim słownictwie rolniczym« Linqua Posnaniensis«, XIV). Адказ на анкету Інстытута мовазнаўства АН БССР »Лексические балтизмы в белорусском языке«.

У галіне анамастыкі, апрача адзначанага ўжо калектыўнага збірання рэгіянальных назваў з Беластоцкага ваяводства можна назваць працу мгр А. Багроўскай над апісаннем імён і прозвішчаў адной вёскі Гайнаўскага павета.

Праблемамі нарматыўнасці і словаўтварэння займаецца галоўным чынам праф. А. Яблонская, напрыклад, у артыкуле ў зборніку гонар беларускага пісьменніка, драматурга і сaты-

рыка К. К. Крапівы »Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы«.

Праф. А. Яблонская выдзе яшчэ адну калектыўную працу, якая ўжо нядоўга завершыцца. Гэта выданне і навуковае шматбаковае апрацаванне рукапісных матэрыялаў па беларускаму фальклору і этнаграфіі М. Федароўскага, вядомага збіральніка пераломy XIX і XX стагоддзяў. З друку ўжо вышлі »Pieśni« V і VI тамы »Ludu Białoruskiego«. Выйдзе нядоўга том VII, у якім змешчаны артыкулы: мовазнаўчы, фальклорны, музыкалагічны, слоўнічак малавядомых слоў і карта мясцовасцей, у якіх М. Федароўскі збіраў матэрыял.

У галіне беларускага літаратуразнаўства працуюць др А. Баршчэўскі, мгр М. Врублеўскі і дактарантка Кафедры мгр З. Скібінская-Харыла. Навуковая праца ў галіне беларускай літаратуры канцэнтруецца галоўным чынам на даследванні літаратуры XIX і XX стагоддзяў. Спецыяльная ўвага прысвечана тэме »Вытокі новай беларускай літаратуры« (I палова XIX ст.), над якой актуальна працуе мгр М. Врублеўскі. На фоне літаратурных плыняў другіх славянскіх народаў, а ў прыватнасці польскага, разглядаецца тут творчасць такіх пісьменнікаў, як: А. Рыпінскі, Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч.

Літаратурай XX стагоддзя галоўным чынам займаецца др А. Баршчэўскі, які апублікаваў шэраг артыкулаў у »Ніве«, »Літаратурна-навуковым зборніку«, »Беларускім навуковым зборніку«, »Roczniku Białostockim« і іншых. Кругагляд навуковых зацікаўленняў дра А. Баршчэўскага шырокі. Ён не абмяжоўваецца да аналізу творчасці аднаго пісьменніка ці аднoй літаратурнай плыні. Трэба аднак звярнуць спецыяльную ўвагу на яго доктарскую дысертацыю пра творчасць Я. Коласа. З яе апублікован артыкул »Камізм у творчасці Я. Коласа« (»Літаратурна-навуковы зборнік«, 1961 г.) і здадзен у друк у новы навуковы зборнік артыкул »Рамантычны напрамак у творчасці Я. Коласа«. Др А. Баршчэўскі з'яўляецца сааўтарам хрэстаматыі для VIII класа пачатковых школ з беларускай мовай навучання. З'яўляецца ён таксама намеснікам старшыні міністэрыяльнай камісіі па справах падручнікаў для беларускіх школ у Польшчы.

З. Скібінская-Харыла працуе над доктарскай тэмай »Міхась Зарэцкі на фоне беларускай крытыкі 20—30 гадоў XX стагоддзя«. У друку ў беларускім зборніку знаходзяцца яе артыкулы: »Праблема грамадскай пасіўнасці, духовай дэпрэсіі і маральнага ўпадку чалавека ў творчасці М. Зарэцкага« і »Аб перакладах »Пана Тадэуша« А. Міцкевіча на беларускую мову«.



На ўвагу заслугоўвае факт, што др А. Баршчэўскі і мгр М. Врублеўскі апрацавалі шэраг артыкулаў па беларускай літаратуры для »Wielkiej Encyklopedii Powszechnej« і »Małego słownika pisarzy narodów europejskich ZSRR«і наогул з'яўляюцца папулярызатарамі беларускай літаратуры ў Польшчы.

Канчаючы агульны агляд навуковай дзейнасці Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, хочам адзначыць, што тут не названы ўсе навуковыя публікацыі працаўнікоў Кафедры, што зусім не ўспамінаюцца працы, якія датычаць іншых, чым беларуская, моў і літаратур. Гэта адносіцца перад усім да многіх прац праф. А. Яблонскай і ў некаторай ступені др-аў А. Баршчэўскага і А. Смулковай. Наогул публікацыі працаўнікоў Кафедры лічаць каля 80 пазіцый.

### II. Дыдактычная дзейнасць Кафедры.

Уся дыдактычная дзейнасць Кафедры накіравана на абучэнне спецыялістаў у галіне беларускай мовы і літаратуры з рускай або польскай мовамі, як прадметамі пабочнымі.

Агульная адукацыя студэнтаў пашыраецца спецыяльнымі курсамі па філасофіі і сацыялогіі, агульнаславістычнымі і педагагічнымі ведамі. У працэсе 5-гадовай вучобы студэнты сустракаюцца з рознымі формамі дыдактычнай працы Кафедры: слухаюць курсавыя і манаграфічныя лекцыі, прымаюць удзел у практычных занятках і семінарах, атрымоўваюць індывідуальныя і калектыўныя кансультацыі на выбраныя тэмы, пішуць курсавыя і дыпломныя працы пад кіраўніцтвам навуковых працаўнікоў Кафедры. Апрача гэтых агульнапрынятых універсітэцкіх форм дыдактычнай дзейнасці практыкуюцца ў нас і іншыя. Да іх ліку можна аднесці дыялекталагічную практыку студэнтаў III курса, якая праводзіцца на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны. На III курсе знаёмім студэнтаў з гістарычнай граматыкай беларускай мовы і сучаснымі беларускімі дыялектамі. Спецыяльную ўвагу ў праграме дыялекталогіі прысвячаецца беларускім гаворкам Беласточчыны, а ў маі на 5—6 дзён выязджаем у вёскі, дзе студэнты непасрэдна знаёмяцца з жывой народнай гутаркай, вучацца яе правідлова слухаць і запісваць. Пры гэтым наглядна знаёмяцца з духовай і матэрыяльнай культурай беларускай вёскі, з беларускім народным фальклорам. Для многіх з іх гэта першая і незабыўная сустрэча з беларускімі народнымі гаворкамі. У мінулым годзе мы правялі практыку вельмі ўдала ў вёсках Кнышэвічы Сакольскага і Рыбалы Бельскага паве-

таў, пры вялікім зацікаўленні нашай працай з боку мясцовага насельніцтва.

Як можна заўважыць з вышэй сказанага, у працэсе навучання звяртаецца вялікую ўвагу, каб тэарэтычныя веды студэнтаў спалучаць з практыкай. Таму, незалежна ад практычных заняткаў па розных прадметах, адбываюцца яшчэ тры спецыялістычныя практыкі: 1) педагагічная, якую студэнты праходзяць у беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы пад кіраўніцтвам настаўнікаў гэтых школ, 2) агульнаадукацыйная, загранічная ў БССР і 3) агульнапольскі ун'версітэцкі курс рускай мовы летам, на якім на працягу трох тыдняў студэнты абавязаны гаварыць выключна на рускай мове, тут яны прымаюць удзел у лекцыях і практычных занятках, кантактуюцца штодзённа з калегамі і выкладчыкамі з Савецкага Саюза.

У гэтым артыкуле хачу даўжэй затрымацца на характарыстыцы загранічнай 4-тыднёвай практыкі нашых студэнтаў. Яна мае абменны характар. Студэнцкая група, пераважна пасля IV курса, выязджае пад кіраўніцтвам аднаго з членаў Кафедры. Асноўным месцам прабывання з'яўляецца сталіца беларусі — Мінск. Адтуль студэнты выязджаюць у Маскву і Ленінград, знаёмячыся з важнейшымі помнікамі ўсходнеславянскай і еўрапейскай культуры, з сучасным жыццём СССР. У час прабывання ў Мінску яны прымаюць удзел у спецыяльна для іх падрыхтаваных беларускімі спецыялістамі занятках па мове, літаратуры і іншых галінах беларускай гісторыі і культуры, наведваюць музеі, кінатэатры і месцы, заслужаныя для культуры і гісторыі БССР. Важным элементам з'яўляецца зазнаямленне з беларускімі навуковымі ўстановамі гуманітарнага тыпу і з жыццём і працай беларускіх студэнтаў. Вялікае значэнне мае таксама магчымасць, якая даецца студэнтам старшых курсаў папоўніць матэрыялы для магістэрскіх работ з фондаў БССР.

Па падобнаму плану праводзяць практыку студэнты- філолагі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў нас у Польшчы.

На IV курсе, з пэўным багажом здабытых ведаў, студэнты прыступаюць да падрыхтоўкі дыпломных (магістэрскіх) работ. Самі выбіраюць сабе напрамак: мовазнаўства або літаратуру. Тэмы работ вельмі розныя. На мовазнаўчым семінары могуць яны абапірацца на матэрыяле помнікаў беларускай старажытнай пісьменнасці, датычыць праблем дыялекталогіі і сучаснай беларускай літаратурнай мовы. На літаратуразнаўстве пераважна тэмы работ датычаць творчасці пісьменнікаў канца XIX і XX стагоддзяў, а ў прыватнасці беларуска-польскіх літаратурных сувязей. Агулам пры наборы студэнтаў не



штогодна, а праз год, да 1967 года Кафедра выпусціла 40 магістраў, з гэтага ліку 10 па мовазнаўству.

У навучальным годзе 1968/69 прадугледжвалася далейшых 10 выпускнікоў-магістраў беларускай філалогіі.

Справай аграмаднай вагі, не заўсёды залежнай ад працы Кафедры, з'яўляецца грамадская прыгоднасць абсальвентаў. Таму наш калектыў шчыра цікавіцца далейшымі жыццёвымі лёсамі выпускнікоў і з некаторымі з іх утрымоўвае непарыўныя сувязі. Практыка паказвае, што не ўлічваючы іншых індывідуальных месц працы, нашыя абсальвенты гэта пераважна настаўнікі сярэдніх і радзей пачатковых школ, культурна-асветныя работнікі, супрацоўнікі выдавецтваў і, урэшце, навуковыя працаўнікі нашай Кафедры і Працоўні беларускай філалогіі Польскай Акадэміі навук у Варшаве. Няма тут месца шырэй займацца лёсамі выпускнікоў, хаця трэба было б прысвяціць гэтай справе спецыяльны артыкул і зрабіць з яго адпаведныя вывады. Прыгадаю толькі такія прозвішчы, як мгр З. Красоўская — настаўніца беларускай мовы і мгр П. Ананюк — бібліятэкар абое працуюць у Бельскім беларускім ліцэі; мгр А. Іванюк — дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя і мгр В. Сакоўскі — настаўнік беларускай мовы ў тым жа ліцэі, мгр А. Карпюк — кіраўнік пачатковай школы ў Орлі; Н. Васілюк і М. Кіндзюк — высокацэненыя настаўнікі рускай мовы ў Варшаве. У Варшаве вучаць таксама: Л. Пташынская, М. Харкевіч, В. Карач, З. Хаманская і В. Ляшкевіч. У Беластоку — А. Чыквін і А. Рушук. У Працоўні беларускай філалогіі ПАН старэйшым асістэнтам з'яўляецца М. Чурак, З. Скібінская-Харыла — дактаранткай Кафедры, І. Павельская — рэдактарам выдавецтва «Чытэльнік» і г. д. Дарэчы будзе заўважыць, што многія з выпускнікоў — гэта адказныя грамадскія дзеячы ў сваіх асяроддзях.

Вяртаючыся непасрэдна да дыдактычнай працы Кафедры і характарыстыкі штодзённага жыцця студэнтаў, хачу спыніцца на складаным працэсе універсітэцкага выхавання. Прыходзяць да нас людзі, якіх дарослаць удакументавана атэстатам сталасці, часта не з апошняга года. Здавалася б, што выхаваўчыя праблемы маглі б знікнуць на далейшы план. Тымчасам як вядома, працэс самавыхавання чалавека праводзіцца амаль праз цэлае яго жыццё, а моладзі, якая ў некаторых выпадках першы раз выйшла з-пад бацькоўскай апекі, трэба ў гэтым выдатна дапамагчы. А робіцца гэта не выхаваўчымі ўрокамі, а штодзённай настойлівай працай, асабістым прыкладам. На маю думку, на выхаванне студэнта ўплывае цэлая сукупнасць умоў, у якіх ён знаходзіцца. Затым і змест слуханых лекцый і гарачыя дыскусіі, якія не раз выбягаюць па-за

рамкі праграмы, і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці універсітэта і краіны, у працы маладзёжных арганізацый. Вялікае значэнне маюць сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і журналістамі, з палітычнымі і грамадскімі дзеячамі краіны. Гэта стварае магчымасць канфрантацыі, угрунтавання ці карэктуры поглядаў; пашырае кругагляд студэнтаў. Гады, праведзеныя ва універсітэце — гэта найлепшая школа самастойнасці, пачуцця абавязку і адказнасці, жыцця ў калектыве, з усімі яго цёплымі праменнямі сяброўства і цяжкасцямі непазбежных канфліктаў. Вялікая роля ў гэтым працэсе вызначана апекунам курсаў. Важна, каб гэтай функцыі не абмежаваць да спраў адміністрацыйнага характару. Але і найлепшы, найбольш актыўны апякун мала зробіць, калі не будзе калектыўнай адказнасці, сур'ёзнага і адначасова сяброўскага падыходу ўсёй навучаючай кадры. У нашым выпадку, пры параўнальна невялікім наборы студэнтаў, сітуацыя складваецца для гэтых спраў прыхільна. Мы добра ведаем сваіх студэнтаў, і падае на нас большая адказнасць за іх выхаванне.

### III. Супрацоўніцтва Кафедры з Польскай Акадэміяй навук і навуковымі ўстановамі Савецкай Беларусі.

Уведзеная ад 1968/69 навучальнага года новая арганізацыйная структура Кафедры стварыла новыя ўмовы яе працы. Кафедра ў цэлым увайшла ў склад Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі, якога дырэктарам з'яўляецца праф. др Пшэмыслаў Звалінскі. Інстытут атрымаў новае памяшканне і знаходзіцца ў стадыі арганізацыі. Адкрываюцца новыя шырокія магчымасці навуковага і дыдактычнага супрацоўніцтва калектываў трох вышэй названых кірункаў.

Выдатнае супрацоўніцтва з ПАН выражаецца ў супольным апрацоўванні навуковых праблем (Атлас гаворак усходняй Беласточчыны, тапанамастыка Беластоцкага ваяводства і г. д.). Гэтаму спрыяе факт, што праф. А. Яблонская з'яўляецца кіраўніком абодвух беларусазнаўчых цэнтраў у Польшчы.

Супрацоўніцтва Кафедры з навуковымі ўстановамі Беларусі датычыць перад усім Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, Філалагічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага універсітэта і Мінскага Педагагічнага інстытута. Формы гэтага супрацоўніцтва разнастайныя. Можна іх акрэсліць у некалькіх пунктах:

1. Навуковыя паездкі прафесараў;
2. Доўгатэрміновыя абменныя стажыроўкі іншых навуковых працаўнікоў;
3. Абменныя экскурсіі-практыкі студэнтаў;
4. Выдавецтва супольных навуковых прац у Беларусі і Польшчы;
5. Абмен навуковымі выданнямі-кнігамі і часопісамі;
6. Шматлікія індывідуальныя кантакты, якія спрыяюць высвятленню актуальна апрацоўваемых тэмаў.

Ад. 1. Як ужо было сказана на пачатку артыкула, на працягу першых чатырох год Беларусь абяспечвала Кафедру выкладчыкамі. Апрача гэтага гасцявалі ў нас з лекцыямі: дырэктар Інстытута Мовазнаўства АН БССР праф. М. Р. Суднік, загадчык сектара дыялекталогіі Інстытута Мовазнаўства АН БССР др Ю. Ф. Мацкевіч, прафесары М. Р. Ларчанка, Л. С. Абэцадарскі і А. А. Лойка. З польскага боку на Беларусі гасцявала 8-асабовая група прафесараў моваведаў, у склад якой уваходзілі прафесары: П. Звалінскі, В. Курашкевіч, А. Міровіч, Л. Асоўскі, К. Дэйна, А. Яблонская і іншыя.

Ад 2. Навуковую стажыроўку ў СССР, галоўным чынам у БССР, правялі ўсе працаўнікі Кафедры, удасканальваючы там сваю мову, збіраючы недаступны ў Польшчы матэрыял да сваіх навуковых доследаў, знаёмячыся з методыкай працы беларускіх педагогаў, устанаўляючы прыязныя асабістыя кантакты з людзьмі, якія працуюць над блізкімі праблемамі. Падобную стажыроўку ў нас адбылі працаўнікі Беларускага Дзяржаўнага універсітэта — фалькларыст І. У. Саламевіч, які працаваў, між іншым, над матэрыяламі М. Федароўскага, і мовавед Г. В. Пальцаў, які даследваў лексічныя паланізмы ў беларускай мове.

Ад 4. Тут трэба адзначыць артыкул Ю. Мацкевіч, А. Арашонкавай, А. Мурскай і А. Яблонскай у часопісе »Slavia Orientalis« і А. Жураўскага і А. Смулковай у часопісе» Język polski«. Абшырны артыкул пра сённяшні дзень польскай літаратуры ў Польшчы рыхтуе для »Полымя« др А. Баршчэўскі. Тут таксама ўспомніць трэба планаваную кансультацыю з беларускімі лексіколагамі перакладных слоў беларуска-польскага слоўніка, які апрацоўваецца на Кафедры.

У заключэнні можна смела сказаць, што нягледзячы на пэўныя недахопы, Кафедра беларускай філалогіі Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта мае свае аб'ектыўныя дасягненні і бясспрэчна з'яўляецца важным навуковым цэнтрам беларусазнаўства ў Польшчы.

Мгр УЛАДЗІМІР ГАЦУТА
загадчык
Беларускага грамадскага этнаграфічнага музея
ў Белавежы

## ПРЫЛАДЫ ДА ЗЕМЛЯРОБСТВА Ў БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДСКІМ ЭТНАГРАФІЧНЫМ МУЗЕІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Большая частка сярод звым 850-ці экспанатаў Беларускага грамадскага этнаграфічнага музея ў Белавежы (стан з красавіка месяца 1969 года) — гэта цікавыя, а часам унікальныя прадметы матэрыяльнай культуры. Земляробства з'яўляецца адной з важнейшых галін гэтай культуры. Дзякуючы ахвярнай працы грамадскіх дзеячоў з Беларускага грамадска-культурнага таварыства і прыхільнасці вясковага насельніцтва, якое аддае музею бясплатна экспанаты, удалося нам сабраць даволі вялікую колькасць прадметаў, пры дапамозе якіх нашыя продкі апрацоўвалі зямлю.

Пераходзячы да агляду экспанатаў, хочам заўважыць, што артыкул будзе абмяжоўвацца толькі да прадметаў з Беларускага грамадскага этнаграфічнага музея і да галіны ўласцівага земляробства з выключэннем збору пладоў і г. д.

Агляд наш пачнем ад драўляных сахароў да раскідвання гною. Прыклады гэтых прадметаў у музеі датуюцца паловай і канцом XIX стагоддзя. Сахары маюць даволі доўгія і плоска апрацаваныя зубы, а цэлы прадмет лёгка выгнуты. На канцах зубоў знаходзяцца часам жалезныя вострыя нарогі. Насада зубоў даволі масіўная. Падобныя сахары выступалі калісьці амаль па ўсёй Беларусі, за выключэннем Палесся, у паўночнай Вялікарусі, Прыбалтыцы, Фінляндыі сярэдня-паўднёвай і сярэдня-заходняй частках Польшчы, на Венгрыі і ў паўночна-заходняй Украіне. У іншых краінах Еўропы былі сахары іншага тыпу.

Найбольш прымітыўнымі прыладамі да ўзрушвання зямлі з'яўляюцца ў музеі матыкі і лапаты. Ва ўсходняй



*Сахары да гною з вёсак Лявоневічы і Круглы Лясок Беластоцкага павета.*

*Фота — С. Бушко*

Беласточчыне матыкі ўжываліся і ўжываюцца яшчэ да капання і матыкавання бульбы. Даўней на Беларусі матыкамі ўзрушвалі зямлю на навінах і месцах, зарослых кустамі (супольна з сякерай, якой прарубвалі карэнні). Даўнейшыя, адназубыя матыкі маюць трохвугольны выгляд, а пазнейшыя маюць два або найчасцей — тры зубы.

Часта ў агародах людзі апрацоўвалі зямлю драўлянымі, акаванымі жалезам, лапатамі. Напамінаюць яны сучасныя лапаты фабрычнага вырабу.

Цяжка сказаць, калі ва ўсходняй Беласточчыне паявілася саха. Паводле Казіміра Машыньскага [1]) заступіла яна ў нас месца рала тыпу ўнутрырыльцовага. Гавораць пра гэта між іншым лінгвістычныя дадзеныя, а менавіта— у ваколіцах Белавежскай пушчы ўжывалася калісьці слова раліті або ралíты ў значэнні »аранне сахой упоперак поля«. Як магло выглядаць рала, якое потым мела замяніць саха, можна сарыентавацца больш-менш на падставе выгляду сошкі да асыпання бульбы. Калі адкінуць ад яе пазнейшыя дадаткі, г. зн. лапаткі да адсоўвання зямлі на бакі і кола спераду,

[1]) K. Moszyński, „Kultura ludowa Słowian", т. I, Варшава, 1967, стар. 180.

тады атрымаем рала ўнутрырыльцовага тыпу, якое выступала ў Польшчы і на Украіне.

Саха, якая знаходзіцца ў музеі, з'яўляецца класічным прыкладам дзвюхпаліцовай сахі. Яе раздвоеная плаха (рылец) мае



*Саха. Вык. Лявон Андросюк, 1922 г. Чэхі Арлянскія Гайнаўскі павет.*
*Фота — С. Бушко*

на канцы два жалезныя сашнікі, а таксама дзве дошкі (паліцы), якія адсоўвалі зямлю ўбок. Тып гэты выступаў на ўсёй Беларусі разам з Палессем, апрача паўночна-ўсходняй яе часткі, і таксама ў паўднёвай Літве, былой усходняй Прусіі і ў Польшчы больш-менш да лініі ракі Віслы. Ва ўсходняй Беласточчыне сяляне аралі дзвюхпаліцовую сахою да канца XIX стагоддзя, а ў некаторых выпадках — нават пасля I сусветнай вайны. Валоў у саху запрагалі пры дапамозе кулёвых ярмаў. Ярмо мела дручок, дзве кулі з унутранага боку і два заночы — са знешняга.

У канцы XIX стагоддзя і на пачатку XX стагоддзя ва ўсходняй Беласточчыне месца сахі займае драўляны плуг. У му-





*Кулёвыя ярма з вёскі Чэхі Арлянскія Гайнаўскага павета.*
*Фота — С. Бушко*



*Драўляны плуг з жалезнай адкладнёй. Карыціска Гайнаўскі павет. (1910 г.).*
*Фота — С. Бушко*



*Драўляны плуг з жалезнай адкладнёй. Крушыняны Сакольскага павета. (1921 г.).*

*Фота — С. Бушко*

зеі знаходзяцца плугі з драўлянымі і жалезнымі адкладнямі. Плугі зусім драўляныя маюць рала і дзве адкладні па абодвух баках. Адкладні часам можна было звужваць або расстаўляць шырэй. Плугі з жалезнымі адкладнямі напамінаюць найчасцей сучасныя, фабрычнага вырабу. У музеі экспануецца таксама адзін плуг на калёсах з вёскі Крушыняны.

З іншых прыладаў земляробства можна ўбачыць у музеі вязаную б а р а н у. Пруткі ляшчыны і драўляныя з у б ы павязаны ў ёй вузламі (»гонзэвкі«) з сасновага або ялаўцовага карэння, а часам дротам ці лыкам. Спераду бараны ёсць часта выгнуты ў каблук п р у т о к, за які зачаплялі каня. Бараны такога выгляду сустракаліся ва ўсходняй Беласточчыне часта яшчэ ў міжваенны перыяд, а нават пасля II сусветнай вайны. Былі яны распаўсюджаны на Беларусі, у Вялікарусі, у паўночных лясных раёнах Украіны, на Мазоўшы і ў Познанскім.

У музеі экспануюцца таксама г. зв. »д р а п а ч ы«. Належаць яны да тыпу »бэлячковай бараны«. Зубы іх жалезныя, загнутыя на канцы прымацаваныя шворнямі да бэлечкаў, з якіх складаецца шкілет бараны. З двух »драпачоў« у музеі адзін мае пабудову трохвугольную, а другі — прамавугольную. »Драпачы« заступалі ва ўсходняй Беласточчыне сучасныя культыватары. Часам пры іх дапамозе баранаваліся цяжкія глебы. Падобныя бораны выступаюць у многіх краінах Еўропы і Азіі.





*Вязаная барана з Чэхаў Арлянскіх Гайнаўскага павета.*

*Фота — С. Бушко*

На заканчэнне агляду ўспомнім яшчэ аб к л ю ч к а х садзіць бульбу. Выраблялі іх з натуральна загнутых галін дрэва і часта акоўвалі жалезам. Ключкамі садзілі бульбу »ў загоны«.

На гэтым канчаем агляд прыладаў да земляробства, якія знаходзяцца ў Беларускім грамадскім этнаграфічным музеі ў Белавежы. Агульна можна сказаць, што найважнейшай сыравінай, з якой выраблялiся ўсе гэтыя прылады, з'яўляец-

ца дрэва. Жалеза і іншая сыравіна ўжываліся толькі тады, калі было гэта неабходным. Характэрнай прыкметай тэхнікі выканання з'яўляецца тое, што часта выкарыстоўваліся самародныя формы матэрыялу, як гэта відаць у сахарах, сохах, ралах, боранах, ключках садзіць бульбу і г. д. Сведчыць гэта аб вялікай вынаходлівасці нашых продкаў.

## ПРЫЛАДЫ ДА НАРЫХТОЎКІ ЕЖЫ І ПЕРАХОЎВАННЯ СПАЖЫВЕЦКІХ ПРАДУКТАЎ З БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА ЭТНАГРАФІЧНАГА МУЗЕЯ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Беларускі грамадскі этнаграфічны музей мае ў параўнанні да свайго стану даволі багаты лік розных прадметаў і прылад да нарыхтоўкі ежы і перахоўвання прадуктаў.

У артыкуле будзе гаварыцца толькі аб тых прадметах, якія знаходзяцца ў музеі.

Можна іх падзяліць на тры групы: 1) прылады да апрацоўкі спажывецкіх прадуктаў, 2) прадметы, звязаныя з кухняй, 3) прадметы да перахоўвання ежы і спажывецкіх прадуктаў. Успомнім таксама аб экспанатах, якія звязаны не непасрэдна з гэтай галінай матэрыяльнай культуры, але цікавымі таму, што з'яўляюцца яны унікальнымі прадметамі.



*Свярдзёлак кажыстковы справа і жорны злева.*
*Фота — С. Бушко*



Пачынаючы характарыстыку прадметаў неабходна сказаць некалькі слоў аб даўнішніх прыладах да распальвання агню. У музеі маем, апрача крэсіва, так званы »кажыстковы свярдзёлак«. Праўда, гэты свярдзёлак, паводле слоў Язэпа Федарука з вёскі Свірыды Бельскага павета, які передаў яго ў музей, ужываўся да свідравання дзірак, аднак ён такі самы, як тыя, што ўжываліся ў Беларусі да распальвання агню. Калі б трэба было, можна пры яго дапамозе атрымаць агонь. У склад свярдзёлка ўваходзяць: рукаятка («кажыстка») з дзіркай на верацяно, два вузкія рамені, якія спалучаюць канцы рукаяткі з верхняй часткай верацяна, і кола для размаху пад рукаяткай. Ніжняе заканчэнне верацяна абапіралася на дрэва, якое хацелі запаліць. Кажыстковы свярдзёлак дзейнічаў наступным чынам: чалавек пакручваў верацяно і адначасова падымаў угору рукаятку, раменцы абкручваліся вакол верхняй часткі верацяна, потым чалавек хутка апускаў рукаятку ўніз і раменцы раптоўна раскручваліся. Дзякуючы гэтаму верацяно хутка круцілася раз у адзін, раз — у другі бок. На дрэве, у месцы, дзе круціўся канец верацяна, падкладалі так званы запал, г. зн. насмоляную латку, порах і г. д.

Беларусы таксама здабывалі агонь пры дапамозе крэсіва. У музеі ёсць адзін прыклад гэтага прадмета. Належыць яно да тыпу двухкаблучкова-сіметрычнага. У цэнтральнай Еўропе гэты тып паявіўся ў другой палове I тысячагоддзя нашай эры. Распаўсюдзілася яно сярод славян ужо пад канец язычаства [1]). На Беларусі крэсіва ўжывалася яшчэ ў пачатку XX стагоддзя.

Збожжа малолі беларусы ў жорнах. У музеі ёсць жорны ратацыйнага тыпу: вуллевыя і скрынкавыя. Жорны з вёскі Бандары Беластоцкага павета належаць да тыпу вуллевых, г. зн. у пустой унутры ліповай калодзе мясціліся два каменні, з якіх ніжні быў нерухомы, а верхні абарачаўся пры дапамозе млёна. У ніжнім камені ёсць дзірка на верацяно, на якім ляжыць драўляная папрыца. Папрыца пры дапамозе спецыяльнай прылады апускала або падымала верхні камень. Збожжа засыпалася ў дзірку ў верхнім, мука высыпалася з дзіркі ў кадлубе, якая знаходзіцца крыху ніжэй месца, дзе стыкаюцца абодва камені. Іншыя драўляныя жорны з музея маюць выгляд скрынкі або карыта на каменні, і стаяць яны на ножках. Папрыца ў гэтых жорнах — жалез-

1) Kazimierz Moszyński, „Kultura ludowa Słowian", т. I, Варшава, 1967, стар. 254.

ная. Зусім іншыя жорны знайшлі мы ў вёсцы Свірыды Бельскага павета. Датуюцца яны канцом XIX стагоддзя. Тут да ніжняй дошкі прымацаваны тоўсты драўляны валок, акаваны храпаватай жалезнай бляхай. Такая ж бляха, скручаная ў рулон, прымацавана да верхняй дошкі, на канцах якой знаходзяцца дзве ручкі. Верхнюю бляху насаджвалі на ніжні валок і абарочвалі вакол яго. Паміж верхнюю бляху і валок засыпалі збожжа, а мука высыпалася ўнізе на пасцілку, засцеленую пад жорнамі.

Крупы з грэчкі, ячменю ці пшаніцы таўклі ў ступах, якія мелі выгляд чаркі. Таўкачы былі аднаручныя, дву-



*На першым плане: чарпак, ступка, малаток да солі. На друзім плане: розныя сальніцы.*

Фота — С. Бушко

хручныя і так званыя »джоганы« (таўкачы з ручкаю). На жаль, музей не мае нажной ступы, таму што ва ўсходняй Беласточчыне яна не выступала. Існуе магчымасць знайсці такую ступу сярод беларускага насельніцтва над Бугам. Калі хто мае такі экспанат, просім паведаміць нас аб гэтым.



Соль, перац, гарчыцу і г. д. таўклі ў малых ступках, якія таксама маюць выгляд чаркі (сярэдняя спераду). У музеі ступкі прадстаўлены даволі багата. Успомнім тут і аб малатку таўчы соль.

Дошкі выціскаць сыры трэба памясціць сярод прыладаў, звязаных з апрацоўкай малочных прадуктаў. Некаторыя дошкі маюць уласны прас, а на іншыя трэба было класці камень. У музеі таксама экспануюцца розныя бойкі да масла. Некаторыя з іх зроблены з клёпак, сціснутых трымя жалезнымі абручамі. Маюць накрыўку з дзіркай, цераз якую праходзіць ручка біяка. Іншыя бойкі, падобныя ў выглядзе да папярэдняй, замест клёпак маюць кадлуб, выдзеўбаны ў дрэве. Зусім інакш выглядае бойка з вёскі Слоя Сакольскага павета. Яна зроблена ў 1960 годзе. Складаецца яна з выдзеўбанай драўлянай пасудзіны ў форме прамавугольнага карыта, закругленага знізу. У гэты »посуд« улівалі смятану.



*Стаяць на другім плане злева направа: ляшчоткі на сала, шуфля да бульбы, шуфлі да збожжа. Ляжаць злева направа: рог на перац, валак да маку і цеста, »прач« да ільну.*

Фота — С. Бушко

Таксама выглядае дапасаваная да яе накрыўка з маленькім шкляным акенцам угары. Смятану мяшалі прыладай, зробленай з чатырох лапатак. У вёсцы Лука Гайнаўскага павета і ў мястэчку Кляшчэлі Гайнаўскага павета выраблялiся бойкі на масла з гліны з драўлянымі біякамі і гліннянымі або драўлянымі накрыўкамі.



*Кухонныя прылады. Стаяць злева направа: лыжкі і апалонікі, нажы да вырабу лыжак, »рагаткі« таўчы бульбу, чапяла (»хвыт«) да скаварады, вілы да гаршчкоў, рагалі вэндзіць у коміне каўбасы. Вісіць: лапата да хлеба. Ляжыць наперадзе: капанька да цеста.*

*Фота — С. Бушко*



Мёд тапілі ў вялікай місе. Клалі ў яе соты і ставілі ў печ. Мёд выліваўся цераз дзіркі ў дне місы ў пасудзіну, якая ставілася пад місай. Трэба таксама ўспомніць аб ціск ах да воску, якія з'яўляюцца адным з унікальных экспанатаў нашага музея.

На выстаўцы ў музеі можна таксама ўбачыць верцiхі да маку і валок, якім расцiралі на дошцы мак і цеста.

У музей трапіла некалькі штук жалезных »секачоў« з драўлянымі ручкамі. Цяжка іх, аднак, залічыць да прыладаў, звязаных з апрацоўкай спажывецкіх прадуктаў, таму што ва ўсходняй Беласточчыне пераважна секлі імі зелле свінням і жывёле.

Трэба ўспомніць яшчэ і аб ляшчотках да сала, якія таксама трапілі ў наш музей.

Сярод прадметаў і прыладаў, звязаных з кухняй, на выстаўцы ў музеі знаходзяцца драўляныя лыжкі і апа-



*Гліняны посуд з Лукі і Кляшчэляў.*

*Фота — С. Бушко*

лонікі, нажы да вырабу лыжак, рагачы і таўкачы да бульбы, чапяла да скаварады, вілы да гаршчкоў, рагалі да каўбас, драўляныя лапаткі да хлеба, капанькі мясіць цеста і г. д. Цікавым прадметам з'яўляецца плеценая шуфля ўсыпаць бульбу ў печ. Ваду ў кухні трымалі ў драўляных кадушках з дзіркай збоку.

Вельмі багата прадстаўлен у музеі гліняны посуд. Ёсць тут гаршчкі варыць ежу (старыя, аплеценыя драцяной сеткай), глыбокія і плыткія міскі, дваяны і траяны насіць у поле ежу, слоі, збанкі, »бунькі« да вады, гладышкі на малако, гугельніцы і г. д. Маем таксама драўляныя дайніцы, чыгунныя гаршчкі і іншы посуд.

Соль у кухні трымалі ў драўляных сальніцах. Амаль усе яны маюць вушка да вешання на сцяне. Перац і іншыя прыправы трымалі або ў кароўіх рогах або ў драўляных пасудзінах, у форме грыба і інш. Ёсць таксама малыя пасудзіны




*Плеценыя каробкі да перахоўвання збожжа, кашы і іншых прадуктаў.*
*Фота — С. Бушко*



ў выглядзе бочачкі да перахоўвання масла ў часе падарожжа. У музей трапіла таксама мерка на масла.

Салёнае мяса трымалі ў дзежках або ў капаньках. Збожжа, лён, крупы, муку і іншыя прадукты трымалі ў драўляных кадоўбцах, або ў саламяных каробках. Музей мае посуд на мёд і на іншыя прадукты. Няма, на жаль, яшчэ ў музеі драўляных скрыняў і вялікіх кадлубаў на збожжа. Добра было б наш музей узбагаціць у гэтыя і іншыя прадметы. Але і цяпер выстаўка прыладаў да нарыхтоўкі ежы і перахоўвання спажывецкіх прадуктаў захапляе гледачоў з цэлай Польшчы і замежных краін сваім багаццем.

## АГЛЯД АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Па ініцыятыве Нацыянальнай камісіі пры ВК ПАРП у Беластоку ў першым паўгоддзі 1969 года ў гонар 25-цігоддзя ПНР быў праведзены першы агляд аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на Беласточчыне. Усе арганізацыйныя справы ўзялі на сябе дзейнічаючыя тут грамадска-культурныя таварыствы — БГКТ, ЛГКТ, РКТ УГКТ; інструктарскую дапамогу аказваў Ваяводскі дом культуры, а каардынатарам быў Ваяводскі аддзел культуры П ВРН у Беластоку.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства пачало падрыхтоўку калектываў у канцы 1968 года. Да аглядаў у паветах прыступіла каля 20 аматарскіх калектываў, з гэтага звыш дзвюх трэціх — у Мілейчыцкім і Бельскім аддзелах. Неабходна падкрэсліць, што ўдзельнікам усіх гэтых гурткоў прыйшлося шмат папрацаваць. Паводле ацэнак паасобных камісій аглядаў, узровень іх быў розны, але ў цэлым даволі высокі. БГКТ павінна было выдзяліць на цэнтральны агляд у Беластоку толькі 3—4 калектывы з розным рэпертуарам. Аказалася, што большасць іх мела драматычны рэпертуар. Вядучае месца занялі жаночы драматычна-харавы калектыў з Гарадка, які дзейнічае пры Гарадоцкім праўленні аддзела БГКТ, бельскі змешаны хор Бельскага праўлення аддзела БГКТ, драмгуртох з Рыбалаў Бельскага павета і дуэт мілейчыцкага калектыву, які дзейнічае пры Мілейчыцкім Праўленні аддзела БГКТ. Калектывы гэтыя атрымалі ад ГП БГКТ новыя народныя ўборы.

27 красавіка 1969 года адбыўся ў беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі ўрачысты канцэрт 12 беларускіх, украінскіх, літоў-





*Хор Аддзела БГКТ у Бельску.*

*Фота — Р. Сянько*

скіх і рускіх калектываў (паводле 4-гадз. праграмы чаргова выступалі: Бельск — БГКТ, Беласток — РКТ, Лісы — УГКТ, Пунск — ЛГКТ, Мілейчыцы — БГКТ, Рыбалы — БГКТ, Бані Мазурскія — УГКТ, Вайтакеме — ЛГКТ і Гарадок — БГКТ). Зала тэатра была перапоўнена да апошняга месца. Прысутнічалі на гэтым канцэрце сакратар ВК ПАРП тав. Вітальд Мікульскі, кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК тав. Уладзіслаў Канстанчук, старшыня Нацыянальнай камісіі пры КВ ПАРП тав. Збігнеў Дамброўскі, кіраўнік аддзела культуры П ВРН тав. Юзэф Кая, прадстаўнікі мясцовых устаноў, прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый.

Markdown: Featured image Рознабаковую, разнамоўную праграму гледачы ўспрынялі выключна цёпла. Проста немагчыма правесці нейкай ацэнкі паасобных выступленняў калектываў, нават адных толькі беларускіх. Кожны з іх меў іншы, непаўторны рэпертуар, уводзіў гледача ў адметную праблематыку, эпоху, настрой. Успрымаўся аднолькава добра класічны рэпертуар бельскага хора, вясёлыя сучасныя песні эстрады рускага таварыства ў Беластоку, гумарыстычныя літоўскія танцы, велічная інсцэнізацыя »Адвечнай песні« ў выкананні гарадоцкага калектыву і гэтак далей.

Была гэта проста рэвія дасягненняў нацыянальных меншасных асяроддзяў, дэманстрацыя неўміручасці народнай песні, усяго фальклору і творчага яго развіцця самымі ўдзельнікамі без нейкай большай дапамогі спецыялістаў. Агляд яшчэ мацней згуртаваў удзельнікаў аматарскага руху (усе калектывы



*Квартэт Аддзела Украінскага таварыства ў Банях Мазурскіх.*



*Драматычна-харавы калектыў Аддзела БГКТ у Гарадку.*
*Фота — Р. Сянько*

і іх кіраўнікі атрымалі вялікія ўзнагароды), запаланіў тысячы гледачоў і стварыў магчымасць шырэйшага выкарыстання падрыхтаваных праграм на розных урачыстасцях, вечарынах, сустрэчах.

Агляды такія на Беласточчыне павінны стаць традыцыяй своеасаблівай формай падтрымлівання мясцовага фальклору і яго выкарыстання, школай інтэрнацыянальнага выхавання.

(ую)



АЛЯКСАНДР БЕЛЬСКІ
Ваяводскі Камітэт
Польскай аб'яднанай рабочай партыі
ў Беластоку

## У АТМАСФЕРЫ СЯБРОЎСТВА І ДРУЖБЫ

Беластоцкае ваяводства многа год вядзе сталы прыгранічны абмен з Гродзенскай вобласцю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Горад Беласток і пяць нашых паветаў (Сувалкі, Алецка, Элк, Сейны і Аўгустаў) абменьваюцца з горадам Каўнасам і пяццю суседнімі раёнамі Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Прыгранічнае супрацоўніцтва з братнімі савецкімі рэспублікамі мае даволі шырокія памеры. Побач з абменам працоўнымі групамі прадпрыемстваў, устаноў, маладзёжных і грамадскіх арганізацый, разгортваем мы таксама абмен артыкуламі паміж рэдакцыямі »Беластоцкай газеты« і »Гродзенскай праўды« і радыёперадачамі паміж Беластоцкай радыёвяшчальнай станцыяй Польскага Радыё і Радыёкамітэтамі ў Гродне і Каўнасе.

Склалася таксама добрая традыцыя абмену »Аўтобусамі Дружбы«, спартыўнымі камандамі і мастацкімі калектывамі.

Адной з галоўных мэт прыгранічнага супрацоўніцтва з'яўляецца ўзаемны абмен вопытам у розных галінах гаспадарчай, культурнай, спартыўнай дзейнасці і яго практычнае прымяненне ў штодзённым жыцці.

Праўда, розныя ўмовы нашых абедзвюх краін не заўсёды садзейнічаюць прымяненню гэтага вопыту ў вытворчасці, аднак і ў гэтай дзялянцы ёсць значныя дасягненні. Адносіцца гэта ў роўнай ступені да сельскай гаспадаркі, прамысловасці, будаўніцтва і іншых галін народнай гаспадаркі.

Карыстаючы з вопыту Гродзеншчыны, мы ўвялі ў ахове раслін метад апырсквання і апыльвання некаторымі новымі гербіцыдамі, а ў дзяржаўных сельскіх гаспадарках (ПГР-ах) апыльванне бульбы з самалётаў. Гэты метад прынёс лепшыя

вынікі ў знішчэнні шкоднікаў раслін. Скарысталі мы таксама з гродзенскага вопыту поўнай механізацыі пры вырошчванні бульбы і іншых карэняплодаў, а таксама ў сіласаванні пашы на зіму.

У галіне прамысловасці працоўныя групы паасобных прадпрыемстваў прывезлі шмат цікавых эканамічных рашэнняў, якія прымяняюцца на Гродзеншчыне. І так, нашы рацыяналізатары пасля прыезду з Гродна прымянілі ў сябе шэраг вынаходак па тэхналогіі, арганізацыі вытворчасці, рацыяналізацыі і тэхнічнага прагрэсу.

Па прыкладу гродзенскіх таварышаў нашыя будаўнічыя спецыялісты прымянілі ўкладанне падлогі са стружкавых пліт, пракладку электрычных правадоў унутры бетону, паветранае абаграванне ў прасторавым будаўніцтве. Група спецыялістаў з Беластоцкіх прадпрыемстваў фанернай прамысловасці, наведваючы такія ж прадпрыемствы на Гродзеншчыне, пацікавілася вытворчасцю некаторых элементаў шарыкападшыпнікаў і прывязла адтуль іх узоры. Цяпер мы атрымалі іх тэхналогію з Савецкага Саюза і прыступілі да вырабу гэтых элементаў у Беластоку.

*Гэта толькі паасобныя прыклады той* аграмаднай колькасці перанятага ад савецкіх сяброў вопыту, які знайшоў прымяненне ў нашых умовах.

Побач з супрацоўніцтвам у галіне гаспадаркі мы вядзём абшырны культурны, спартыўны і масава-палітычны абмен.

З нагоды дзяржаўных свят і выдатных гадавін арганізуем абмен мастацкімі і тэатральнымі калектывамі, папулярызуем па радыё і тэлебачанню дасягненні абедзвюх краін, праводзім даклады і сустрэчы партыйных і грамадскіх дзеячоў.

У 1964 годзе з нагоды дваццацігоддзя Польскай Народнай Рэспублікі быў сарганізаваны мітынг дружбы на савецкім баку граніцы Бераставіцы, у якім прыняло ўдзел 15 тысяч чалавек, у тым ліку 5 тысяч чалавек з Беластоцкага ваяводства.

Пасля ўрачыстай часткі мітынгу адбыліся сяброўскія сустрэчы былых партызан з часоў акупацыі, гаспадарчых, грамадскіх і культурных дзеячоў, знаёмых і родзічаў. Гэта была вялікая маніфестацыя дружбы, міру і сацыялізма грамадства нашага ваяводства і Гродзенскай вобласці.

Ва ўзнёслым і ўрачыстым настроі прайшоў таксама ў Бераставіцы 28 ліпеня 1964 года супольны касцёр дружбы польскіх гарцэраў з беларускімі піянерамі. Прыняло ў ім удзел 300 піянераў і гарцэраў.

У тым жа годзе дэлегацыя БГКТ, у складзе якой было 3 дзеячоў Галоўнага праўлення, наведала Савецкую Беларусь.



Мітынг і касцёр дружбы сарганізавалі мы ў 1967 годзе па нашым баку граніцы ў Ялоўцы. Прыняло ў ім удзел каля 60 тысяч асоб, а ў кастры дружбы — 500 гарцэраў і піянераў.

Мітынгі і сустрэчы моладзі спаўнялі і спаўняюць важную ролю ў набліжэнні і ўзаемным зазнаямленні нашых народаў. У іх *выніку зніклі многія* сумненні і фальшывыя меркаванні пра сапраўднае жыццё і ўмовы працы людзей з абодвух бакоў граніцы дружбы. Сярод старэйшага пакалення і асабліва ж у асяроддзі моладзі павялічваецца абмен лістамі, а ў школах — штораз больш паяўляецца выставак і насценных газет пра жыццё і працу беларускага народа. Асабліва вялікі ўклад у гэтую справу маюць Таварыства польска-савецкай дружбы і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Беларускае таварыства, выкарыстоўваючы матэрыялы, якія яно атрымоўвае з Мінска, сарганізавала ў 1967 годзе 324 фотавыстаўкі і ў 1968 годзе — 326 фотавыставак.

Важнае заданне ў прыгранічным супрацоўніцтве спаўняе ўзаемная інфармацыя пра жыццё і працу нашых народаў. У гэтай справе станоўчую ролю адыгрывае абмен артыкуламі і перадачамі. У 1963—1969 гадах нашыя рэдакцыі абмяняліся звыш 130 артыкуламі і 60 радыёперадачамі, якія былі апублікаваны ў мясцовых газетах і перададзены па радыё. У гэтых матэрыялах аўтарытэтна і займальна былі прадстаўлены розныя галіны жыцця нашых народаў. Ужо чатыры гады мы абменьваемся лектарамі, якіх заданнем з'яўляецца знаёміць грамадства з рознастайнымі галінамі жыцця беларускага і польскага народаў. Лектарамі з'яўляюцца вядучыя дзеячы партыі і народных саветаў, дзеячы асветы і культуры. Іх даклады ўспрымаюцца з вялікім прызнаннем у роўнай ступені сярод актыву Беласточчыны, як і Гродзеншчыны.

Вялікай папулярнасцю сярод грамадства Беласточчыны карыстаюцца сяброўскія сустрэчы спартыўных каманд. Яны ў значнай меры садзейнічалі павышэнню вынікаў у трэніроўцы і розыгрышах беластоцкіх спартсменаў.

Нашыя дэлегацыі прымаюцца на савецкай зямлі з вялікай сардэчнасцю. Савецкія людзі ахвотна дзеляцца з намі сваім вопытам, дасягненнямі і клопатамі. Аб гэтым сведчаць шматлікія ўспаміны людзей, якія наведалі БССР. Ядвіга Курыла з Алецкага павета — удзельніца »Аўтобуса Дружбы« — піша: »...граніцу мы мінулі ў Кузніцы, і нас ужо там сардэчна прывітаў маёр савецкай пагранічнай аховы. Самы пераход граніцы — гэта ўжо перажыванне: тое ж самае неба і тое ж сонца над галавой і ўсё ж не тое. Падарожжа аўтобусам у Гродна праз палі, абсеяныя мажным збожжам, камбайны, што працуюць пры жніве. І сустрэчы вельмі сардэчныя: кветкі, па-

дарункі — ніколі ў жыцці я не атрымала толькі кветак! Абеды і вячэры ў калгасах, і ўсё подана і нарыхтавана густоўна, элегантна, надзвычай багата. Апісаць — слоў не хапае... Перажыла я гэта, як чароўны сон, шчаслівая і задаволеная. Такой гаспадарлівасці, такой механізацыі і дысцыпліны працы толькі пазайздросціць і павучыцца ў суседзяў...«

Формы прыгранічнага супрацоўніцтва з году ў год расшыраюцца і прыносяць штораз лепшыя вынікі.

У 1963—1969 гадах паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю праведзен абмен 48 рабочымі дэлегацыямі, 21 »Аўтобусам Дружбы« і 41 спартыўнай камандай. У гэтым жа часе Гродзеншчыну наведала: 8 дэлегацый партыйных дзеячоў, 4 дэлегацыі дзеячоў народных саветаў, 6 маладзёжных і грамадскіх дэлегацый, 14 дэлегацый працаўнікоў прамысловасці і 7 іншых дэлегацый.

»Аўтобусамі Дружбы« на Гродзенскую зямлю выязджала звыш 440 асоб з разнастайных асяроддзяў і спецыяльнасцей.

Апрача гэтага, па-за планам прыгранічнага абмену, Галоўнае праўленне БГКТ вядзе сталае супрацоўніцтва з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. Яно знаходзіць выраз у абмене фотавыстаўкамі, кнігамі, газетамі і ў сустрэчах пісьменнікаў БССР з маладымі беларускімі пісьменнікамі, згуртаванымі ў літаратурным аб'яднанні »Белавежа« пры ГП БГКТ. Штогод Куратарыум беластоцкай школьнай акругі накіроўвае ў Мінск на спецыяльны курс для павышэння кваліфікацый 20 настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны.

Дэлегацыі з Гродзеншчыны таксама знаёмяцца з нашымі дасягненнямі і рашэннямі шэрагу праблем. Савецкія таварышы высока ацэньваюць наша будаўніцтва, асабліва яго абліцовачнае афармленне і архітэктурныя рашэнні, а ў мясной прамысловасці — тэхналогію мясных вырабаў.

У адным артыкуле немагчыма прадставіць усе карысці і формы прыгранічнага абмену паміж нашымі краінамі. Гэты абмен прыносіць вялікія эканамічныя і палітычныя эфекты, якія часта вельмі цяжка пералічыць на грошы.

Супрацоўніцтва нашых суседніх зямель Беласточчыны і Гродзеншчыны садзейнічае ўмацаванню непарушнай дружбы і брацтва паміж нашымі сацыялістычнымі краінамі.

## З ДЗЕЙНАСЦІ ЧАСОВАГА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА КАМІТЭТА ПОЛЬШЧЫ Ў БЕЛАСТОКУ

Сацыялістычная рэвалюцыя ў Расіі прычынілася да радыкальных змен поглядаў еўрапейскіх дзяржаў на тзв. польскую справу. Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі прымусіла дзяржавы Антанты прызнаць незалежнасць Польшчы.

Межы таго новага палітычнага твору не былі адразу ўстаноўлены. Усё яшчэ разлічвалі на магчымасці змен палітычнай сітуацыі ў Расіі.

Польшча была пад палітычным і гаспадарчым уплывам заходніх дзяржаў. Польскі ўрад рашыў пашырыць свае межы на ўсходзе за кошт Савецкай Расіі. У 1920 годзе пачалася польска-савецкая вайна.

Польскія камуністы, якія знаходзіліся на тэрыторыі Расіі, выказалі гатоўнасць барацьбы на савецкім баку.

20 ліпеня 1920 года ў Беластоку быў утвораны Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы, у склад якога ўвайшлі: Юліян Мархлеўскі — старшыня і члены: Фелікс Дзяржынскі, Фелікс Кон, Эдвард Прухняк і Юзэф Уншліхт.

Як часовы рэвалюцыйны ўрад выдаў ён 30 ліпеня 1920 года два праграмныя дакументы: «Паведамленне» і «Маніфест да польскага рабочага народа гарадоў і вёсак». Праграму камітэта можна разглядаць у некалькіх напрамках:

1) З палітычнага пункту гледжання ЧРКП займаў пазіцыю неабходнасці рабоча-сялянскай дыктатуры, асабліва ў перыяд будаўніцтва фундаментаў новага ладу. «Маніфест» заклікаў да арганізавання ў гарадах і вёсках рэвалюцыйных камітэтаў (рабочых у гарадах, а грамадскіх — на вёсцы), якія падпарадкоўваліся б Часоваму рэвалюцыйнаму камітэту Польшчы. ЧРКП выконваў бы функцыю Цэнтральнага ўрада да моманту

ўсварэння на з'ездзе дэлегатаў рабочага народа гарадоў і вёсак Пастаяннага рабоча-сялянскага ўрада.

2) З эканамічнага пункту гледжання праграму Камітэта можна акрэсліць як імкненне да максімальнай нацыяналізацыі сродкаў вытворчасці.

Прамысловасць і сельская гаспадарка на вызваленай тэрыторыі выглядалі вельмі дрэнна. У фабрыках не было камплектаў машын, не хапала сыравіны, а часта і спецыялістаў. На вёсках частка зямлі была пад папарам. Збожжа не заўсёды збіралі з поля і г.д.

У дзейнасці ЧРКП на першы план вышлі справы: прывядзенне ў рух фабрык, уборка збожжа, размеркаванне харчоў, упарадкаванне камунікацыі, палепшанне жыццёвых умоў працоўнага насельніцтва.

3) Сацыяльная і культурная праграма мела на мэце максімальнае задавальненне патрэб працоўнага насельніцтва.

Вельмі важнай праблемай была асвета, асабліва ў сувязі з набліжаючымся навучальным годам. Трэба было абавязкова правесці змены ў арганізацыі школьніцтва, а таксама падрыхтаваць настаўніцкую кадру і падручнікі, якія б адпавядалі патрэбам новай, пралетарскай школе. Школьніцтва ў савецкім ладзе павінна выхаваць грамадзяніна добрасумленнага, які цэніць працу і сужыццё з іншымі людзьмі.

ЧРКП выказаў ажыўленую дзейнасць у арганізацыі прафес'янальных саюзаў.

Вялася таксама, хоць на гэтыя цяжкія ваенныя ўмовы, культурная дзейнасць.

Дзейнасці ЧРКП перашкаджала тое, што яго палітыка не атрымала поўнай падтрымкі з боку польскага грамадства. Поўную падтрымку для Камітэта далі толькі рабочыя фабрык і парабкі, часткова — малазямельнае сялянства. Апошняе сялянства варожа адносілася да пачынанняў ЧРКП. Вінавата ў гэтым і КПРП, якая не патрапіла, або не магла лепш супрацоўнічаць з новым урадам. Гэта ўсё тармазіла выкананне праграмных прадпасылак Камітэта. Аднак трэба падкрэсліць, што Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы быў першым у нашай гісторыі ўрадам, які здзяйсняў уладу ў інтарэсах асноўнай масы народа — рабочых і сялян.

(ЛІВ)

# МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

## (ВЫБРАНЫЯ ВЕРШЫ МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ПАЭЗІІ)

Тут трыццаць імён. З многімі сустрэнецеся ўпершыню. Яны вас не прыцягнуць магнітам славы, не адштурхнуць таксама хрэстаматыйным глянцам. Яны скромныя і шчырыя. І таямнічыя!

Амаль усе нарадзіліся ў саракавых гадах нашага стагоддзя. Асаблівае пакаленне. Яно не ведае вайны, але яна прычыняе ім боль. Яно, на зайздрасць, адукаванае, імкнецца да новага і... моцна трывае ў традыцыйным. Якое ж яно, гэтае новае пакаленне беларускай савецкай паэзіі?

Не думаем, што ў змешчаных тут вершах, чытачы знойдуць поўны адказ на гэтае пытанне. Друкуючы па адным вершы трыццаці маладых аўтараў, такой задачы мы не ставілі. Але выбраныя намі вершы ў пэўным сэнсе з'яўляюцца праграмнымі. У іх вы знойдзеце адказ на асноўнае пытанне ў любой творчасці — адносіны да роднага, жыцця, сучаснага дня.

У беларускай савецкай паэзіі не адно таленавітае пакаленне. І не адз:н паэт старэйшых пакаленняў можа здзівіць нас яшчэ свежасцю паэтычнага слова, але старэйшыя пакаленні, у асноўным, што мелі найважнейшага — сказалі. На жаль, няўмольныя законы біялогіі і паэзіі. У сілу іх — слова за маладымі!

Думаем, што многія з вас, знаёмячыся з таленавітай зменай беларускай паэзіі, адчуюць вялікае задавальненне і палюбяць яе з першага знаёмства.

**Георгі Валкавыцкі**



## ІВАН АРАБЕЙКА

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Хмелева на Брэстчыне. Скончыў хіміка-тэхналагічны факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута. Працуе інжынерам у Брэсце.

* ✲ *

Нам кожны дзень даецца толькі з боем,
Пад пругкі крок не ляжа сам паркет.
Зямля ўся ашчацінілася з болем
Напружанай маўклівасцю ракет.

Шчэ ные чорнай ранай Нагасакі,
Мы ж ведаем дзве розных цішыні:
Ёсць ноччу цішыня перад атакай
І ціш сярод заснежаных раўнін.

Не, усё ж такі ёсць розум чалавечы,
Што прыйдзе да адвечнай праваты,
І сонечным лакатарам навечна
Астанецца сланечнік залаты.





## ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

Нарадзілася ў 1938 годзе ў Лідскім раёне. Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы. Працуе ў Гродне настаўніцай. Аўтар зборнікаў «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі».

* ✲ *

— І адкуль з такімі вачамі?
— Я тутэйшая...
Я звычайная.
Мяне маці тут нарадзіла.
Як сасонку ў бары пасадзіла.
Я зжылася з усімі нягодамі.
Мне казалі, што я не гордая.
Таму я не гаманлівая,
Што ўзрасціла зямля неўрадлівая,
Перакроеная, пясчаная...
Я ж тутэйшая. Я звычайная.
Я са сцежкі ў гушчэчы збілася.
Сінім ценем на травы пала
І крыніцай на золку стала.
Засмяялася, звонкая, лёгкая...

І пабегла ў стэпы далёкія.
Там пілі мяне, светлую, сінюю.
Там рукамі, што пахлі бензінам,
Разлівалі мяне, гаючую,
На пяскі, ды на травы калючыя.
Як ні білася я, гарэзная, —
Закавала мяне зіма.
Рэкі стэп шырока парэзалі,
Там крынічак-жывічак няма,
Бо няма і такога сасонніка,
Дзе б гуляць у хаванкі з сонейкам.
Мне ж успомнілася даўнейшае
Я далёкая...
Я тутэйшая.







## ВЕРА ВЯРБА (МАРКАВА)

Нарадзілася ў 1942 годзе ў мястэчку Талачын Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар зборнікаў «Вочы вясны» і «Белыя пісьмы».

* * *

На пачатку маладосці мілай
Не хачу чужых перасцярог, —
Не лічыце дарагіх памылак,
Не шукайце для мяне дарог.

Каб самому блізка ўбачыць неба,
Каб запомніць родную зямлю,
Навучыцца самастойна трэба
Маладому лётаць жураўлю.

Ад лясоў, ад берагоў зялёных
Я прыму і шчасце, і бяду, —
Толькі тыя, што мае да скону,
Толькі тыя, што сама знайду.



## ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Малыя Кругові́чы Ганцавіцкага раёна. Працуе ў рэдакцыі Ляхавіцкай раённай газеты.

* ✲ *

Раніцою пахне дурнап'ян,
Звоняць пчолы ў сіняве чабору.
Крывічоў патомкі і драўлян
На бярвеннях селі сярод бору.
Стомы раскруціліся кругі
У вачах хлапцоў, што ў спяцоўках.
Тут палуднуюць, нібы багі,
Пры агні — на лесараспрацоўках.
Так мне з імі хораша пабыць
На палянах з дзеразою ніцай,
У бары, дзе волкі пах
грыбы
Заварылі ў водары жывіцы.





## ЮРКА ГОЛУБ

Вучыцца на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Зельвенскім раёне на Гродзеншчыне.

* ✲ *

Мяне абнялі хвайнякі.
Загуменнямі крочым да хатаў.
Гадавалі вякі-леснікі
Маладняк на зямлі жвіраватай.

Яго не скрышыла сякера, агонь,
Пяруны не спалілі маланкай...
Маё сэрца дрыжыць — у сасны абалонь
Стогне ноччу да золкага ранку.

Гэта болі трывожацца ў сне.
Хвайнякі неспакойныя вечна...
Калі нягодай жыццё сцебане,
Яны прылашчаць мяне і палечаць.

Хвайнякі — землякі,
Стаіцё вы, расправіўшы плечы...
Сваё сэрца вазьму ў дзве рукі,
Каб прынесці на вашае веча.



## АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў в. Шарпілаўка на Гомельшчыне. Скончыў Беларускі інстытут чыгуначнага транспарту. Працаваў на камсамольскай рабоце. Цяпер — слухач Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве. Аўтар зборніка «Магістраль».

### ПАЭТ

Трывожна угінаюцца радкі
Натужліва грымяць на стыках строфы.
У сэрцы надрываюцца гудкі,
Як на чыгунцы ў часе катастрофы.

Людская радасць. Чалавечы боль.
Бы ў фокусе — сыходзяцца у сэрцы.

Асуджанага словаблуддзя моль
Яшчэ яго свідруе па інерцыі.
І зло яшчэ гарцуе на кані.
Мяняюць подласць і двурушша скуру...
Ці можна жыць, не кідацца калі
На гэта ўсё, нібы на амбразуру?





## ГЕНАДЗЬ ДЗМІТРЫЕЎ

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Першамайка на Віцебшчыне. Працаваў рабочым, вучыўся ў БДУ імя У. І. Леніна. Служыць у арміі.

* * *

Зноў спахмурнелі твары салдат,
Зноў на салдацкіх сэрцах неспакойна:
На ўсю казарму грозна, як набат,
Грыміць дынамік —
недзе ў свеце войны...
Пажары, смерць,
і могілкі наўсцяж...

І мроіцца мне родны кут няблізкі
І кволы-кволы парастак жыцця,
Што толькі прабіваецца з калыскі.
О, гэты міг нявіннасці святой! —
Валтузіцца ў мультанавай пялёнцы,
Як сонца у аблоках раніцой,
Мая дачка, шчаслівая бясконца...
І мроіцца той край,
што бацька мне,
Вайной забіты,
ў спадчыну пакінуў...
І мімаволі,
ў сто разоў мацней,
Сціскаюць пальцы дрэўка карабіна.



## МАР'ЯН ДУКСА

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне. Студэнт філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар зборніка «Спатканне».

* ✲ *

Вучоны, як лучыну, шчэпіць атам,  
Гудзе зямля, бы гарадскі гудрон.  
А ружа ружавее каля хаты,  
Прыпаўшы сваёй шчочкай да акон.

Я на ракеце уцякаю з дому,  
Аблюбаваўшы ў космасе куток.  
А пад рукою ціха, па-зямному  
Мурлыкае і лашчыцца каток.

І свеціць сонца нада мною шчыра,  
Міргаюць росы з маладой травы.  
Хоць век дваццаты, у далёкі вырай  
Збіраюцца у высях журавы.

Люблю жыццё я пад Шляхамі Млечнымі!  
Хоць на зямлі і мудрацом слыву,  
Я перад тым, што роднае і вечнае,  
З пашанаю схіляю галаву.





## СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне. Студэнт філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.

* ✲ *

Я — лістапад. Прыходзьце да мяне.  
Па той сцяжыне, дзе блукае вожык.  
Прыходзьце. Шчасце тых не абміне,  
Хто пакахаў матулю восень.

Бярозы ліст — чырвоны звонкі мак —  
Да вуснаў паднясем у цёплай жмені.  
І, быццам кветка, расцвіцеш сама,  
Народжаная з сонечных праменняў.

Прыходзь дзяўчына, з дальняга сяла,  
Пастой пад вадаспадам жаўталістым.  
Ты станеш прыгажэйшай, чым была,  
Пад гэтым дзіўным залацістым ліўнем.

Прыходзь, жанчына — вешчы ўрач бяды,  
Я ў хустку тваю восені насыплю,  
І ты пачуеш голас малады  
Забітага пад Беластокам сына.

Прыходзь і ты, дзядуля, сёння ў бор  
Пагрэцца ля кастроў, што вецер носіць.  
Дубовы ліст дамоў вазьмі з сабой —  
Жыцця твайго спакойнай будзе восень.

Я — лістапад. Я — добры чараўнік.
Усе хваробы лісцямі лячу я.
Прыходзьце, людзі, покуль я не знік,
Прыходзьце ўсе, хто боль ці смутак мае.







## КАСТУСЬ ІЛЬЮШЧЫЦ

Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Рог Салігорскага раёна. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава.

* * *

А вы былі ў лясах сасновых
І заблудзілі хоць калі,
Дзе сустракаюць старасць совы
І глуха стогнуць на галлі?

А я не раз шукаю ветры,
Што дзьмуць з палескай стараны,
Дзе так настоена паветра
Гаркавым ёдам той вайны.

І зноў паеду на Палессе
Пад сосны цёплыя, як сны, —
І па запевы новых песень,
Такіх дрымучых і лясных.

І сэрца зойдзецца ад шчасця,
Што ёсць з усіх адзіны кут,
Які наведваю не часта,
З якім расстанне — сто пакут.

А ён знаёмы да драбніцы,
Ды зведаць хочацца другі...
Там, можа, лепшыя крыніцы,
Там, можа, лепшыя лугі.

І толькі будзе вечным дзівам
І не разгаданай зямля,
Дзе пачыналася Радзіма
Лясная,
          добрая,
                    мая.







## ВОЛЬГА ШАТАВА

Нарадзілася ў 1945 годзе ў мястэчку Мір на Гродзеншчыне. Выхоўвалася ў дзіцячым доме. Скончыла філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў Гродзенскім абкоме камсамола.

* * *

Дзе мовы сталі блізкімі мне змалку,
У сэрца упляліся назаўжды:
Гучэла калыханка — песня маткі:
Празрыстым звонам нёманскай вады,

Пявучым словам беларускіх вёсак...
А бацька — сын шырокае Акі
Мне даў — і я ў свае прымаю вёсны —
Расійскай мовы гучныя радкі.

Ды толькі Беларусь, твая дачка я,
Зярнятка я, а ты — мая ралля.
Якога ж слова ад мяне чакаеш
Ты, узрасціўшая мяне зямля?

У якіх красках, у пчаліным гудзе...
Я ведаю — праз гулкія вякі
Табе складаць на роднай мове будзе
Свой лепшы верш унук маёй дачкі...



## АЛЕСЬ КАМАРОЎСКІ

Яму 22 гады. Родам з Мікалаеўшчыны Стаўбцоўскага раёна. Студэнт філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

### ПРАГА

Чалавек чалавека прагне,
Высненага даўно...
Тое падае, тое прахне,
Чаму жыць не дано.

Прагне рыбы азерца,
А дарога — калёс...
Прагне шчырасці сэрца,
Як дзяцінства, да слёз.

Прагне коласа поле,
Каб да сонца расці...
Чалавек прагне болей
Навучыцца, знайсці.

Нас нішто не скасіла,
Не спіхнула з быцця,
Бо вялікая сіла
Ў гэтай празе жыцця.





## КАЗІМІР КАМЕЙША

Нарадзіўся ў 1943 годзе на Стаўбцоўшчыне, у вёсцы Навікі. Служыў у Савецкай Арміі. Цяпер працуе ў Беларускім радыё і завочна займаецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

### МАГІЛЫ КАМІСАРАЎ

Магілы камісараў...
Строгія бары,
І небасхіл у водблісках ажурных...
Да шорсткай прыхіляюся кары,
Нібы да вашых скураных тужурак.
З тужурак вы не выраслі сваіх,
З тых дзён вы нават іх не распраналі.
Пасечаныя у рубцах ствалы
Мне твары вашы так напамінаюць.
І песні сёння вашы я пяю,
Што вы імчалі смела на тачанках,
І ў каравуле за ўсіх вас стаю
І бачу вашы сны начамі.
Вы дрэвам,
　　　　паміраючы тады,
І гнеў і галасы свае аддалі.
І вашы несмяротныя гады
Ўсё кроны неўміручыя гайдаюць.



## АНАТОЛЬ КАНАПЕЛЬКА

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў мястэчку Расоны на Полаччыне. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Аўтар зборніка »Зямная сімфонія«.

* ✲ *

Трывожце, дарогі і добрыя сны,
Трывожце, барвовыя ветры вясны,
Нясіце бязмерную радасць сваю,
Нясіце няхітрую песню маю,
Каб толькі не ведаць спакою нідзе,
Каб толькі не ўпасці ў імклівай хадзе!





## ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН

Нарадзілася ў 1946 годзе ў Рэчыцкім раёне. Працавала піянерважатай. Цяпер — студэнтка філалагічнага факультэта БДУ імя Леніна.

### СОСНЫ

Ў нашым лесе старэчыя сосны...
Глуха голлі аб даўнім гудзяць.
На галовах іх мудрыя вёсны,
склаўшы крылле, з маланкамі спяць.

Ёсць тут сосны, як промні, да неба,
і гарбатыя, як з ланцугоў.
Гартавала іх родная глеба
пад узвіў пакручастых вякоў.

І крукамі цяжкімі не зрушыць
перавітых з зямлёй каранёў,
абалоні сталёвай не струшчыць,
І дрыгвою не высмактаць кроў.

І ніякая сіла, здаецца,
хай сталёвыя кіпці ў яе,
жыл сасновых не выцягне з сэрца,
і вяровак на смерць не саўе.



## МІКОЛА МАЛЯЎКА

Нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Міншчыне. Служыў у арміі. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар зборніка »Едуць маразы«.

* * *

Мне сорамна,
Я вінаваты.
Прабач мне,
бацькоўскі куток:
Павольна каціўся дахаты
маіх вандраванняў клубок.

Я ўсіх тваіх сцежак не змераў,
І ўсё ж не спяшаўся сюды,
Тваіх
каб папробаваць бэраў,
Тваёй
прыгубіць вады.

Не ведаў, ці поўныя гумны,
Ці многа на поплаве коп,
Забыўся,
як Нёман разумны
Маршчыніць шырокі свой лоб...

У поўных жытах і пшаніцах
Пралі мне ў далоні, куток,
Пакаяцца і прычасціцца
Блакітнага неба глыток.





## НІНА МАЦЯШ

Нарадзілася ў 1943 годзе ў Бярозаўскім раёне. Скончыла Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў.

### БЫВАЙ, ЛЕТА!

Чуеш, як усмешлівыя яблыкі
Зноў зямлю цалуюць па начах.
Павуцінне, сірата азяблая,
Восень зачапіла на карчах.

Там вятры барвова-залацістыя
Паміж голлем б'юцца у дажджы.
Дзе вы, росы, чэрвеньскія, чыстыя,
На якой згубіліся мяжы?

Палягла трава дапетай песняю
У каралях яркіх журавін.
Чуеш?... Да вясны з маім Палессем
Зноў развітаюцца журавы.



## МІКОЛА МІЦКЕВІЧ

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Мікалаеўшчыне Стаўбцоўскага раёна. Служыў у арміі. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працуе настаўнікам.

* ✲ *

У часе страшнай вайны
Мы часта кідалі хаты:
Трывожылі нашыя сны
Разгневаныя гарматы.

Гарматы — багі вайны —
Вы нават у дзень перамогі
Грымелі, як перуны,
Будзілі зямныя аблогі.

Будзілі... Мы зналі,
                    бяды
Вы прынясці не ў сіле...
Чаму ж вы, гарматы, тады
Бацьку майго не збудзілі?





## СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Міёрскім раёне. Скончыў вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. Аўтар зборніка »Кастры Купалля«.

Продкі мае-
            крывічы,
камяні
        асцярожна ў далоні бралі —
клалі першыя гарады.
На веча
        майстроў склікалі,
каб паслаць Скарыну
роднаю моваю
першую кніжку стварыці.
У навалу —
            браты паўставалі.
Скакалі шалёныя коні,
з чыстага срэбра мячы
сінь напалам калолі —
сцякала яна палянамі...

Ці не таму каля гулкіх бароў
столькі азёр сінее...
Як поўныя кублы —
                    стагоддзі.
Счарпні па гарцу з кожнага —
прыпамінамі свет напоўніцца...



## АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Сялец на Брэстчыне. Вучыцца на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна.

### МАЛАДОСЦЬ

Уварвалася
ў ранішні золак,
Захапіла, як песня і бой,
Асляпіла
агнямі вясёлак
І паклікала за сабой.

Загадала быць мужным і шчырым
У астрозе
няўдач і бед.
І ці мне
праз палосачкі шчылін
Пазіраць на вялізны свет?!

І ці мне
заціхаць перад стомай
І спыняцца на паўшляху,
І хацінай,
сляпою і соннай,
Затуляць ад вятроў шчаку?!

І паласць
Дзеля славы і платы,
І сабе прысвячаць свой бег?!
Я іду з маладосцю крылатай
У нязнаны, трывожны век.





## АЛЕСЬ САЛТУК

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне. Вучыцца на філалагічным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута.

* * *

Пішуць вершы паэты
Аб сяброўстве, аб сонечным дні,
А пад небам застылі ракеты
У дрыготкай лясной цішыні.

Спяць паэты і сняць свае кнігі.
На граніцу выходзіць дазор.
А ў небе праносяцца »мігі«,
І шуміць устрывожаны бор.

І няма цішыні.
Сон ідзе ад паэтаў...
У кагосьці на пуску рука...
І дрыжыць у палёце планета,
Бы струна пад ударам смычка.



## АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

Нарадзіўся ў 1941 годзе на Шклоўшчыне, у вёсцы Ордаць. Закончыўшы філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна, працаваў у рэдакцыях часопісаў і газет. Аўтар зборнікаў »Азбука« і »Міннае поле«.

* * *

Чаму у нас паэтаў — як бяроз,
Чаму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла?

І вецер мне шапнуў тады: »Бяроз
У нас так многа ў вёсках і на полі
Таму, што імі асвятлялі лёс
І цёмную цяжкую долю«.

А лес трывожнай бронзай празвінеў:
»Таму так многа ў нас было паэтаў,
Каб за усіх, хто гаварыць не ўмеў,
Яны пра край наш расказалі свету«.

Таму у нас паэтаў — як бяроз,
Таму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла.





## УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі. Працуе ў Мінскім аэрапорце інжынерам.

### ЖЫТА

Зялёнае,
яно імкнецца ў неба —
Неўтаймавана
прагне вышыні.
Парой здаецца,
што ў гарачцы
з глебы
Яно гатова
вырваць карані.

Калі ж зазвоніць,
выспелае,
зернем, —
Расстанецца
з наіўнасцю былой:
Ад неба
твар прасветлены
адверне
І схіліць галаву
перад зямлёй.



## ГЕНАДЗЬ ТУМАС

Нарадзіўся ў 1940 годзе на Дзяржыншчыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Настаўнічаў. Працуе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

* ✲ *

Знаходзілі ў зямлі маей манеты халіфата,
Манеты Рыма, Залатой Арды.
Віталі ў скарбах закарузлых нумізматы
Сівой мінуўшчыны гады.
Пазбаўленыя вокісаў і нарасці,
Глумлівай шматвяковай старасці,
Дапісвалі гісторыю манеты,
Манетныя легенды і партрэты.
Для іх ніколі сейфам не была
Мая непераможная зямля.
Яна суніцай цёплай барвавела
І жытам маладым рунела,
Калі ашчадна скарбы берагла.





## МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Драгічынскім раёне. Працаваў у рэдакцыях раённых газет, служыў у арміі. Цяпер вучыцца ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага ў Маскве.

### РАДЗІМЕ

Не скажу ні слова пра любоў
                    сваю —
ведаеш мяне ты без размоў.
Ведаеш, бы маці, —
голага і босага,
што ад слёз гарачых
                    не размок.
што ні зайздрасць
і ні рэўнасць лютая
не звалілі з ног,
                    не паланілі...
Дай руку, Радзіма:
слухай Рэвалюцыю —
у грудзях,
          у левай палавіне.
Твае ўсе трывогі, хваляванні
ў трапяткім кавалачку сабраны.
Маё сэрца — вышыня,
                    заваяваная
пахаванымі на вышыні сябрамі.
Бой ідзе

між тупасцю і розумам —
барацьба працягваецца
за любоў
у чысціні бярозавай,
за далоні,
да святла працягнутыя.
Я хачу змагацца,
не памерці, —
каб жыццё сяброў не абрывалася...
Твая дужасць
у маім, Радзіма,
сэрцы
прарастае сілай набрынялаю.







## СЛАВАМІР ХАДАРОНАК

Нарадзіўся ў 1941 годзе ў в. Укля на Браслаўшчыне. Служыў на флоце. Працуе на камсамольскай рабоце і вучыцца завочна ў Літаратурным інстытуце імя А. Горкага ў Маскве.

* * *

Трэці год я ужо на флоце,
Ды не гасне сум па радзіме.
Там за вёскай у сінім балоце,
Як ніколі чарніцы ўрадзілі...
На хрыбце мяне вал дзевяты,
Як ліхі жарабец, гайдае...
Ну, а там маладыя дзяўчаты
Пра мяне па начах гадаюць.

Толькі лягу спачыць —
на буслянцы
Мяне клёкат ізноў чаруе.
Бачу: цеста расце, набухае
У дзяжы на гарачай чарэні...

...На Атлантыцы дзікай, далёкай
Памужнеў я, зрабіўся сталы.
Ад брані агрубелі далоні.
Толькі сэрца мякчэйшае стала...



## МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Буда-Кашалёўскім раёне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар кніг для дзяцей: »Дзе лета канчаецца« і »Бегунок пачынае думаць«.

### ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

Заўжды аб чымсьці
непакоімся,
Заўжды мы нечым
захапляемся.
Заўжды за нечым
шпарка гонімся
І падаем
і падымаемся.
Ў жыцці мы часта
сустракаемся,
Каханнем чыстым
сэрцы свецяцца.
Хоць добра знаем,
што расстанемся,
Што, можа, больш
нідзе не стрэцца нам.
І разыходзімся,
і сходзімся,
Бываем шчырымі,
халоднымі.



Чужыя дзеці,
як прыходзіцца,
Становяцца сваімі,
роднымі.
Бяда —
мужней спіну распроствaем,
Жывём надзеяй,
марай вечнаю...
Якія ж вы ўсё-ткі
простыя,
Людскія сэрцы,
чалавечныя!





## МАРЫЯ ШАЎЧОНАК

Нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Новы Востраў на Клічаўшчыне. Скончыла філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе настаўніцай на Гродзеншчыне.

* * *

Не дарэмна гавораць —
мудрасць
Заключаецца ў прастаце...
Мы ўскладненнямі любім мучыць
І сябе, і сваіх дзяцей.

Сярод ніў і лясоў узросшы,
Я прымаю такую быль.
Зноў і зноў прастаце зайздрошчу,
Простай гэтак не проста быць.

Не мудрыце, паэты, гэтак,
Напішыце прасцей і менш,
Вы убачыце — стане свету
І патрэбным і блізкім верш.





## НІНА ШКЛЯРАВА

Нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Пракапаўка на Гомельшчыне. Вучыцца ў Гомельскім педагагічным інстытуце.

### БЕЛАРУСЬ

Беларусь — мая мара,
Мая вера адна.
Беларусь — мая маці,
І святло, і вясна.

Ці трава тая ў росах
Так блішчыць цеплынёй,
Ці то матчыны косы
Я кранаю рукой?

Ці то зоры уночы
Свецяць так да мяне,
Ці то матчыны вочы
Усміхаюцца мне?

Ці то рэху зямля
Песні дорыць свае,
Ці то маці мая
Калыханку пяе?



## ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

Нарадзілася ў 1948 годзе ў вёсцы Рудка на Піншчыне. Вучыцца на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта.

### КРАЙ МОЙ СІНІ...

Край мой сіні, казка вясновая,
Сэрцу любы і дарагі.
Як кубанкі дзядоў зімовыя,
Абкружылі цябе стагі.
Туманы наплываць бялёсыя,
Закачаецца неба сінь —
І ўсплываць над зялёнымі плёсамі
Жураўліныя касякі.
Праплываюць над зыркім верасам,
Над усмешкамі і смугой.
Я ўпэўнена, хутка вярнуцца
Да зялёных сваіх берагоў.
І дзядзькі, як стагі бухматыя,
Зноў гавораць: »Адлёт, глядзі...«
Край мой, песня і мова матчына,
Ты на свеце такі адзін.



# ГУМАР З БЕЛАРУСКІХ АДРЫЎНЫХ КАЛЕНДАРОЎ 1928—1934 ГАДОЎ

### ЯК ХТО КАХАЕ

Кухарка — горача.
Цукернік — соладка.
Урадавец — афіцыяльна.
Ліцэіст — класічна і платанічна.
Лекар — смяротна.
Стражак — вогненна.
Адвакат — красамоўна.
Купец — з разлікам.
Разбойнік — забойча.
Афіцэр — пераможна.
Зубны лекар — бязлітасна.
Лётчык — паветрана.
Фатограф — натуральна.
Гадзіннікавы майстар — часова.
Дурань жа — моцна і стала.

### ЦЕРПЯЛІВЫ

У перапоўненым аўтобусе закрычала нейкая пасажырка:
— Праходзьце далей, вы на маю нагу селі.
— Э, што мне ваша нага, калі ў мяне на шыі цэлая сям'я сядзіць.

### ЧАГО ТЫ ПЛАЧАШ?

— Плачу, бо мама назвала тату аслом, а тата маму — гускаю. І я цяпер не ведаю, хто я такі...

## ПАДЗЯКА

Малы Янка атрымаў ад маці 50 грошы і не падзякаваў.
— Ну, Янка, а што трэба сказаць? — пытаецца маці.
— Ці таксама, як мама кажа, калі бярэ ад таты?
— ?
— Што, усяго столькі?!

## ЗАГАДКА

— Якога сабакі найбольш баіцца заяц?
— Белага.
— Чаму?
— Бо думае, што той сабака аж да кашулі распрануўся, каб толькі яго дагнаць.

## ПА ДРУГАЙ БУТЭЛЬЦЫ

П'яніца першы: — Браточак, вып'ем яшчэ па чарцы. Хто ведае, калі зноў убачымся...
П'яніца другі: — Вып'ем, вып'ем, бо я ўжо цябе не бачу.

## РАЗУМНЫ

— Чаму ты так часта з сабой гаворыш?
— Бо я люблю гаварыць з разумным чалавекам.

## НАШЫМ ПАЭТАМ

Вось паэт! А нам такіх менавіта і трэба ў час росквіту тэхнікі. Хто возьме ў рукі яго зборнік — адразу і засне.

## У ШКОЛЕ

— Петручок, калі твой бацька выканае нейкую работу за гадзіну, а твая маці зробіць тую работу таксама за гадзіну, колькі разам на гэта зыдзе часу?
— Пяць гадзін, пане прафесар.
— ?
— Бо яны гадзіну рабілі б, а чатыры — сварыліся б.

## І Ў АФРЫЦЫ ТАКСАМА

Настаўнік: — Скажы мне Сярожа, чаму буслы адлятаюць ад нас на зіму ў Афрыку?
Сярожа: — Бо... бо... афрыканскія людзі таксама хочуць мець дзяцей.



# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## СУП МАЛОЧНЫ З МОРКВАЙ І БУЛЬБАЙ

Моркву нарэжце дробнымі долькамі і прыпусціце ў падсоленай вадзе да палавіны гатоўнасці. Дадайце бульбу, нарэзаную буйнымі долькамі, і зварыце да гатоўнасці. Ваду зліце, а гародніну заліце кіпячым малаком. Суп запраўце сметанковым маслам, цукрам.

На 350 г малака 3 морквіны, 4 бульбіны, 1 сталовая лыжка сметанковага масла.

## БОРШЧ БЕЛАРУСКІ

З мяса і касцей ад вяндліны зварыце булён. Моркву, пятрушку і рэпчатую цыбулю падсмажце, дадайце тамат-пюрэ і працягвайце падсмажваць яшчэ 10 мінут.

У булён пакладзіце бульбу, нарэзаную кубікамі, і давядзіце да кіпення. Дадайце нашаткаваных саломкай буракі (іх трэба перад тым зварыць у лупінах), падсмажаныя муку і карэнні варыце 10—15 мінут. Боршч запраўце цукрам і воцатам.

Падаюць з мясам, сасіскамі і смятанай.

На 100 г касцей ад вяндліны 100 г ялавічыны, 2 сасіскі, 1 бурак, 4 бульбіны, 1 морквіна, пятрушка, 2 цыбуліны, 1 сталовая лыжка тамату-пюрэ, сала свіное, мука пшанічная, цукар, воцат 6%.

## ХАЛАДНІК

Косці вымыць, заліць халоднай вадой, паставіць варыць. Укласці мяса, пасаліць, працягваць варыць. Укласці ачышчаную гародніну, варыць да мяккасці. Буракі памыць і зварыць з лупінамі. Яйкі памыць, зварыць накрута, астудзіць. Булён працадзіць, дадаць ачышчаныя і нацертыя на тарцы з вялікімі вочкамі буракі, заправіць запраўкай з мукі і булёну, пракіпяціць. Змяшаць са смятанай і квашанымі гуркамі, парэзанымі ў кубікі. Прыправіць да смаку соллю, цукрам, расолам з гуркоў. Укласці вараную цяляціну, нарэзаную кубікамі, і яйкі, нарэзаныя чацвярцінкамі або круглымі кольцамі. Усыпаць укроп і пасечаную зялёную цыбулю. Падаваць халодным.

На 400 г цяляціны з косткай 250 г гародніны, 300 г буракоў, 1/4 л вады, 200 г квашаных гуркоў, чвэрць літра расолу з гуркоў, 30 г мукі, чвэрць літра смятаны, 2 яйкі, 1 лыжка пасечанага ўкропу і зялёнай цыбулі, соль, цукар.

## ЧАРНАСЛІЎ У МАЛАЦЭ

Чарнасліў прамыйце, заліце кіпячым малаком і пакіньце ў ім на гадзіну. Затым усыпце цукровы пясок і добра перамяшайце. Пастаўце ў не вельмі нагрэтую духоўку і пакіньце ў ёй да таго часу пакуль на малацэ не паявіцца румяная пенка.

Падаваць можна гарачым і халодным.

На 200 г малака — 20 г чарнасліву, 10 г цукру.

## КАЛДУНЫ

Нарыхтаваць фарш: бараніну, ялавічыну і сала ачысціць ад плёнкі і сухажылля, абмыць і прапусціць цераз машынку да мяса або пасячы вялікім вострым нажом. Цыбулю ачысціць, сцерці на тарцы. Злучыць усё разам, дадаць зубок часныку, расцертага з соллю, да смаку соль, перац, маяранак. Дакладна расцерці, дадаўшы 2—3 лыжкі вады. Нарыхтаваць некрутое цеста. Цеста тонка раскатаць і выразаць кілішкам або формачкай невялікія блінцы (можна рэзаць на невялікія квадраты), у сярэдзіну пакласці фарш (у калдунах павінна быць многа фаршу), дакладна зашчыпаць берагі цеста, кідаць у пасоленую ваду не ўсе адразу, а так, каб яны свабодна ў ёй плывалі. Варыць каля 5—6 мінут у кіпячай вадзе. Вымаць шумоўкай на дуршлак, даць вадзе сцячы. Падаваць у булёне, у глыбокіх талерках. Калдуны смачны таксама аблітыя маслам з падрумяненымі тоўчанымі сухарамі.

На 150 г бараніны з задняй чвэрткі 150 г ялавічыны, 100 г ялавічынага сала або шпіку, 50 г цыбулі, 1 зубок часныку, соль, перац, маяранак. Цеста: 300 г мукі, 1 яйка, соль.

## ПЯЧОНКА, ФАРШЫРАВАНАЯ ПА-ГОМЕЛЬСКУ

Пячонку (лепш ялавічную) нарэжце пластамі таўшчынёй 1,5 см. Зверху пакладзіце адбіты пласт сала таўшчынёй прыкладна 0,5 см., на яго — слой падсмажанай рэпчатай цыбулі, пасыпце соллю і перцам. Скруціце рулетам, перавяжыце шпагатам і на 1—2 мінут апусціце ў кіпячы алей. Калі рулет зарумяніцца, выньце яго і патушыце ў невялікай колькасці булёну з цыбуляй, пятрушкай, морквай і сельдэрэем («салерам»).

Гатовы рулет астудзіце, здыміце шпагат і нарэжце тонкімі кольцамі.

На 150 г пячонкі 50 г сала, 4 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі алею, 1 сталовая лыжка пшанічнай мукі.



## БІГАС

Квашаную капусту дробна парэзаць, заліць невялікай колькасцю кіпячай вады і варыць да мяккасці. Ачысціць свежую капусту, абмыць, нашаткаваць, заліць невялікай колькасцю кіпячай вады, варыць таксама, як і квашаную капусту, разам з дробна нарэзанымі грыбамі. Свіное мяса абмыць, прасушыць, пасаліць, зарумяніць у гарачым тлушчы з усіх бакоў. Палажыць разам з грудзінкай у каструлю з квашанай капустай, тушыць да мяккасці. Сала нарэзаць кубікамі, растапіць. Скваркі пакласці ў бігас. Нарыхтаваць запраўку з тлушчу і цыбулі (бігас можна нарыхтаваць і без запраўкі). Свіное мяса і грудзінку вынуць, парэзаць кусочкамі. Свежую капусту змяшаць з квашанай і загусціць запраўкай. З каўбасы зняць скурку, нарэзаць колцамі. Свініну і грудзінку нарэзаць кубікамі і разам з каўбасай змяшаць з капустай, дадаць тамат, заправіць да смаку соллю, перцам, а калі трэба — цукрам, ускіпяціць. Чым болей гатункаў мяса ўваходзіць у бігас, тым ён смачнейшы. Можна дадаваць рознае смажанае мяса, як, напрыклад, цяляціну, свініну, дзічыну, хатнюю птушку і рознага роду каўбасныя вырабы і г.д. Дадатак чырвонага віна ў бігас значна паляпшае яго смак. Бігас можна нарыхтаваць таксама з квашанай капусты.

На 400 г квашанай капусты — 400 г свежай капусты, 200 г свініны без касцей, 150 г каўбасы, 100 г вэнджанай грудзінкі, 50 г сала, 50 г цыбулі, 5 г сушаных грыбоў, 50 г памідораў (тамат), 20 г мукі, соль, перац.

## ЯЙКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ ГРЫБАМІ

У вараных яек (адрэзаўшы з аднаго канца частку бялка) чайнай лыжкай выньце жаўток.

Рэпчатую цыбулю дробна нарэжце і падсмажце да залацістага колеру; сушаныя баравікі прамыйце, зварыце, насячыце і таксама падсмажце. Грыбы змяшайце з падсмажанай цыбуляй, дадайце яечны сечаны жаўток, соль і добра перамяшайце. Гэтай масай нафаршыруйце яйкі. Пакладзіце іх у салатнік і заліце соусам, прыгатаваным з маянэзу і смятаны. Афармляюць зяленівам.

На 3 яйкі — крышку сушаных баравікоў, 2 цыбуліны, 1 сталовая лыжка сметанковага масла, 1 сталовая лыжка маянэзу, 1 сталовая лыжка смятаны.

## ДРАНІКІ З МОЧАНЫМІ БРУСНІЦАМІ

У сырую цёртую бульбу ўсыпце пшанічную муку, соль, соду, перамяшайце і адразу ж спячыце аладкі.

У сок брусніц, пракіпячоны з цукрам, пакладзіце ягады і падайце да аладак.

На 400 г бульбы 1 сталовая лыжка пшанічнай мукі, крышку соды, 2 сталовыя лыжкі алею, 4 сталовыя лыжкі брусніц, цукар.

## САЛАТА «МІНСКАЯ»

Да адваранай бульбы, нарэзанай дробнымі кавалачкамі, дадайце нашаткаваную капусту, вараныя шампіньёны («пячаркі»). Запраўце воцатам, алеем і пасыпце цукровым пяском.

На 4 бульбіны — крышку шампіньёнаў («пячарак»), 1 цыбуліна, 2 сталовыя лыжкі квашанай капусты, 1 сталовая лыжка алею, воцат, цукар.






## АД АЎТАРА МУЗЫКІ

Здаўна адчуваўся недахоп спеўніка для вучняў пачатковых школ з асяроддзя беларускай нацыянальнай меншасці ў Народнай Польшчы. Многія настаўнікі музычнага выхавання гэтых школ маюць цяжкасці з падборам рэпертуару, які б адпавядаў вымаганням праграмы навучання ў пачатковай школе.

Ва ўступных заўвагах да «Праграмы навучання ў васьмікласнай пачатковай школе» (класы I—IV) чытаем: «Навучанне песень (спеву) з'яўляецца асноўным стыржнем кожнага ўрока музычнага выхавання. Песня, дзякуючы свайму слоўнаму і музычнаму зместу, уздзейнічае на развіццё пачуцця эстэтыкі ў дзяцей і выхоўвае пачуццёвыя адносіны іх да акружаючага свету». І далей: «Падбіраючы песні для паасобных класаў, настаўнік павінен мець на ўвазе дыяпазон голасу, мастацкую вартасць песні і выканаўчыя магчымасці дзяцей». Абапіраючыся на гэтыя ўказанні праграмы навучання, імкнуўся я выбраць сярод сотні вершаў Віктара Шведа такія, якія б з'явіліся найбольш блізкімі дзецям. Выбраў 44 вершы і напісаў да іх музыку, імкнучыся, каб музычны змест быў як найбольш згодны са зместам тэксту песні. Спеўнік адлюстроўвае амаль усебакова кола зацікаўленняў маладога чалавека: свет казкі і фантазіі паволі ператвараецца ад самых простых форм у постаць рэальных з'яў навакольнай рэчаіснасці.

Асноўная тэматыка песень зборніка ахоплівае такія справы, як: 1) навука і праца дзяцей, 2) назіранні над з'явамі прыроды і іх уздзеянне на людзей, 3) ахова прыроды, 4) дапамога бацькам у іх працы, 5) любоў да маці — найбліжэйшага чалавека, 6) пашана да настаўнікаў, 7) дружба паміж дзяцьмі розных нацыянальнасцей, 8) любоў да свае роднай мовы, роднай старонкі, ушанаванне яе мінулага, звычаяў і г. д.

Хіба ж няма неабходнасці пераконваць каго-колечы аб патрэбе выхоўваць гэтыя якасці ў маладым пакаленні. Кожны настаўнік — асабліва настаўнік музычнага выхавання — павінен у сваёй педагагічнай дзейнасці выразна бачыць іх і паслядоўна здзяйсняць на кожным уроку. Гэтае заданне з'яўляецца важным элементам у ідэалагічным выхаванні маладога пакалення.

Спеўнік падзелен на чатыры часткі:

I. Песенькі на адзін голас для вучняў I—II і III—IV класаў;
II. Песні-каноны, як падрыхтоўка да спеву на некалькі галасоў;
III. Песні двухгалосыя;
IV. Песні на голас з суправаджэннем фартэпіяна.

Гэтыя апошнія павінны выконвацца найбольш здольнымі вучнямі, якія маюць выдатны слух і прыгожы голас. Можа іх выконваць таксама група вучняў (2—3 і болей).

Наш песенны дадатак да календара на 1970 год павінен трапіць у першую чаргу ў рукі настаўнікаў музычнага выхавання і вучняў пачатковых школ, пачынаючы ад III класа, у якім пачынаецца навучанне песень па нотах.

Будзе ён таксама служыць добрым дапаможнікам у вядзенні пазакласных заняткаў у школах, святліцах, дзіцячых садах.

Э. Гойлік





ПЕРШАКЛАСНІКІ

*Moderato*

*mf*

Мы пер - ша - клас-ні-кі гур - бой вя - сё - лай, Па ве - ды хлы - ну - лі ў на - шу - ю шко - лу

## ПЕРШАКЛАСНІКІ

Мы, першакласнікі,
Гурбой вясёлай
Па веды хлынулі
У нашую школу.

Селі за партаю,
Дружна працуем,
Працай упартаю
Цемру знаюем.

Пазнаем літары,
Пазнаем словы,
Хутка навучымся
Роднае мовы.



*Moderato* **ЦІ ПАДРОС Я, ТАТА?**

*mf*

Па-га-вор-ку ад-мыс-ло-ву Чуў не раз ма-

лы Іг-нат Як пра-мо-чыць дождж ма-ё-вы,

Пад-рас-цеш ад-ра-зу шмат.

## ЦІ ПАДРОС Я, ТАТА?

Пагаворку адмыслову
Чуў не раз малы Ігнат:
«Як прамочыць дождж маёвы,
Падрасцеш адразу шмат».

Ён убег з дажджу у хату,
Ручайкі плывуць з валос.
Ад парога кліча тату:
— Тата, глянь, ці я падрос?





**ВУЧЫСЯ, МОЙ ДРУЖА**

*Andante cantabile*

*mp*

Ву-чы-ся нас-той-лі-ва, мно-га Паз-

на-еш на-ву-кі сак-рэт. І

*mf*

пой-дзеш шы-ро-кай да-ро-гай ў

1. над-та ці-ка-вы наш свет. У

2. над-та ці-ка-вы наш свет.

## ВУЧЫСЯ, МОЙ ДРУЖА

Вучыся настойліва, многа —
Пазнаеш навукі сакрэт
пойдзеш шырокай дарогай
У надта цікавы наш свет

Навука паможа талкова
Пазнаць жыцця кожны дзянёк,
Цаніць сваю родную мову
І родны бацькоўскі куток.

Вучыся, тваёю сяброўкай
Няхай кніжка будзе заўжды.
Навука — жыццёвай пуцёўкай —
Умела вядзе праз гады.

*Moderato*

## КОТ — АБЖОРА

*mf*

Да са-ла ў ка-мо-ры Да-хра-па-ўся ко-цік. Ля-жыць ця-пер хво-ры

1. Уз-дуў-ся жы-во-цік. 2. Уз-дуў-ся жы-во-цік.

## КОТ — АБЖОРА

Да сала ў каморы
Дахрапаўся коцік.
Ляжыць цяпер хворы,
Уздуўся жывоцік.

Прыйшоў за хвіліну
Пан доктар кашэчы:
— Ты хворы, мой сыну?
Дык трэба палечыць.

Баліць, кажаш, бруха,
Зрабіўся ты хворы.
Парады паслухай:
Не будзь больш абжорай!



*Allegretto*

## КРОТ

*mp*

Мно-га пад-зя-мель-ных грот На-ра-біў ма-лень-кі крот.
З жон-ка-ю па-ко-яў пяць. Доб-ра змог аб-ста-ля-ваць

*p — cresc*

Шмат па-ко-яў для дзя-цей Шмат пры-ём-ных для гас-цей,
Мно-га збу-да-ваў да-рог, Каб дае-хаць кож-ны мог.

*mf*

Шмат кла-до-вак пад за-пас,
Спа-ха-піў-ся рап-там ён,
Дзе-цям школь-ні-кам даў клас.
Што ня-ма ні-дзе а-кон.

## КРОТ

Многа падзямельных грот
Нарабіў маленькі крот.
З жонкаю пакояў пяць
Добра змог абсталяваць,
Шмат пакояў для дзяцей,
Шмат прыёмных для гасцей,

Шмат кладовак пад запас,
Дзецям — школьнікам даў клас
Многа збудаваў дарог,
Каб даехаць кожны мог.
Спахапіўся раптам ён,
Што няма нідзе акон.

*Allegro*

## КАЛЯРОВЫ ЗМЕЙ

*mf*

Ка-ля-ро-вы, па-пя-ро-вы,
Гэй, ха-дзі-це, Ко-ля, Ві-ця,
змей ля-ціць вы-со-ка. І Ва-ло-дзя
У-важ-на гля-дзі-це: Змей мой но-вы
што з ім хо-дзіць, Тра-ціць зме-я з во-ка з во-ка
ка-ля-ро-вы Пэў-на на ар-бі-це, арбі-це.

## КАЛЯРОВЫ ЗМЕЙ

Каляровы,
Папяровы
Змей ляціць высока.
І Валодзя,
Што з ім ходзіць,
Траціць змея з вока.

— Гэй, хадзіце,
Коля, Віця,
Уважна глядзіце
Змей мой новы,
Каляровы,
Пэўна, на арбіце!





*Moderato*

## МІКОЛКА І ПЧОЛКА

*mf*

За-гля-нуў ад-ной-чы ў ву-лей Ці-каў-ны Мі-
Пра-няў-шы-ся ўнуч-ка лё-сам Баб-ка ра-іць
кол-ка. Бя-жыць з пла-чам да ба-бу-лі
Ко-лю Дзе не трэ-ба не сунь но-са.
У-ку-сі-ла пчол-ка пчол-ка
Не бу-дзеш мець бо-лю бо-лю

## МІКОЛКА І ПЧОЛКА

Зазірнуў аднойчы ў вулей
Цікаўны Міколка.
Бяжыць з плачам да бабулі:
Укусіла пчолка.

Праняўшыся ўнучка лёсам,
Бабка раіць Колю:
— Дзе не трэба, не сунь носа,
Не будзеш мець болю.



## ХТО ПАМАЛЯВАЎ ЛІСТЫ?

*Andante cantabile*



Зо-ся ве-да-ла, што клё-ны
І да-ду-мац-ца не мо-жа,



Ле-там ме-лі ліст зя-лё-ны
Хто ма-лю-е так пры-го-жа.



Рап-там ба-чыць што ліс-ты Ма-юць ко-лер
Рас-тлу-ма-чыў та-та Зо-сі, Што ліс-ты ма-



за-ла-ты Рап-том ба-чыць
лю-е во-сень Рас-тлу-ма-чыў



што ліс-ты Ма-юць ко-лер
та-та Зо-сі Што ліс-ты ма-



за-ла-ты
лю-е во-сень.



*Moderato*

## ПАВУЧОК



Не-вя-ліч-кі па-ву-чок Цём-ны вы-най-



шоў ку-ток І па-ду-маў Зраб-лю сець,



Муш-ка мо-жа пры-ля-цець. На кра-сен-цах



доў-га ткаў, Доў-га му-ху піль-на-ваў



І ад-ной-чы чу-е ён Му-хі гор-кі





плач і стогн. Му-ха про-сіць: па-ву-чок



Ад-пус-ці мя-не бра-ток. Не на то-е



сець я ткаў, Каб ця-бе я ра-та-ваў.

## ХТО ПАМАЛЯВАЎ ЛІСТЫ?

Зося ведала, што клёны
Летам мелі ліст зялёны.
Раптам бачыць, што лісты
Маюць колер залаты.

І дадумацца не можа,
Хто малюе так прыгожа.
Растлумачыў тата Зосі,
Што лісты малюе восень.

## ПАВУЧОК

Невялічкі павучок
Цёмны вынайшоў куток
І падумаў: — Зраблю сець,
Мушка можа прыляцець.
На красенцах доўга ткаў,
Доўга муху пільнаваў.
І аднойчы чуе ён
Мухі горкі плач і стогн.
Муха просіць: — Павучок,
Адпусці мяне, браток.
— Не на тое сець я ткаў,
Каб цябе я ратаваў, —
Горда адказаў павук.
І тут мусе быў каюк.





## РУПЛІВАЯ ДАЧУШКА

Allegretto

mf

Лі - дач - ка што - дзень у ха - це
І з ус - меш - ка - ю вя - сё - лай
Па - ма - га - е ў пра - цы ма - ці
Па - бя - жыць то - ды ўжо ў шко - лу
Пад мя - це па - кой пры - го - жа
Вось дык слаў - на - я да - чу - ся
З гус - там свой па - сце - пе - ле жак
Не на - хва - ліц - ца ма - му - ся
Пры - ня - се ва - ды вя - дзер - ца
Сне - даць дасць ма - лень - кай Вер - цы.
Вы - пра - су - е свой каў - не - рык
Ра - нец з кніж - ка - мі пра - ве - рыць

## РУПЛІВАЯ ДАЧУШКА

Лідачка штодзень у хаце
Памагае ў працы маці.
Падмяце пакой прыгожа,
З густам свой пасцеле ложак,
Прынясе вады вядзерца,
Снедаць дасць маленькай Верцы,
Выпрасуе свой каўнерык,
Ранец з кніжкамі праверыць,
І з усмешкаю вясёлай
Пабяжыць тады ўжо ў школу.
— Вось дык слаўная дачуся, —
Не нахваліцца мамуся.
— Ленавацца надта брыдка, —
Пераконвае ўсіх Лідка.





## ГРАДКІ

*Moderato*
*mp*

Вы-дзя-лі-ла мат-ка Га-ну-лі дзве
А - ле град-кі ле-там за-няд-ба-ла
град-кі. На град-ках Га - ну - ля
гэ - так, што ві-таў я - е а - сот,
Са-дзі-ла цы - бу - лю. А так-са-ма
Як прыш-ла ў а-га-род.
трош-кі фа-со - лі, га - рош - ку,
Пят-руш-кі, шпі-на-ту. Ра - дыс-кі,
са-ла-ты, Па-мі-до-раў, а-гур-коў,
Ма-ку, мор-хвы, бу-ра-коў. Хоць бы-ло ўжо
гус-та, Яш-чэ і ка - пус-ты.

## ГРАДКІ

Выдзяліла матка
Ганулі дзве градкі.
На градках Гануля
Садзіла цыбулю,
А таксама трошкі
Фасолі, гарошку,
Пятрушкі, шпінату,
Радыскі, салаты,
Памідораў, агуркоў,
Маку, морквы, буракоў.
Хоць было ўжо густа —
Яшчэ і капусты.
Але градкі летам
Занядбала гэтах,
Што вітаў яе асот,
Як прыйшла ў агарод.





## КУРКА ЧУБАТКА І ГУСЯНЯТКІ

*Moderato*

*mf*

Па-са-дзі-ла цёт-ка Май-ка Кур-ку на гу-
Дзі-вяц-ца кур-ку без кан-ца У ва-ду да-
сі-ных яй-ках Неў-за-ба-ве Бы-ло шмат
юць ныр-ца — — Глян-це, што за дзі-ва-кі
Не-вя-ліч-кіх гу-ся-нят З жоў-та-дзю-бай
Не пу-жа-юц-ца ра-кі Кур-ка пла-ча-
ча-ра-дой Хо-дзіць кур-ка над ра-кой-
ко-ко-ко, У ра-цэ ва-да глы-бо-ка
Кур-ка бе-ра-гам і-дзе Гу-ся-ня-ты
У ва-дзе ма-е ма-лют-кі Па-та-піц-ца
усе ў ва-дзе
ма-гуць хут-ка

Coda

*mf*

Не ве-да-е
чу-бат-ка што гэ-та гу-ся-нят-кі

## КУРКА ЧУБАТКА І ГУСЯНЯТКІ

Пасадзіла цётка Майка
Курку на гусіных яйках.
Неўзабаве было шмат
Невялічкіх гусянят.
З жоўтадзюбай чарадой
Ходзіць курка над ракой.
Курка берагам ідзе,
Гусяняты ўсе ў вадзе.
Дзівяць курку без канца —
У ваду даюць нырца:
— Гляньце, што за дзівакі,
Не пужаюцца ракі.
Курка плача: — ко-ка, ко-ка,
У рацэ вада глыбока.
У вадзе мае малюткі
Патапіцца могуць хутка.
Не ведае чубатка,
Што гэта гусяняткі.





## ДАЛЁКА ДА СОНЦА





















## ПРАЦАВІТЫ ТЫДЗЕНЬ
























## ДАЛЁКА ДА СОНЦА

Мама вымыла кашулю
І сказала малой доньцы:
— Даражэнькая Ганула,
Ты павесь яе на сонцы.

З недаверам пазірае
Ганя ў неба сумным зрокам:
— Мама, я ж яшчэ малая,
А да сонца так далёка...

## ПРАЦАВІТЫ ТЫДЗЕНЬ

Памагала так умела
Гэля маме ў панядзелак.
А цялюткі дзень аўторак
Правяла ля бабкі хворай.
Як настала серада,
Тата працу ў садзе даў.
Шыла беленькі каўнер
Да сукенкі у чацвер.
Віншавалі ў пятніцу
У школе выдатніцу.
Як заўсёды, у суботу
Дома шмат было работы.
А ў святочную нядзелю
Надта ўсе хвалілі Гэлю.

## ЗІМА

*Allegro moderato*

*mf*

Пры - го - жы - я сня - жын - кі ў па - вет - ры зім - нім
У по - лі пту - ша - нят - кі дры - жаць як ліст бя -

юц - ца, На шэ - рых дрэў га - лін - ках Раў -
роз - кі, Шу - ка - юць са - бе хат - кі У за -

ню - сень - ка кла - дуц - ца, На скрозь зям - ля Ста -
ціш - шы на - шай вёс - кі. Дык толь - кі Стась, Я -

рэ - ча Пра - зяб - ну - ла зі - мо - ю, Пры -
гор - ка Ма - ро - зу не ба - яц - ца, Стра -

кры - ла сва - е пле - чы пя - ры - най сне - га -
лой ім чаць на гор - ку, на сан - ках па - ка -

во - ю
тац - ца

## ЗІМА

Прыгожыя сняжынкі
Ў паветры зімнім ўюцца,
На шэрых дрэў галінках
Раўнюсенька кладуцца.

Наскрозь зямля — старэча
Празябнула зімою,
Накрыла свае плечы
Пярынай снегавою.

У полі птушаняткі
Дрыжаць, як ліст бярозкі,
Шукаюць сабе хаткі
Ў зацішшы нашай вёскі.

Ды толькі Стась, Ягорка,
Марозу не баяцца,
Стралой імчаць на горку —
На санках пакатацца.



КАРМУШКІ

Moderato
mf



ха-ла-дэ-ча мёр-знуць птуш-кі Ля вяс-ко-вых
Ёж-це птуш-кі, ве-ся-лу́ш-кі Шчы-ра про-сім



хат Дзе-ці пры-няс-лі кар-муш-кі
вас. А вяс-но-ю нам пя-юш-кі



сып-ну-лі зяр-нят.
ус-лаў-ляй-це час.

## КАРМУШКІ

Халадэча. Мерзнуць птушкі
Ля вясковых хат.
Дзеці прыняслі кармушкі,
Сыпнулі зярнят.

Ешце, птушкі — весялушкі,
Шчыра просім вас.
А вясною нам, пяюшкі,
Услаўляйце час.





ДЗІЎНЫ МАСТАК

Moderato
mf



Як пра-чнуў-ся Ко-ля ра-на, Праз ак-но зір-



нуў на двор. Дык здзі-віў-ся ма-ля-ва-ны





шы-бы ў раз-нас-тай-ны ўзор. ўзор.

## ДЗІЎНЫ МАСТАК

Як прачнуўся Коля рана,
Праз акно зірнуў на двор,
Дык здзівіўся — маляваны
Шыбы ў разнастайны ўзор.

Як тут многа прыгажосці!
Хто ж памаляваць мог так?
Быў, відаць, тут нашым госцем,
Нейкі вопытны мастак.

— Быў мастак тут, — кажа мама,
Фарбаў срэбных шмат прынёс,
З барадою ён, вусамі,
А завуць яго — мароз.

## ШАРЫКІ

*Andante cantabile*

*mf*

Сло-і-чак знай-шоў-ся ў Міш-кі І са-ло-мін-

ка ма-ла-я, Крыш-ку мы-ла, ва-ды, крыш-ку

Бур-бал-кі ён вы-дзі-ма-е. Бур-бал-ка рас-

це бяс-кон-ца, Ва-біць Міш-ку ў свет ча-роў-ны.

Не-ба ёсць у ім і сон-ца І шпат-лі-кіх

дзі-ваў поў-на. Плы-ве бур-бал-ка па-во-лі

ўверх як на-ду-ва-ны ша-рык. Ра-зам з бур-бал-

кай на сто-лі Раз-лі-лі-ся Міш-кі ма-ры.

## ШПАКОЎНІ

*Allegro moderato*

*mf*

Яр-ка сон-ца за-свя-ці-ла Знік-нуў лёд з ра-

кі. Пры-ляс-лі ў са-ды на кры-лах Нам вя-сну шпа-

кі. Вес-на-вы пра-с-тор на-поў-ніў пту-шак звон-кі

*poco rit.*

спеў. Хлоп-цы ўла-дзі-лі шпа-коў-ні На га-лін-ах

*a tempo*

дрэў. – Вось спра-ўля-юць на-ва-сел-ле Птуш-кі тут і

там І ў-дзяч-ных мно-га трэ-ляў

Шлюць бу-даў-ні-кам.

## ШАРЫКІ

Слоічак знайшоўся ў Мішкі
І саломінка малая,
Крышку мыла, вады крышку —
Бурбалкі ён выдзімае.

Бурбалка расце бясконца,
Вабіць Мішку ў свет чароўны,
Неба ёсць у ім, і сонца,
І шматлікіх дзіваў поўна.

Плыве бурбалка паволі
Уверх, як надуваны шарык.
Разам з бурбалкай на столі
Расплыліся Мішкі мары.

## ШПАКОЎНІ

Ярка сонца засвяціла,
Знікнуў лёд з ракі.
Прыняслі ў сады на крылах
Нам вясну шпакі.

Веснавы прастор напоўніў
Птушак звонкі спеў.
Хлопцы ўладзілі шпакоўні
На галінах дрэў.

Вось спраўляюць навяселле
Птушкі тут і там.
І удзячных многа трэляў
Шлюць будаўнікам.



## ЛЯСНЫЯ ДАКТАРЫ

Allegro moderato




1–2. Пук, пук, Стук, стук, пук пук –



Сас-на, бя-ро-за, бук. Хва-рэ-юць у ба-ры.




1. А мы іх дак-та-ры. Нас дзят-лаў дак-та-роў.
2. А мы іх дак-та-ры, Ка-лі хто хво-ры з вас,



Тут шмат па-між ства-лоў Мы да-гля-да-ем бор.
Дык па-за-віце нас, Злых шкод-ні-каў кары,




Каб хтось-ці не па-мёр, не па-мёр.
Вам вы-муць дак-та-ры, дак-та-ры.

## СЫНОК І СВІСТОК

Allegro

mf

У ней-ка-е свя-та ма-лень-кі сы-
нок Звяр-нуў-ся да та-ты: Ку - пі мне свіс-
ток. А та-та ма-ло-му ска-заў: Сын-ку

poco rit

мой, Свіс-тком гэ-тым па-ру-шыш до-ма спа-

a tempo

кой. Спа-кой ме-ці хо-чаш Аз-ваў-ся ма-
лыш Свіс-таць бу-ду ў но-чы, Та-ды як ты
спіш.



## ЛЯСНЫЯ ДАКТАРЫ

Пук-пук, стук-стук, пук-пук,
Сасна, бяроза, бук
Хварэюць у бары,
А мы — іх дактары.

Нас, дзятлаў — дактароў,
Тут шмат паміж ствалоў.
Мы даглядаем бор,
Каб хтосьці не памёр.

Калі хто хворы з вас,
Дык пазавіце нас.
Злых шкоднікаў з кары
Вам вымуць дактары.

## СЫНОК І СВІСТОК

У нейкае свята
Маленькі сынок
Звярнуўся да таты:
— Купі мне свісток.

А тата малому
Сказаў: — Сыну мой,
Свістком гэтым дома
Парушыш спакой.

— Спакой меці хочаш, —
— Азваўся малыш, —
Свістаць буду ўночы,
Тады, як ты спіш.

## СЯДЗІЦЬ КОЛЯ НА ТАПОЛІ

*Allegretto*

*mf*

Я ад-важ-ны, ка-жа Ко-ля, Хут-ка ўле-зу
на та-по-лю. Ён з га-лі-ны на га-лі-ну
У-за-браў-ся на вяр-шы-ню. Як зір-нуў у
ніз на ха-ту, У-цяк-ла ад-ва-га у пя-ты.

*rall.*

Гор-ка пла-ча хваль-ко Ко-ля, Аб-ні-ма-ю-

*a tempo*

чы та-по-лю: Ой зні-мі-мя-не, ма-му-ся
Бо я злез-ці, сам ба-ю-ся.

## КАСМАНАУТ

*Allegro*

*mf*

Мі-хась на-да-ку-чаў тым: Ха-чу быць кас-
ма-наў-там даў-но аб гэ-тым я ма-ру

*rit.* ... *a tempo*

Каб лё-таць як Га-га-рын Га-то-вы я
ў да-ро-гу, Ад-ва-гі я ма-ю мно-га
Ні-ко-лі не хва-рэ-ю Чы-таць крыш-ку
ўжо ў-ме-ю Хоць толь-кі год мне вось-мы
Ма-гу ля-цець у кос-мас Бя-да ад-нак
у гэ-тым, не ма-ю я ра-ке-ты.

## СЯДЗІЦЬ КОЛЯ НА ТАПОЛІ

— Я адважны, — кажа Коля, —
Хутка ўлезу на таполю.
Ён з галіны на галіну
Узбраўся на вяршыню.
Як зірнуў уніз на хату —
Уцякла адвага ў пяты.
Горка плача хвалько Коля,
Абнімаючы таполю:
— Ой, знімі мяне, мамуся,
Бо я злезці сам баюся.

## КАСМАНАЎТ

Міхась надакучаў тым:
— Хачу быць касманаўтам.
Даўно аб тым я мару,
Каб лётаць, як Гагарын.
Гатовы я ў дарогу.
Адвагі маю многа,
Ніколі не хварэю,
Чытаць крышку ўжо ўмею.
Хоць толькі год мне восьмы,
Магу ляцець у космас.
Бяда аднак у гэтым —
Не маю я ракеты.



## ЕЗДЗІЎ ФЕДЗЯ НА ВЕЛАСПЕДЗЕ

Allegro

mf

Та - та Фе-дзю ра - на бу-дзіць Па-чы-на-е
Над-та та-та раз - ха-дзіў-ся Што ра-біў пы-

з ім га - вор-ку Ты ве-ла-сі - пед мець бу-дзеш
тае Фе - дзю Дык я та-тач- ка ву-чыў-ся

1. 2. Fine

за на-ву-ку, за пя - цёр-кі, за пя-цёр-кі.
ез-дзіць на-ве- ла - сі - пе-дзе - ла-сі-пе-дзе

p

Неў-за-ба - ве про-сіць та-ту да ся- бе нас-

таў-нік Лой-ка ка-жа: З Фе-дзяй сла - ба- ва-та

ат-рым-моў-ва- е ён двой-кі

D.C. al Fine.

## ЕЗДЗІЎ ФЕДЗЯ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

Тата Федзю рана будзіць,
Пачынае з ім гаворку:
— Ты веласіпед мець будзеш
За навуку на пяцёркі.

Неўзабаве просіць тату
Да сябе настаўнік Лойка.
Кажа: — З Федзяй слабавата,
Атрымоўвае ён двойкі.

Надта тата расхадзіўся...
— Што рабіў? — пытае Федзю.
— Дык я, татачка, вучыўся...
Ездзіць на веласіпедзе.



## ЯРАСЛАЎ СУП ЗГАТАВАЎ

Allegro moderato

mf

Сён - ня ў по - лі бацька, ма - ці
Хоць ва - рыў я - го дзень цэ - лы

Я - рас - лаў а - дзін ў ха - це
Хоць і быў суп пры - га - рэ - лы,

Дык па - ду - моў так і быць
Хоць і гор - кі быў да болю

Трэ - ба неш - та ім зва - рыць
Хоць і меў за мно - га со - лі

Кры - ху буль - бы кры - ху круп
Хоць буль - бі - ны ў мун - дзі - рах,




## ЯРАСЛАЎ СУП ЗГАТАВАЎ

*Сёння ў полі бацька, маці,*
Яраслаў адзін у хаце.
Дык падумаў: — Так і быць,
Трэба нешта ім зварыць!
Крыху бульбы, крыху круп —
На вячэру будзе суп.
Многа Славік натрудзіўся,
Покуль суп яго зварыўся.
Хоць варыў яго дзень цэлы,
Хоць і быў суп прыгарэлы,
Хоць і горкі быў да болю
Хоць і меў за многа солі,
Хоць і бульбіны ў мундзірах, —
Працаваў хлапчына шчыра.
Мама кажа: — Вось на славу
Суп зварыў сыночак Славік.



## ЯКАЯ НАЙЛЕПШАЯ ПАРА



## ЯКАЯ НАЙЛЕПШАЯ ПАРА

Шукаў Сярожа зводак
У змесце буквара,
Якая будзе года
Найлепшая пара?

Нам залатая восень
Нясе ўраджаю шмат,
Да спелых фруктаў просіць
Багатая клець — сад.

Уцехі колькі ўзімку,
Як белы ўсцяж прастор,
Сняжынкі — балярынкі
Завуць дзяцей на двор.

Прыемна надта ўвесну,
Калі сады цвітуць
І птушак трэлі — песні
Па-над зямлёй плывуць.

А як жа многа ўлетку
Прыгожае красы,
Як спеюць на палетках
Азімін каласы.

Даведаўся Сярожа
Са зместу буквара:
Аднолькава прыгожай
Ёсць кожная пара.

* * *



### ЦЯГНІК

Moderato




1. І - дзе бя-жыць з у- сіх ста-рон Шмат па-са-жы-раў
2. — пе- рад з гру-ка-там ка-лёс Ма- гут-ны ру-шыў



На пе-рон Кож-ны пер-ву-ец - ца, са-пе, на-
па-ра- воз. І за са-бо-ю цяг-не ён, А-



сі-лу тоў-піц - ца ў ку-пэ. Па-даў спуск па-ры
дзін ва-гон, дру- гі ва- гон. Так мно-га іх згу-



Ма-шы-ніст, Пра-рэз-лі-вы раз-даў - ся свіст А
біў-ся лік, Ву-жа-кай цяг-нец-ца цяг-нік. Шмат



на дзя- жур- на - га сігі-нал, Ад-плыў на-зад пус-
у-ва- браў-шы кон-скіх сіл, На пас-мах двух ста-




ты вак-зал. 2. На — — — —
— — — — лё-вых жыл Ста- лё-вы раз-бры-
зноў вак-зал, і

каў-ся конь Крэ-ша пад-ко- ва- мі а-гонь
зноў пе-рон, Лю-дзей на-тоўп з у-сіх ста-рон

Так, так, так, так, так, тах, тах, тах, тах, тах. Які раз-гон,
А за хві-лі-ну па-ра-воз зноў ру-шыў з гру-ка-

кі раз-мах, І мчыць на-пе-рад як ві-хор А
там ка-лёс І за са-бо-ю цяг не ён

Хут-ка па-кон-ва- е прас-тор Гус-ты стра-ля-е
дзін ва-гон, дру-гі вагон Так мно-га іх згу-

ў не- ба дым І вось мы ў го-ра-дзе дру-гім
біў -ся лік Ву-жа-кай цяг-нец- — —

— — —

ца цяг-нік.



## ЦЯГНІК

Ідзе, бяжыць з усіх старон
Шмат пасажыраў на перон,
Кожны нервуецца, сапе,
Насілу тоўпіцца ў купэ.

Падаў спуск пары машыніст,
Прарэзлівы раздаўся свіст,
А на дзяжурнага сігнал
Адплыў назад пусты вакзал.

Наперад з грукатам калёс
Магутны рушыў паравоз,
І за сабою цягне ён
Адзін вагон, другі вагон,

Так многа іх, згубіўся лік,
Вужакай цягнецца цягнік,
Шмат увабраўшы конскіх сіл,
На пасмах двух сталёвых жыл,

Сталёвы разбрыкаўся конь,
Крэша падковамі агонь,
Тах-тах, тах-тах, тах-тах, тах-тах,
Які разгон, які размах,

Імчыць наперад, як віхор,
Хутка паконвае прастор,
Густы страляе ў неба дым,
І вось мы ў горадзе другім.

Ізноў вакзал, ізноў перон,
Людзей натоўп з усіх старон,
А за хвіліну паравоз
Зноў рушыў з грукатам калёс,

І за сабою цягне ён
Адзін вагон, другі вагон,
Так многа іх, згубіўся лік,
Вужакай цягнецца цягнік,

* * *

## МЫ ВЯСКОВЫ ЛЮД ЗДАРОВЫ

*Allegro scherzando*



Ка жуць нам не едзь- це ў го- рад, там над-звы-чай
Там у го ра дзе да змо-ры Ле-кар бе-га-



мно- га хво-рых Там ша-ле е гроз- ны грып
е да хво-рых І за звы-чай по- тым ён



Вы на ба- віц- ца маг-лі б А ў на- шай
Сам хва-рэ- е мно-га дзён



вёс - цы Гры-па со- рак год жы



ве з Ар- хі -пам І хоць ён ста ры як грыб.



Не хва рэ е наш Ар-хіп
Не хва- рэ - е наш Ар-хіп



## МЫ ВЯСКОВЫ ЛЮД ЗДАРОВЫ

Кажуць нам: «Не едзьце ў горад,
Там надзвычай многа хворых,
Там шалее грозны грып —
Вы набрацца там маглі б».

А у нашай вёсцы Грыпа
Сорак год жыве з Архіпам,
І, хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.

Там у горадзе да зморы
Лекар бегае да хворых
І зазвычай потым ён
Сам хварэе многа дзён.

А у нашай вёсцы Грыпа
Сорак год жыве з Архіпам,
І, хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.

Мы вясковы люд здаровы,
Быццам бы дубы ў дуброве,
Нас і сто ліхіх хвароб
Абяссіліць не змагло б.

Вось у нашай вёсцы Грыпа
Сорак год жыве з Архіпам,
І, хоць ён стары, як грыб,
Не хварэе наш Архіп.

* * *

*Moderato* СЯБРОЎСТВА




Сеў за пар-та - ю Стась Шпак. Ра-зам з ім Ва -



ло-дзя Вус. Ста-ніс-лаў, гэ - та па-ляк,



А Ва-ло - дзя бе-ла-рус. Ста-ніс-лаў, гэ-



та па-ляк, А Ва-ло - дзя бе-ла-рус

## СЯБРОЎСТВА

Сеў за партаю Стась Шпак,
Разам з ім Валодзя Вус.
Станіслаў — гэта паляк,
А Валодзя — беларус.

Быццам родныя браты,
Парадніліся з сабой.
Іх дэвіз: пакрыўджан ты —
За цябе стаю сцяной.

За айчыну ў час вайны
Іх змагаліся бацькі.
Вось тым больш цяпер яны
Назаўсёды дружбакі.

* * *



## КАНІКУЛЫ

*Allegro*




Ка - ні - ку-лы, ка-ні-ку-лы вя-сё-лы лет-ні
роў-ня-дзі а-зёр-на-е Да ці-шы-ны ля-
сё - лы-мі, зда-ро-вы-мі Сіл ма-ю-чы за-



час. Пры- ва-бі-ла па-клі-ка-ла к са-
соў. Пад не-бам но-чы зор-на-е ван-
пас. Да пра-цы зноў га-то-вы-мі вяр-



бе пры-ро-да нас. Пры-ва-бі-ла па-
дроў-ніц-кіх кас-троў. Пад не-бам но-чы
нуц-ца ў школь-ны клас. Да пра-цы зноў га-




клі-ка-ла к са-бе пры-ро-да нас Кра-
зор-на-е ван-дроў ніц-кіх кас-троў Пад
то-вы-мі вяр-нуц-ца ў школь-ны клас.



і-ны на-шай воль-на-е няз-ве-да-ны пра-
со-ней-ка пра-мен-ня-мі што-дзён-на за-га-






хвалі мар-скіі да гор і до
це ло гар-та-ваць з Вя-

## КАНІКУЛЫ

Канікулы, канікулы,
Вясёлы летні час.
Прывабіла, паклікала
К сабе прырода нас.

Краіны нашай вольнае
Нязведаны прастор,
Заве ўсю моладзь школьную
Да хваль марскіх, да гор,

Да роўнядзі азёрнае,
Да цішыні лясоў,
Пад небам ночы зорнае
Вандроўніцкіх кастроў.

Пад сонейка праменнямі
Штодзённа загараць,
Бурлівых рэк струменнямі
Дух, цела гартаваць.

Вясёлымі, здаровымі,
Сіл маючы запас,
Да працы зноў гатовымі
Вярнуцца ў школьны клас.

* * *

# II. КАНОНЫ

## КОЦІКІ ВЯРБОВЫЯ

Moderato



Пе-ця ці-хо з ха-ты знік Сён-ня восьмы



са-ка-вік. З чым жа я вяр-ну-ў-ся



Він-ша-ваць ма-му-сю! - му-сю?

## КОЦІК — БЯЗБОЦІК

Кот праз акно ў халоднай хаце
Першы раз снег ў жыцці убачыў.
Марыў: — Пад гэтаю пярынкай
Я абагрэю лапкі, спінку.

Выбег без ботаў і без шапкі —
І адмарозіў вушы, лапкі.
Хворы ён сеў на бераг печы,
Аплакваючы лёс кашэчы.

Дзяўчынка просіць: — Не плач, коцік,
Я ўжо пашыла адзін боцік,
Хутка табе дам боты, шапку,
Не будуць мерзнуць вушы, лапкі.

Allegro

МЫШ У ЗБАНЕ




Звяр-та-ец-ца ра-на да ма-мы ма - лыш
Дык пэў-на ты вы-няў Мыш гэ-ту сы - нок




у зба-не смя-та- ны ўта-пі-ла-ся мыш
Не, мама, я кі - нуў ка-та ў зба- нок

## МЫШ У ЗБАНЕ

Звяртаецца рана
Да мамы малыш:
— У збане смятаны
Утапілася мыш!

— Дык, пэўна, ты выняў
Мыш гэту, сынок?
— Не, мама, я ўкінуў
Ката у збанок.

* * *





Allegro

КАБ ДОБРА СОН УБАЧЫЦЬ




Ба- буль-ка ў а- ку - ля - рах, На
Шкля-ны - е баб- ка во - чы на.




лож-ку за-дра-ма-ла Ма-лень-ка-я Та-
дзе-ла не і - на-чай Та-му каб сон у-



ма-ра ў - ба-чыў-шы ска- за - ла:
но-чы як ма-га лепш у -ба-чыць.

## КАБ ДОБРА СОН УБАЧЫЦЬ

Бабулька ў акулярах
На ложку задрамала.
Маленькая Тамара,
Убачыўшы, сказала:

— Шкляныя бабка вочы
Надзела не іначай
Таму, каб сон уночы
Як мага лепш убачыць.

* * *

ВОСЬ ДЫК ГЭТА БЫУ ШЧУПАК

Allegro

Ся - дзіць Ян - ка ля ра - кі Ву - дай ву - дзіць
шчу - па - кі І па - паў - ся на кру - чок
не - вя - ліч - кі шчу - па - чок. Ся - дзіць
Ян - ка ля ра - кі

## ВОСЬ ДЫК ГЭТА БЫЎ ШЧУПАК

Сядзіць Янка ля ракі
Закідае вуду.
Сняцца хлопцу шчупакі
Проста на паўпуда.
І папаўся на кручок
Невялічкі шчупачок.
Наш рыбак тут, рад не рад,
Адпусціў яго назад.
Нехта з Янкавых сяброў
Запытаўся пра улоў.
А наш Янка кажа так:
— Вось дык быў гэта шчупак!
Велізарны, як вяпрук —
Не ўтрымаў яго мой крук!

* * *



# III. ПЕСНІ НА ДВА ГАЛАСЫ

КОЦІК — БЯЗБОЦІК

Moderato

Кот праз ак - но ў ха - лод - най ха - це, Пер - шы раз снег
у жыц - ці ў - ба - чыў. Ма - рыў пад гэ - та - ю пя - рын - кай
я а - ба - грэ - ю лап - кі спін - ку

## КОЦІКІ ВЯРБОВЫЯ

Пеця ціха з хаты знік,
Сёння — восьмы сакавік.
З чым жа я вярнуся
Віншаваць мамусю?

Стары дзядзька Яраслаў
Вось якую раду даў:
На вярбе шмат коцікаў,
Жоўценькіх жывоцікаў.

Трэба толькі іх сабраць,
З імі маму віншаваць.
Хутка наш малы герой
Апынуўся пад вярбой.

Дзе ж вы, мае коцікі,
Жоўтыя жывоцікі?
Дзе вас, коцікі, шукаць,
Як мне маму прывітаць?

Смяюцца дзяўчынкі:
— Глянь — вось на галінках,
Жоўтыя, пуховыя
Коцікі вярбовыя.

ТЫ БЫЛА Ў СНЕ ТАКСАМА

*Allegro moderato*

*p*

Сон та-кі ці - ка - вы Сла-ва сніў у
но - чы, Ма - ма про-сіць Сла - ву:
„Рас-ка-жы сы-но - чак". „Рас-ка-заць не
бу - ду, Да-ра-га-я ма - ма
Ты ж бы-ла ў - сю - ды ў гэ-тым сне-так-
1. са ма 2. са - ма

## ТЫ БЫЛА Ў СНЕ ТАКСАМА

Сон такі цікавы
Слава сніў уночы.
Мама просіць Славу:
— Раскажы, сыночак.

— Расказваць не буду.
Дарагая мама.
Ты ж была усюды
У гэтым сне таксама.

* * *



ВОСЕНЬ

*Andante*

*mp*

Даж-джлі-вы - я дзя-нёч-кі пры-нес-лі су-му
Ад - на толь-кі ра-ді - на ста-іць на па-над-
мно - га На - жоў-клы-я ліс - точ - кі,
і вор - ку Пры-го жа як дзяў-чы - на

Fine

З дрэў сце-люц-ца пад но-гі Су-му-юць ка-
У чыр-ва-нень-кіх па-цёр - ках.
ля ты-ну Маў-клі-вы-я бя-ро-зы.
Ім кроп-лі на га - лі нах
Сплы-ва-юць быц-цам слё-зы

D.C. al Fine

## ЁЛКА

*Moderato e molto cantabile*

mp

На сан - ках Мі - кол - ка ўсцю - дзёны ма - роз

роз Зя - лё - ну - ю ёл - ку да

ха - ты пры - вёз у цац - кі пры -

бра - на, Пры - нес - ла з са - бой, Пах

rit.

ле - су дух - мя - ны Свя - точ - ны нас -

a tempo

трой І хоць ма - роз кол - кі на

шы - бі - нах лёд Пры - ем - на так

з ёл - кай сус - трэць Но - вы год



## ВОСЕНЬ

Дажджлівыя дзянёчкі
Прынеслі суму многа.
Пажоўклыя лісточкі
З дрэў сцелюцца пад ногі.

Сумуюць каля тыну
Маўклівыя бярозы.
Ім кроплі па галінах
Сплываюць, быццам слёзы.

Адна толькі рабіна
Стаіць на панадворку,
Прыгожа, як дзяўчына,
Ў чырвоненькіх пацёрках.

* * *

## ЁЛКА

На санках Міколка
Ў сцюдзёны мароз
Зялёную ёлку
Дахаты прывёз.

У цацкі прыбрана
Прынесла з сабой
Пах лесу духмяны,
Святочны настрой.

І хоць мароз колкі,
На шыбінах лёд,
Прыемна так з ёлкай
Сустрэць Новы год.

* * *










## КАБ ПАЕХАЛА НАМ ХАТА

Першы раз цягнік у горад
Вёз маленькага Рыгора.
Дым, што хлынуў з паравоза
Выціскаў Рыгору слёзы.

Калі ён ішоў дадому,
З коміна дымок знаёмы
Лентай плыў па панадворку.
Адазваўся тут Рыгорка:
— Вось было б цікава, тата,
Каб паехала нам хата.

* * *

## ПЕРШЫ ЎРОК

Вераснёвая цёплая раніца —
Дзынкнуў першы ўрачысты званок
З хваляваннем вялікім настаўніца
Пачынае свой першы ўрок.

Перад ёю адказнасць грамадная —
Душ дзіцячых яна інжынер.
Паплылі з вуснаў словы суладныя
Апраўдоўвае важны давер.

Сваёй працай, умелымі ўрокамі
Падапечных маленькіх дзяцей
Павядзе на дарогу шырокую,
Каб было у жыцці ім лягчэй.

Верыць, з працаю цяжкаю
справіцца,
Кожны будзе больш пэўным тут
крок.
Таму сёння шчаслівай настаўніцай
Пачынае свой першы урок.








## БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Дзе б толькі мяне лёс не кінуў.
З далёкіх і блізкіх дарог,
Заўсёды знайду пуцявіну
На родны, бацькоўскі парог.

Знаёмае ўсё тут з маленства,
Прырода, усмешкі людзей.
Аднак штораз менш падабенства
З тым, што аглядаў тут раней.

Дарогі, дарогі... і тыя
Змяняюць свой від на вачах.
Уздоўж іх слупы — вартавыя
Трымаюць драты на плячах.

Пабег па дратах, як па жылах,
Пад стрэхі вясковыя ток.
Дзе цьмяна капцілка свяціла,
Святло залунала здалёк.

Чуваць гул матораў на нівах,
І песні чуваць мілы тон
Людзей працавітых, руплівых,
Што выйшлі збіраць свежы плён.

О, колькі ж у вас прыгажосці,
Палі з ураджаем, лугі,
Мясціны маёй маладосці,
Бацькоўскі парог дарагі...

* * *

## ВЯТРАК

**Andante cantabile**

*Andante cantabile*

*mp*

*mp*

*p*

За вёс-кай у по-лі на ўз-гор-ку

ўзнё-ецца гас-ці-нец баль-шак

Аб до-лі за-ду-маў-ся

гор - кай ста-ры спа-рах-не-лы вят-рак

*poco cresc.......*

*p*

Аб до-лі за-ду-маў-ся гор-кай ста-ры, спа-рах-не-лы вят-

1.2. -рак. 3. -рак.

Moderato

МУХАМОР

Moderato

f

mf

Я пры-га-жун на цэ-лы бор!

mf

хва-лі-ся рос-лы му-ка-мор

Ці па-ка-заць вы мне маг-лі б

дру-гі та-кі пры-го-жы грыб? Коу-зкі ні-зар-нень-

mp

p

кі мас-ляк Я-му на гэ-та ка-жа так:

*mf*

Хоць да-ска-на-лы твой ўбор Ды ты ат-ру-та

Му-ха-мор. - Му-ха-мор.



## ВЯТРАК

За вёскай, у полі, на ўзгорку,
Дзе ўецца гасцінец — бальшак,
Аб долі задумаўся горкай
Стары, спарахнелы вятрак.

«Найбольш адзінокі на свеце,
Аджыў, як відаць, я свой век.
З мяне насміхаецца вецер,
Пакінуў мяне чалавек.

Не рвуцца ў палёт мае крылы,
Шчаслівых не ўбачыць ім дзён,
Не хопіць, напэўна, ім сілы,
Каб з месца крануць мой жарон...»

## МУХАМОР

—Я прыгажун на цэлы бор, —
Хваліўся рослы мухамор. —
Ці паказаць вы мне маглі б
Другі такі прыгожы грыб?

Коўзкі, мізэрненькі масляк
Яму на гэта кажа так:
— Хоць дасканалы твой убор,
Ды ты атрута — мухамор.

НЕ ЗАБЫВАЙ

Марш

Марш

*f*

*mf*

Ка-лі за школь-най пар-тай

*mf*

сы-ну ся-дзеш каб ве-ды зда-бы-ваць Ву-чы-ся

што ў жы-ццi па-бi-нен Шчы-ра лю-біць не за-бы-

ваць не за-бы-вай ты баць-кі, мат-кі ў сэр-цы

май заў-жды іх лёс не за-бы-вай пад вя-зам

